Літ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 12 (4607) 25 сакавіка 2011 г.

## У нумары:



# Касцёр, якому ніколі не згаснуць

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**



Калі не ведаеш, адкуль родам Аляксей Зарыцкі, не абавязкова зазіраць у даведнікі ці энцыклапедыю. Дастаткова ўзяць у рукі ягоныя “Выбраныя творы” ў двух тамах і адшукаць верш “Лепшая вуліца”. Знайсці гэтае выданне не так і цяжка, бо хоць двухтомнік і пабачыў свет у 1981 годзе, ён захаваўся не толькі ў буйных кнігасховішчах: як-ніяк, а наклад — нават не верыцца! — восем тысяч асобнікаў. Верш жа мае менавіта такую, а не іншую назву таму, што на ўсё жыццё для Аляксея Аляксандравіча самай лепшай засталася вуліца, адкуль ён пайшоў у вялікі свет жыцця. Адбылося гэта 22 сакавіка 1911 года ў Хоцімску, а вуліца адметная тым, што больш нідзе такую не напаткаеш:

*Барабанаўка-вулка,*
*Дзе былінкай з настырняга зерня*
*Я ўзышоў на забытай усімі зямлі,*
*Была спакон веку*
*ў Смаленскай губерні,*
*А суседнія вулічкі*
*ўжо ў Магілёўскай былі.*

Таму і “калыхалася мерна калыска: // То з Расіі ды ў Беларусь, // То ў Расію з Беларусі”. Гэта і дазволіла А. Зарыцкаму прызнацца — ці то ўсур'ёз, а можа, і з мудрай усмешкай, што ніколі не пакідала яго: “Змалку лёг я на правільны курс // І з яго не саб'юся”.

Не абавязкова, праўда, у гэтым вытлумачэнні шукаць інтэрнацыянальную падсветку. Правільнасць і ў іншым: А. Зарыцкі стаў адным з тых, хто, патрапіўшы на хвалю рэвалюцыйных пераўтварэнняў, здолеў цягам часу выдатна раскрыць свае магчымасці. Але, хоць і нарадзіўся ў Хоцімску, ранняе маленства правёў пад Жлобінам, потым жыў у Рагачове. У школе пасябраваў з Аляксандрам Сінічкіным — будучым паэтам Алесем Жаўруком. Так і з'явіліся піянеры-сатырыкі Кіка і Кока, якія выпускалі газету “Смех і слёзы” і са сцэны дэкламавалі свае сатырычна-гумарыстычныя куплеты.

Пасля пераезду з бацькамі ў 1927 годзе ў акруговай газеце “Камуніст” выступіў са сваім першым надрукаваным вершам. Разам з Алесем Жаўруком, Васілём Віткам, Сяргеем Грахоўскім, Міколам Лобанам, Хвядосам Шынклерам уваходзіў у мясцовае аддзяленне “Маладняка”, якім кіраваў Міхась Лынькоў, ён жа галоўны рэдактар “Камуніста”.

Наперадзе ж было сяброўства з Аляксандрам Твардоўскім, які, дарэчы, аказаў на яго значны ўплыў. Адбылося гэта падчас вучобы на нямецкім факультэце Маскоўскага інстытута замежных моў, пасля заканчэння якога быў пакінуты асістэнтам на кафедры нямецкай мовы. Збіраўся ўсур'ёз заняцца славянскімі мовамі, спецыялізавацца на гісторыі рускай мовы.

Ды прызвалі на армейскую службу, быў літработнікам дывізіённай газеты. З пачаткам Вялікай Айчыннай вайны — на фронце, удзельнічаў у баях пад Масквой, потым на Волхаўскім і Ленінградскім франтах як літаратар-перакладчык, інструктар армейскага палітаддзела. У далейшым стаў адным з самых знакамітых беларускіх перакладчыкаў. Па-беларуску пераўвасабляў творы Адама Міцкевіча і Генрыха Гейне, Ёгана Гётэ і Поля Верлена, Шандара Пецёфі і Франсуа Віёна, Івана Франко і Максіма Рыльскага… Кажучы назвай кнігі яго выбраных перакладаў, сапраўды ішоў “У свет па песні”. Ішоў, да месца згадаць зборнік ягоных успамінаў і крытычных артыкулаў, “За словам-падарункам”.

Аднак для ўсіх нас, ягоных чытачоў, найперш гэтым, вобразна кажучы, словам-падарункам сталі кнігі паэзіі “Дняпроўскае рэха”, “Арліная крыніца”, “Світанскія сады”, “Мая асяніна”, “Каля вячэрняга кастра”, “Трывожная госця” і іншыя. Будучы пранікнёным лірыкам, А. Зарыцкі ў сваіх паэмах раскрыўся як эпік, што лішні раз сведчыць пра шматграннасць ягонага таленту. Як і тое, што пісаў прозу і нават выдаў на рускай мове зборнік апавяданняў “Верасковый мед”.

Ёсць у Аляксея Аляксандравіча верш “Палескі вечар”. Вельмі даўно напісаны, яшчэ ў 1937 годзе. Ды, як гэта калі-нікалі бывае, тое, што з'яўляецца з-пад пяра тады, калі паэт толькі самасцвярджаецца як творчая асоба, не проста вытрымлівае выпрабаванне часам, а з агледзін яго, гэтага часу, успрымаецца адным з найбольш значных ягоных мастакоўскіх набыткаў. У кожным разе, цудоўны майстра паэзіі і не менш цудоўны знаўца яе Аляксей Пысін адносіў гэты твор “да ўзораў сапраўднай паэзіі”. Істотны момант: да паэзіі ў цэлым, а не толькі ў дачыненні да напісанага А. Зарыцкім. І не адной паэзіі беларускай.

Верш “Палескі вечар” хочацца прыгадаць і з іншай нагоды. У ім асабліва адчувальна прысутнасць самога паэта. Урэшце, у гэтым і свайго роду заканамернасць: чым твор больш значны, па-мастацку дасканалы, тым у большай ступені паўстае ў ім і сам аўтар, зліваючыся ў адно цэлае са сваім лірычным героем, а герой гэты захапляецца пабачаным, удыхаючы яго ў сябе, прапускаючы праз сябе:

*Палескі вечар выйшаў на раку,*
*Брыдзе па ціхіх берагах паволі,*
*Спявае недзе дзеўчына ў садку,*
*Рахманы вол прылёг каля таполі.*

*Гай засынае, спіць дрымучы бор,*
*І Прыпяці Дняпро шырокі сніцца.*
*Гарыць над самай кручаю касцёр,*
*Рыбацкі казанок над ім дыміцца.*

Пасля гэтай страфы ідзе яшчэ адна. Але менавіта чацвёртая, заключная, пры пэўнай яе дэкларатыўнасці прываблівае не менш, чым тыя, у якіх гучыць паэтава захапленне прыродай, дзе ён так хораша і непаўторна перадае еднасць чалавека з ёю, а разам з тым выяўляе і сваю ўласную лучнасць з тым, што вечнае. Менавіта гэтыя заключныя радкі цяпер, калі мы згадваем А. Зарыцкага, захапляемся яго талентам і перагортваем старонкі ягонага жыцця, набываюць асабліва глыбокі сэнс. Паядноўваючы сабой дзень учарашні і сённяшні, дазваляючы сягнуць і ў заўтрашняе, яны надзіва яскрава сведчаць аб прысутнасці Аляксея Аляксандравіча сярод нас, нагадваюць, што ён жывы сярод жывых:

*Хацеў бы я на гэтай*
*кручы стаць*
*Кастром,*
*што пахне дымам і смалою,*
*Каб над ракой*
*то полымем шугаць,*
*То іскрай узлятаць малою.*

Не згасае літаратурны касцёр А. Зарыцкага. Бо ўсё лепшае, напісанае гэтым таленавітым майстрам слова, незалежна ад таго, у якім жанры ён працаваў, высокай мастакоўскай пробы. Таму і будуць заўсёды запатрабаваны ягоныя кнігі тымі, хто любіць родную мову, беларускую літаратуру. Тымі, хто ўпэўнены, што духоўнасць — гэта акурат тое, што робіць чалавека чалавекам.

## Пункціры

Дні культуры Венгрыі пройдуць у Беларусі летам 2011 года. Вялікая цікавасць прадстаўнікоў нашых двух народаў адно да аднаго выявілася ў чэрвені 2010 года, падчас правядзення ў Венгрыі Дзён культуры Беларусі. Гэта і стала падставай для падрыхтоўкі новага сумеснага мерапрыемства.

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія Рэспублікі Беларусь, ЗАТ "Другі нацыянальны тэлеканал" і ЗАТ "Сталічнае тэлебачанне" абвяшчаюць правядзенне Сёмага Нацыянальнага тэлевізійнага відэаконкурсу "Тэлевяршыня". Конкурс праводзіцца па 21 намінацыі. Урачыстая цырымонія ўзнагароджання пераможцаў адбудзецца ў другой палове красавіка 2011 года.

Помнік абарончага беларускага дойлідства першай паловы XVI стагоддзя, царква-крэпасць Раства Прасвятой Багародзіцы ў вёсцы Мураванка Шчучынскага раёна Гродзенскай вобласці будзе прэтэндаваць на ўнясенне ў Спіс сусветнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА. Падрыхтоўку дасье па гэтым аб'екце плануецца завяршыць у канцы 2011 года.

Падведзены вынікі рэспубліканскага літаратурнага конкурсу "Дзеці пішуць для дзяцей!" Гэта першы літаратурны конкурс для дзяцей-сірот, дзяцей-інвалідаў, які правёў Беларускі дзіцячы фонд. На конкурс з усёй рэспублікі было даслана больш як 600 работ. Работы 26 дзяцей былі адзначаны як пераможцы ў намінацыях "Проза", "Казка", "Паэзія", "Публіцыстыка".

Нацыянальная кінастудыя "Беларусьфільм" завяршыла работу над хранікальна-дакументальным фільмам "Зямля і неба", прысвечаным Язэпу Драздовічу. Драздовіч праславіўся як пачынальнік касмічнай тэмы ў беларускім выяўленчым мастацтве, таму космас з'яўляецца асноўным драматычным стрыжнем стужкі. Аўтар сцэнарыя і рэжысёр — Ірына Волах.

Грузінскія артысты балета выступяць на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь падчас чэрвеньскіх гастроляў. Тбіліскі тэатр прывязе некалькі спектакляў, сярод якіх будзе славутая "Лаўрэнсія" ў пастаноўцы Вахтанга Чабукіяні. Для беларускага гледача рыхтуецца сюрпрыз – сумеснае выступленне ў спектаклях грузінскіх і беларускіх артыстаў.

Выстаўка французскай мастачкі Франсуазы Лімузі "Вада і скала" пачала сваё вандраванне па Беларусі з арт-цэнтра Марка Шагала ў Віцебску. Асноўнай тэмай творчасці Лімузі з'яўляецца прырода. Некалькі пейзажаў напісаны ёю спецыяльна для беларускага праекта. Пасля Віцебска выстаўка накіруецца ў Гомель, а восенню будзе дэманстравацца ў Мінску.

Незвычайная скульптура-фантан будзе ўсталявана ў цэнтры Маладзечна да рэспубліканскага фестывалю-кірмашу "Дажынкі-2011". Прысвечаная самаму светламу чалавечаму пачуццю — каханню, — яна будзе складацца з дзвюх фігур: юнака і дзяўчыны, якія абменьваюцца купальскімі вянochкамі. Аўтар праекта — сталічны скульптар Уладзімір Жбанаў.

Да шанавання народных свят далучаюць жыхароў сталіцы мінскія музеі. Шырока "Гуканне вясны" было адзначана ў Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту, а 26 красавіка запрашаюць клікаць вясну супрацоўнікі філіяла Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь "Дом-музей I з'езда РСДРП" і філіяла Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы "Вязынка".

Падрыхтавала
Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

### Людміла Кебіч:

# «Мне пашанцавала на калег…»

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

**Гродзенскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі — адно з самых дзейсных. Мы папрасілі яго старшыню, Людмілу Кебіч, расказаць пра тое, як удаецца ёй кіраванне, і падзяліцца бліжэйшымі планамі творчага аб'яднання.**

**— Людміла Антонаўна, начальніцтва — справа заўжды цяжкая. Тым больш, калі падначаленыя — творцы. Аднак, у кожнага моцнага кіраўніка ёсць свае рэцэпты поспеху. А якія яны ў вас?**

— Заўважыла, што кіраваць творчым калектывам атрымліваецца паспяхова ў тым выпадку, калі кіраўнік сам творчы чалавек, сам умее нешта ствараць не горш за іншых. Дарэчы, не люблю слоў "начальнік", "кіраўнік". Наша беларускае "старшыня" — самае тое, старэйшы сябрук, значыць. Я лічу, што кіраванне ў пісьменніцкім асяроддзі дапушчальна толькі дэмакратычнае. Старшыня ж адзін — кім бы ён ні быў — не здолее дабіцца поспеху. Побач з ім павінны быць калегі-паплечнікі. Мне пашанцавала на калег — намесніка, сакратара і бухгалтара. Яны з'яўляюцца маімі галоўнымі дарадцамі і прываднікамі творчых ідэй, працуюць самаахвярна і натхнёна. Гэта Браніслаў Ермашкевіч, Ала Нікіпорчык і Анатоль Апанасевіч. Шматлікія творчыя справы дапамагае вырашаць Савет аддзялення, у склад якога ўваходзяць аўтарытэтныя пісьменнікі Алена Руцкая, Ірына Фамянкова, Мар'ян Дукса, Пётр Сямінскі.

Пісьменнікі, як і ўсе творчыя людзі, вельмі чуллівыя, ранімыя, безабаронныя ў жыцці. Магчыма, таму, што бачаць гэтае жыццё інакш, чым астатнія, прапускаюць яго праз прызму ўласнага непаўторнага таленту. Старшыня мусіць памятаць і пра гэта.

**— Ці ўдаецца гродзенскім пісьменнікам наладзіць трывалыя кантакты з абласным кіраўніцтвам?**

— У нас добрыя стасункі і трывалыя сувязі з Гродзенскім абласным выканаўчым камітэтам, у прыватнасці, з упраўленнем ідэалагічнай работы і ўпраўленнем культуры. Адраджэнне выпуску літаратурных альманахаў на Гродзеншчыне (сёлета выйшаў другі нумар альманаха "На Нёманскай хвалі"), вандроўкі па літаратурных мясцінах і сустрэчы з насельніцтвам раёнаў, удзел у семінарах, святах і мерапрыемствах, прысвечаных памятным датам у гісторыі краіны, правядзенне конкурсаў сярод моладзі і шмат іншых нашых прапаноў знаходзяць разуменне і шчыра падтрымліваюцца абласным кіраўніцтвам. Ужо практычна вырашана пытанне пра зацвярджэнне абласнога літаратурнага конкурсу імя Цёткі, пра які Гродзенскае аддзяленне хадайнічала перад кіраўнікамі аблвыканкама. Думаю, гэтая з'ява будзе яшчэ адным доказам нашага плённага супрацоўніцтва на карысць росквіту рэгіянальнай літаратуры, якую, дарэчы, прадстаўнікі мясцовай улады з задавальненнем спасцігаюць, цікавяцца ёю, таму і падтрымліваюць.

**— Якія найбольш адметныя падзеі ў жыцці Гродзенскай пісьменніцкай арганізацыі адбыліся ў гэтым годзе?**

— Памятным было ўручэнне прэміі імя А. І. Дубко Гродзенскага аблвыканкама "За творчыя дасягненні ў галіне культуры і мастацтва". У намінацыі "Пісьменнік года" яе сёлета атрымала паэтэса Ала Нікіпорчык за кнігу вершаў "На грани — счастья". Прыгадваецца прыгожы юбілейны вечар дзіцячага пісьменніка Віктара Кудлачова ў абласной дзіцячай бібліятэцы і цёплая сустрэча пісьменнікаў са школьнікамі ў бібліятэцы вёсцы Васілішкі Шчучынскага раёна. Прэзентацыя зборніка песень "Словы прызнання" ў Гродзенскай гімназіі № 5. Аўтары — Генадзь і Людміла Кебічы. А яшчэ ў нас была надзвычайная прэзентацыя альманаха "На Нёманскай хвалі" ў Ваўкавыскай раённай бібліятэцы. Праўда шмат і клопатаў таксама. Але гэта — прыемныя клопаты. Бо вынікам становіцца адчуванне пісьменнікам запатрабаванасці і ўзнікненне новых творчых планаў.

## Навіны літжыцця: Гродзеншчына

***Званне*** *"Ганаровы член Саюза пісьменнікаў Беларусі" атрымала гродзенская пісьменніца Марыя Шаўчонак. З гэтай нагоды Марыю Сіланцьеўну ўшаноўвалі на мерапрыемстве, прысвечаным Сусветнаму дню паэзіі.*

***7 красавіка*** *ў Гродзенскім абласным навукова-метадычным цэнтры народнай творчасці пройдзе творчы вечар празаіка Пятра Сямінскага. На вечары будзе прадстаўлена новая кніга пісьменніка "Счастье всегда впереди".*

***На першым*** *тыдні красавіка на базе Гродзенскага абласнога аддзялення СПБ адбудзецца пасяджэнне абласнога каардынацыйнага савета, у які ўваходзяць усе старшыні грамадскіх аб'яднанняў вобласці. Пісьменнікі раскажуць прысутным пра свае справы і дасягненні.*

***На другую*** *палову красавіка запланавана паездка групы пісьменнікаў, членаў Гродзенскай абласной арганізацыі СПБ, у Слонім на прэзентацыю альманаха "На Нёманскай хвалі" і з візітам у Музей пісьменнікаў Слонімшчыны, створаны пры мясцовай бібліятэцы.*

***У маі*** *спаўняецца 85 гадоў Раісе Байковай. Яна — старэйшая паэтэса Гродзенскага аддзялення СПБ. Рыхтуецца вечарына, прысвечаная юбілею, і прэзентацыя новага зборніка Раісы Данілаўны, у які ўваходзяць выбраныя вершы розных перыядаў.*

***Гродзенскае*** *абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі рыхтуецца да ўдзелу ў Міжнародным фестывалі рускай паэзіі, які адбудзецца ў Брэсце і ў маі 2011 года. Ужо абмяркоўваюцца кандыдатуры двух маладых і двух ужо вядомых паэтаў, якія стануць спаборнічаць за перамогу з лепшымі паэтамі іншых рэгіёнаў.*

***У ліпені*** *гэтага года гродзенскія пісьменнікі стануць гаспадарамі свята з нагоды 135-годдзя Алаізы Пашкевіч (Цёткі). У планах гродзенцаў таксама ўдзел у святкаванні юбілею Максіма Багдановіча, да якога плануецца выданне зборніка вершаў паэтаў Гродзеншчыны, прысвечаных Багдановічу.*

## Прэзентацыі

# Кніга з легендарнай абіцелі

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,
фота Кастуся Дробава.

**Полацкі Свята-Еўфрасіннеўскі манастыр з самага заснавання свайго быў цэнтрам асветніцтва і далучэння да кніжных ведаў. Узнікненне пры абіцелі ўжо ў наш час выдавецтва — з'ява заканамерная. Кнігі манастырскага выдавецтва, напісаныя і падрыхтаваныя манахінямі і паслушніцамі, ужо шырока вядомыя і ў Беларусі, і за яе межамі. Адну з найбольш адметных сваіх работ, "Полоцкое радование" — юбілейнае выданне, прысвечанае 100-годдзю перанясення святых мошчаў прападобнай Еўфрасінні з Кіева ў Полацк, сёстры прывезлі ў Мінск, каб прэзентаваць.**

Прэзентацыя кнігі адбылася ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. І гэта невыпадкова. Кніга — практычна навуковае выданне. Ёмісты фаліянт, выкананы на мелаванай паперы і аздоблены шматлікімі фотаздымкамі, уяўляе сабой своеасаблівую, унікальную па канцэпцыі і пабудове энцыклапедыю, дзе ўсе артыкулы замацаваны на адной цэнтральнай падзеі — падзеі перанясення мошчаў святой апякункі Беларусі з Кіева-Пячэрскай лаўры ў Полацкі манастыр. Падзея была нешараговай для жыцця Расійскай імперыі. Ініцыятарамі і галоўнымі дзейнымі асобамі выступалі члены царскай сям'і. У акцe веры бралі ўдзел тысячы людзей, дзясяткі населеных пунктаў краіны рыхтаваліся да ўрачыстай сустрэчы мошчаў Еўфрасінні Полацкай на шляху да яе роднага горада і яе роднай абіцелі. Магчыма, гэта было апошняе шырока адзначанае свята імперыі, якое спалучалася з радасцю і спадзяваннямі.

Прадстаўляючы кнігу "Полоцкое радование", настаяльніца Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра ігумення Еўдакія (Ляўшук) распавяла прысутным пра падзвіжніцкае жыццё святой Еўфрасінні і пра ўзнікненне задумы сабраць як мага больш гістарычных сведчанняў пра падзеі далёкага 1910 года. Рас-



працоўшчыца канцэпцыі выдання манахіня Сергія (Бульчык) узгадала пра тое, як збіраўся матэрыял для кнігі, як па крупінках даводзілася аднаўляць храналогію падзей, лёсы людзей. Пра пошукі фотаздымкаў тых часоў. Выступалі на прэзентацыі таксама фотамастак Уладзімір Суцягін і рэферэнт Мінскага Епархіяльнага ўпраўлення Генадзь Шэйкін. Заключным акордам прэзентацыі стала ўручэнне ігуменняй Еўдакіяй экзэмпляра кнігі ў падарунак бібліятэцы.

***На здымку:*** ***ігумення Еўдакія перадае ў дар кнігу "Полоцкое радование" дырэктару бібліятэкі Наталлі Бярозкінай.***

## Вечарыны

# «Чыталі жанчыны вершы…»

Вольга ГЛУШЧАНОК

**Гэтым вершам Лізаветы Палеес было адкрыта свята жаночай паэзіі, якое падрыхтавала Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі. Яно прайшло ў бібліятэцы № 5 г. Мінска.**

Прывітальнае слова ўдзельніцам свята, жанчынам-паэткам, а таксама ўсім прысутным агучыў старшыня Мінскай пісьменніцкай арганізацыі, сакратар праўлення СПБ Міхась Пазнякоў.

Жанчыны-паэты чыталі вершы і спявалі песні на свае вершы. У праграме ўзялі ўдзел Таісія Трафімава, Святлана Яўсеева, Марына Лайкова, Ніна Галіноўская, Ала Чорная, Таццяна Дашкевіч, Мара Левіна, Алена і Вольга Міхаленкі, Лізавета Палеес, Вольга Норына, Яна Явіч.

Напрыканцы пісьменнік Анатоль Зэкаў зрабіў свой паэтычны падарунак жанчынам.

Усім удзельніцам літаратурна-музычнага свята, прысвечанага Сусветнаму дню паэзіі, былі ўручаны жывыя кветкі.

Падрыхтавала і правяла паэтычную вечарыну Наталля Касцючэнка.

## Літабсягі

Сяргей ШЫЧКО

# Радзіваліяна аб’ядноўвае

**У кнігарні “Кніжны салон” прайшла прэзентацыя каталога выданняў з фонду Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі “Бібліятэка Радзівілаў Нясвіжскай ардынацыі”, выдадзенага “Беларускай навукай”.**

Падзея выклікае цікавасць зыходзячы з двух момантаў. Па-першае, — і гэта пацвердзілі і галоўны рэдактар выдавецкага дома “Беларуская навука” Г. Кісялёў, і ўкладальнік каталога А. Сцефановіч, — выданне становіцца пачаткам шматграннай працы па апісанні кнігазбору Нясвіжскай ардынацыі князёў Радзівілаў. Пакуль што зацікаўленыя чытачы могуць зазірнуць у XV — XVI стагоддзі. Каталог прысвечаны тым кнігам, якія захоўваюцца ў калекцыі бібліятэкі імя Якуба Коласа. У планах кнігазнаўцаў і выдаўцоў — працяг работы ў гэтым кірунку. І ўвогуле “Беларуская навука” надзвычай уважлівая да фундаментальных праектаў, гісторыка-культуралагічных ініцыятыў.

Другая адметнасць сустрэчы ў “Кніжным салоне” — да размовы пра радзівілаўскія кніжныя зборы далучыліся людзі зацікаўленыя: намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Л. Кірухіна, бібліяфілы А. Судлянкоў, В. Афанасьеў, архівіст В. Скалабан, прафесар



А. Мальдзіс і інш. І абмеркаванне вылілася ў болей шырокі кнігазнаўчы кантэкст. У прыватнасці, была агучана і дэталёва абмеркавана ідэя выдання альманаха бібліяфіла. З паведамленнем на гэтую тэму выступіў дырэктар РВУ “Літаратура і Мастацтва”, галоўны рэдактар газеты “Літаратура і мастацтва” А. Карлюкевіч. Абазначаны тэматычныя абсягі калектыўнага зборніка. Якім жа павінен быць беларускі кнігазнаўчы альманах? Якія праблемна-тэматычныя кірункі цікавяць выдаўцоў у кантэксце работы над мяркуемым зборнікам? Найперш — гісторыя, тэорыя, тэхніка кніжнага мастацтва. Другі напрамак— кнігазбіральніцтва. Праблемы і вопыт фарміравання прыватных і грамадскіх кнігазбораў. Трэцяя тэматычная прастора — бібліяфілы. Гэты раздзел павінен быць ці не самым насычаным ужо з-за таго, што наспела патрэба аддаць даніну павагі тым людзям, для якіх кніга была галоўнай каштоўнасцю. Асаблівай увагі патрабуе параўнальна блізкая гісторыя 1940 — 1980-х гадоў. Шмат якія імёны не ўведзены ў кантэкст гісторыі кнігі ў Беларусі. Чацвёрты раздзел — кніжны гандаль. Кнігарні Мінска і іншых гарадоў. Беларускія кнігарні Вільні і Заходняй Беларусі. Важна звярнуць увагу на ілюстраванне кнігі, работу гравёраў і літографаў... Не выключаны і іншыя тэмы.

Так зварот да кніжнай Радзівіліяны дапамог выйсці на новы творчы ўзровень.

***На здымку: Адам Мальдзіс разважае пра радзівілаўскія кнігазборы.***

## Артлінія

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Кастуся Дробава

# Трыумф жывога гуку

**У моднай песні век нядоўгі. Але як бы хутка ні мянялася мода на эстрадзе, чалавек праз усё жыццё праносіць у памяці значныя для сябе, “свае”, песні, а самыя шчырыя ды пранікнёныя з іх перадаюцца наступным пакаленням. Тое, што ёсць “Шлягеры на ўсе часы”, пацвярджае і аднайменны праект Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга.**

Пяты год запар ладзіўся ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі, пры падтрымцы Упраўлення культуры Мінгарвыканкама, гэты своеадметны песенны фэст. Праграма сёлетніх “Шлягераў на ўсе часы” складалася з чатырох канцэртаў-прэм’ер. Першы песенны вечар пад назвай “Маэстра” прысвячаўся творчасці народнага артыста СССР Раймонда Паўлса, якому споўнілася 75. Наступная, таксама манаграфічная, праграма “Па хвалі маёй памяці” складалася са шлягераў Давіда Тухманава і прымяркоўвалася да 70-годдзя кампазітара; яе кранальным апафеозам прагучала адна з найвядомых песень — “Дзень Перамогі”, якую прадставіў народны артыст Беларусі Мікалай Скорыкаў, а падтрымалі ўсе іншыя салісты аркестра і публіка. Хвілінамі шчырага душэўнага яднання выканаўцаў і гледачоў поўнілася атмасфера тэматычных канцэртаў “Шансон у Мінску” ды “Саксафон — кароль джаза” (сапраўдны бенефіс аднаго з лепшых музыкантаў заслужанага калектыву — саксафаніста Андрэя Кляшчова).



Трыумф жывога гуку, святы сустрэчы з улюбёнымі песнямі, адкрыццё новых імёнаў у знаным аркестры — гэта і значыць “Шлягеры на ўсе часы”. Такая традыцыя працягнецца і на Нацыянальным фестывалі беларускай песні і паэзіі “Маладзечна-2011”, дзе калектыў прадставіць праграму з амаль чатырох дзясяткаў песень Уладзіміра Мулявіна; і ў прэм’ерах да 120-годдзя Максіма Багдановіча; і на песеннай вечарыне “Народны артыст Беларусі Эдуард Зарыцкі і беларуская класічная паэзія”, прысвечанай 65-годдзю кампазітара. А згадайма музычна-асветніцкія фэсты!

Нядаўна старшыня Нацыянальнай камісіі па справах ЮНЕСКА Уладзімір Шчасны ўрачыста ўзнагародзіў Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі, прафесара Міхаіла Фінберга ганаровым дыпломам шаноўнай сусветнай арганізацыі — за вялікі ўнёсак у захаванне музычнай спадчыны і развіццё міжнароднага супрацоўніцтва ў галіне культуры.

***На здымку: фінал канцэрта “Па хвалі маёй памяці”.***

## Повязі

# У мастацтве – сумленне зямлі

Ірына ТУЛУПАВА

**Ёсць перспектыва, што ў першай дэкадзе красавіка будзе ўсталяваны помнік Уладзіміру Караткевічу ў Кіеве і бліжэйшым часам адбудзецца яго афіцыйнае адкрыццё. Пра гэта паведаміў міністр культуры Беларусі Павел Латушка, згадваючы сумесныя праекты падчас адкрыцця Дзён культуры Украіны ў Рэспубліцы Беларусь.**

“Нам вельмі прыемна, што гэта акцыя адбываецца, і яна адбываецца ў адказ на Дні культуры Беларусі ва Украіне, якія прайшлі ў верасні ў Кіеве і Львове”, — зазначыў Павел Латушка. Два цэнтральныя гарады Дзён украінскай культуры — Мінск і Гомель. Горад над Сожам — сёлетняя культурная сталіца СНД. І вялікая колькасць міжнародных праектаў не мінае яго жыхароў. У Гомелі адбыліся кінапаказы, на пляцоўцы каля грамадска-культурнага цэнтра выступіў Нацыянальны заслужаны акадэмічны ансамбль танца Украіны імя П. Вірскага. Ансамбль добра знаёмы заўзятаму беларускаму гледачу: салісты гурта — пастаянныя ўдзельнікі “Славянскага базару ў Віцебску”. Харэаграфічныя палотны “Сёстры”, “Гуцулка”, “Карпаты” — візітныя нумары краіны-суседкі. Невыпадкова ансамбль, падтрымліваючы традыцыю сустрэч, выступіў на адкрыцці Дзён культуры ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі. Парадаваў сваёй творчасцю ансамбль і жыхароў Маладзечна. “Дзякуючы падпісанай у мінулым годзе праграме супрацоўніцтва ў галіне культуры паміж міністэрствамі культуры Беларусі і культуры і турызму Украіны, апошнім часам мы назіраем актывізацыю гэтых адносін. Мы выконваем тыя дамоўленасці, якія былі дасягнуты ў красавіку мінулага года”, — падкрэсліў беларускі міністр. Дзелавая частка сустрэчы двух кіраўнікоў сферы культуры ўтрымлівала перамовы ды абмеркаванні перспектыў далейшага супрацоўніцтва. Прынамсі, у правядзенні такіх знакавых фестываляў, як “Славянскі базар”, кінафестываль “Лістапад”; гаварылі пра неабходнасць новага імпульсу супрацоўніцтва паміж вышэйшымі навучальнымі ўстановамі культуры і мастацтва Беларусі і Украіны; магчымасць рэалізацыі сумесных праектаў у галіне кіно — у складзе дэлегацыі прысутнічалі прадстаўнікі Нацыянальнай кінастудыі Украіны імя А. Даўжэнкі. Падчас Дзён культуры ў сталічным кінатэатры “Піянер” дэманстраваўся фільм — гістарычная драма пра Багдана Хмяльніцкага. Супрацоўнікі кінастудыі спадзяюцца, што хутка можна будзе зрабіць і сумеснае кіно. “Чым больш мы будзем паказваць нашых дасягненняў у культуры, тым больш нашы народы будуць сябраваць і даведвацца адзін пра аднаго, асабліва ж маладое пакаленне”, — падсумаваў міністр культуры Украіны Міхаіл Кулыняка.



***На здымку: Міхаіл Кулыняка і Павел Латушка падчас адкрыцця Дзён культуры Украіны ў Беларусі.***

## З-пад пяра

У Мінскай гарадской бібліятэцы № 10, што размешчана на бульвары Тараса Шаўчэнкі, адбылася літаратурная вечарына, прысвечаная 150-годдзю з дня смерці вялікага ўкраінскага кабзара. Арганізатарам мерапрыемства выступіла Мінскае гарадское аддзяленне СПБ. Перад навучэнцамі гімназіі № 34 і іншымі чытачамі выступілі пісьменнікі Міхась Пазнякоў, Наталля Касцючэнка, Уладзімір Навумовіч, саветнік Пасольства Украіны ў Рэспубліцы Беларусь Васіль Бондар, намеснік старшыні грамадскага аб’яднання ўкраінцаў “Ватра” Таццяна Бей. Вельмі кранальна гучалі ў запісе песні на вершы Т. Шаўчэнкі ў выкананні Чаркаскага дзяржаўнага Украінскага народнага хору. Закончылася мерапрыемства ўскладаннем жывых кветак да помніка ўкраінскаму класіку.

**Павел КУЗЬМІЧ**

Кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў Беларусі заслухала справаздачу дырэктара Беларускага рэспубліканскага літаратурнага фонду Уладзіміра Кулічэнкі пра дзейнасць гэтага структурнага падраздзялення ў 2010 годзе. Сродкі фонду ў мінулым годзе складаліся з грашовых паступленняў Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы, спонсарскай дапамогі і даходаў ад статутнай дзейнасці. Значная частка іх была патрачана на аказанне матэрыяльнай дапамогі членам Саюза пісьменнікаў, выданне часопіса “Белая вежа”, арганізацыю планавых мерапрыемстваў і інш. Старшыня СПБ Мікалай Чаргінец прапанаваў праяўляць большую актыўнасць у пошуку спонсараў, павялічваць даходы ад статутнай дзейнасці, у план дзейнасці на 2011 год унесці ўсе юбілейныя даты пісьменнікаў, каб арганізоўваць вечарыны з юбілярамі.

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА**

На літаратурна-музычную вечарыну “…Агеньчык ветлы той, што зоркайззяе ў паднябессі” запрасіў аматараў паэзіі Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа. Прысутныя сустрэліся з супрацоўнікамі папулярнага жаночага часопіса “Алеся”. У выкананні паэтаў, аўтараў выдання прагучалі вершы-прысвячэнні жанчынам. У другой частцы імпрэзы адбыўся канцэрт вядомага беларускага ансамбля “Менскі гармонік”. Азнаёміліся прысутныя таксама з выстаўкай з фондаў музея “Як лепшае божжа стварэнне, прайшла ты дарогай святою”, прымеркаванай да 120-годдзя з дня нараджэння жонкі Якуба Коласа Марыі Міцкевіч.

**Святлана СУБАТ**

У межах дэкады славянскай філалогіі ў сталічнай гімназіі № 4 прайшла сустрэча вучняў з пісьменнікамі Міхасём Башлаковым і Міколам Шабовічам. Паэты расказвалі гімназістам пра сябе, чыталі ўласныя вершы. Напрыканцы сустрэчы госці саступілі месца юным паэтам гімназіі. Тыя, хто не пасаромеўся пазнаёміць са сваімі вершамі, атрымалі карысныя парады.

**Вікторыя КАЖАМЯКІНА**

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ смуткуюць з прычыны смерці пісьменніцы Ніны Васільеўны МАЕЎСКАЙ і выказваюць спачуванні яе родным і блізкім.

Саюз пісьменнікаў Беларусі, Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ выказваюць глыбокія спачуванні пісьменніку Анатолю Мельнікаву з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці МАЦІ.

# Спектаклі з «Чароўнага куфэрка»

**1 красавіка ў Любані стартуе VIII Абласны фестываль дзіцячай тэатральнай творчасці “Чароўны куфэрак”. На працягу трох дзён лепшыя свае спектаклі прапануюць юным гледачам такія ж юныя артысты трынаццаці тэатральных калектываў. Адзін з арганізатараў свята — начальнік аддзела культуры Любанскага райвыканкама Васіль Каткавец — размаўляе з намі напярэдадні падзеі.**

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА



**— Васіль Сцяпанавіч, у чым адметнасць фестывалю і чаму менавіта куфэрак — рэч, канечне, архаічная, але ўсё ж такі цалкам будзённая — прыдбаў “чарадзейны” статус?**

— Наш фестываль існуе ўжо больш як дваццаць гадоў. Спачатку ў якасці рэгіянальнага ён праходзіў у Любані ў 1988 годзе. Акрамя нашага любанскага тэатра выступалі калектывы з Салігорска, Слуцка, Мінска. Свята спадабалася. Адбылася яшчэ адна такая сустрэча. А ў 1999 годзе Мінскае абласное ўпраўленне культуры ўзяло фестываль пад сваю апеку і зрабіла яго абласным. Вось у гэтым статусе мы будзем прымаць гасцей восьмы раз. З самага пачатку фестываль задумваўся як яшчэ адзін дзейсны сродак прапаганды лепшых духоўных традыцый беларускага народа. І назва была абрана адпаведная. Калісьці ў куфрах нашы бабулі і дзядулі захоўвалі лепшыя, самыя каштоўныя набыткі сям'і. Мы ж прадставілі скарбонку духоўнасці народа таксама як куфар. Толькі не звычайны, а чароўны, бо начынне гэтай скарбонкі — невычарпальнае, і, дакранаючыся да яго, чалавек пранікаецца павагай да свайго народа, сваёй мовы, сваёй культуры. Да такога працэсу, безумоўна, трэба быць далучаным з дзяцінства.

**— Вядома, што кожны тэатральны фестываль у Любані прысвячаецца нейкай канкрэтнай тэме, і спектаклі абіраюцца ў адпаведнасці ёй. Чаму будзе прысвечаны VIII фестываль?**

— Сапраўды, усе фестывалі праходзяць пад пэўнымі лозунгамі ці то дэвізамі. Аднак тэматыка пры гэтым у спектакляў — самая розная. Дарэчы, як і ўзроставая накіраванасць. Мы адбіраем і спектаклі для самых маленькіх, і для падлеткаў, і для маладзевай аўдыторыі — людзей ужо амаль дарослых, якія могуць абмяркоўваць самыя сур'ёзныя надзённыя пытанні. Рыхтуючыся да першага фестывалю, мы абапіраліся ў большай ступені на народныя традыцыі дзіцячай культуры — вывучалі дзіцячыя народныя песенькі, калыханкі, вершыкі, дражнілкі, лічылкі. І працавалі на гэтай аснове. Але пасля паспяховага дэбюту пачалі думаць, што трэба нам пашырыць накіраванасць, каб фестываль меў стасункі з літаратурай, музыкай, выяўленчым мастацтвам. І другі “Чароўны куфэрак”, які прыпаў на 2001 год, юбілейны для нашага славутага земляка, дзіцячага пісьменніка Івана Муравейкі, стаў своеасаблівай данінай павагі да яго творчасці. Ён прайшоў пад назвай “Карагод дзіцячых прыгод”. У 2003 годзе фестываль назвай сваёй і скіраванасцю дазволіў нам акунуцца ў свет творчасці Максіма Гарэцкага. Яго дэвізам былі словы “Брамы скарбаў сваіх адчыняем”. У 2005 годзе інфармацыйным спонсарам фестывалю выступіў часопіс “Вясёлка”. Мы актыўна прапагандавалі творчасць аўтараў гэтага выдання. Дэвіз фестывалю быў “Палёты ў сне і наяве”. У 2007 годзе на наш фестываль паўплывала святкаванне юбілеяў Купалы і Коласа. Дэвізам стаў паэтычны радок “Агонь душы і сэрца жар”. Сёмы па ліку фестываль у 2009 годзе прайшоў пад эгідай Года роднай зямлі. І дэвіз гучаў гэтак: “Басанож па зорках”. У 2011 годзе мы жывём пад “зоркай кахання” Багдановіча. Пры гэтым фестываль зусім не ставіць перад сабой мэту прадставіць творчасць Багдановіча. Дэвіз VIII фестывалю: “Вось Мы”. Мы кажам гледачу: “Вось Мы перад вамі, маладыя, таленавітыя”. А дзе я ў гэтым свеце? Дзе мы, беларусы? Як адчуваюць сябе сярод дарослых дзеці? Пошукі свайго месца на зямлі, у сусвеце — гэта тэма ўсёй творчасці Багдановіча. А мы разам з ім сёння кажам: вось Мы, беларусы. Мы — ёсць. І мы маем сваю годнасць, сваю культуру, сваю літаратуру. Прыходзьце да нас, і вы ўпэўніцеся ў гэтым. А інфармацыйны спонсар у нас — РВУ “Літаратура і Мастацтва”. І таму ў праграме фестывальных мерапрыемстваў — і кніжная выстаўка, на якой мы прадставім выданні гэтай рэдакцыйна-выдавецкай установы, і творчыя сустрэчы з літаратарамі, і прапаганда сучаснай беларускай літаратуры. Але, дарэчы, беларускія пісьменнікі заўжды ўваходзілі ў журы нашага фестывалю: Зінаіда Дудзюк, Уладзімір Ліпскі, Уладзімір Паўлаў, Іван Муравейка, Галіна Каржанеўская, Анатоль Зэкаў, Пятро Васючэнка, — цэлы шэраг нашых таленавітых прапагандыстаў беларускага слова.

> *З самага пачатку фестываль задумваўся як яшчэ адзін дзейсны сродак прапаганды лепшых духоўных традыцый беларускага народа. І назва была абрана адпаведная. Калісьці ў куфрах нашы бабулі і дзядулі захоўвалі лепшыя, самыя каштоўныя набыткі сям'і. Мы ж прадставілі скарбонку духоўнасці народа таксама як куфар. Толькі не звычайны, а чароўны, бо начынне гэтай скарбонкі — невычарпальнае, і, дакранаючыся да яго, чалавек пранікаецца павагай да свайго народа, сваёй мовы, сваёй культуры. Да такога працэсу, безумоўна, трэба быць далучаным з дзяцінства.*

**— Што такое дзіцячы тэатральны рух сёння?**

— Для дзяцей гэта і адпачынак, і вучоба, і эстэтычнае задавальненне, і сродак узаемаадносін, і самасцвярджэнне, і, безумоўна, выхаванне. Тэатр далучае дзяцей — і артыстаў, і гледачоў — да скарбаў сусветнай класікі. У праграме нашага фестывалю сёлета спектаклі паводле казак Ш. Перо “Папялушка” (маем ажно дзве інтэрпрэтацыі — мюзікл гасцей з Расіі, Бранскага музычнага тэатра “Арфей” і Івянецкага тэатра лялек “Вандроўка”) і “Чырвоны каптурок” (спектакль паводле гэтага твора ў вядомай апрацоўцы Я. Шварца прывodзіць лялечны тэатр “Чараўнікі” з пасёлка Энергетыкаў Дзяржынскага раёна). Старэйшым будзе прапанавана “Песня пра зубра” паводле паэмы М. Гусоўскага (спектакль у найцікавейшым жанры пластычна-паэтычнага відовішча стварылі ў тэатры Магілёўскай школы мастацтваў), “Ціль” паводле кастэраўскай “Легенды пра Уленшпігеля” (п'есу, напісаную Р. Горыным і паспяхова пастаўленую ў свой час у Ленкоме, паспрабаваў перанесці на сваю сцэну Баранавіцкі тэатр-студыя “Паралель”), камедыя паводле М. Гогаля “Жаніхі” (створаная тэатрам-студыяй “ТэСт” Маладзечанскай гімназіі № 10).

**— Але ж у фестывальнай афішы пераважваюць усё ж такі спектаклі на сучасную тэматыку…**

— А тэатр наогул распавядае толькі пра сучаснасць. Нават калі за аснову відовішча ўзяты класічны твор ці гістарычны. Вось і “Ціль” — гэта гісторыя пра сучасную моладзь. Пра выбар маладых: ці то жыць ім па законах, якія ўстанаўліваюцца той ці іншай сістэмай, ці то будаваць больш спрыяльны, больш гуманны свет. Але ёсць і спектаклі, якія проста і без філасофскіх паралеляў узнімаюць набалелыя для моладзі праблемы. Такія мы абіраем на кожны фестываль. І праз іх праводзім акцыю “Рука дапамогі”, скіраваную на дзяцей з нядобранадзейных сем'яў, на сацыяльных сірот, на падлеткаў, якія прызнаныя “цяжкімі”. Мы запрашаем іх наведаць гэтыя спектаклі бясплатна. І даволі часта далучэнне да такога мастацтва, калі са сцэны артысты паказваюць твае рэальныя праблемы і абмяркоўваюць шляхі іх пераадольвання, дае добрыя вынікі. У гэтым годзе мы абралі два такія спектаклі. “Я ўсіх вас люблю” (паводле п'есы І. Танунінай, пастаноўка тэатра “На-Дзея” Дзеражынскай ДМШ Стаўбцоўскага раёна) і “Любоў? Любоў!” (паводле аповесці У. Цендракова “Ноч пасля выпуску” — Дзяржынскі тэатр “Маяк”). Першы спектакль прысвечаны праблеме дзяцей, якія трапілі ў дзіцячы дом. Другі — няпростым узаемаадносінам учарашніх школьнікаў, якія раптоўна сталі дарослымі.

Фестывалі ствараюцца ў першую чаргу дзеля конкурсу, спаборніцтва і перамогі. Спадзяюся, што для нашых удзельнікаў гэта — не самае галоўнае. “Чароўны куфэрак” — фестываль сяброўства, узаемаадносін і творчых кантактаў.

## Universum



# Шлях да паэзіі

Віка ТРЭНАС

**Паненка Паэзія адзначае сваё прафесійнае свята. 21 сакавіка — Яе Сусветны дзень, а таксама Сусветны дзень Зямлі. У гэтай супольнасці няма нічога дзіўнага: як Зямля дае пачатак усяму матэрыяльнаму, так Паэзія — усяму духоўнаму. Сёння хочацца перачытаць улюбёныя кнігі, згадаць геніяльныя вершы ды іх выбітных аўтараў. 2011 год аб'яўлены ЮНЕСКА годам адной унікальнай асобы, якая мае непасрэднае дачыненне да Беларусі і стагоддзе якой мы сёлета адзначаем. Раскрываем імя, каб яно не засталося таямніцай для нашай гісторыі.**

### Шчырае слова пра Чэслава

Чэслаў Мілаш. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі 1980 года. Польска-амерыканскі паэт, празаік, перакладчык, эсэіст, літаратуразнаўца, публіцыст. Аўтар некалькіх дзясяткаў кніг, якія сваёй духоўнай моцай і высокай эстэтычнай каштоўнасцю змусілі чытачоў двух кантынентаў не толькі да вострых эмацыйных перажыванняў, але і да глыбокай рэфлексіі над глабальнымі катаклізмамі XX стагоддзя, да пошуку свайго ісцінная, праўдзівага і гарманічнага “я” ў нацыянальным культурным кантэксце праз сусветны і наадварот.

Нарадзіўшыся ў Літве, што ўваходзіла тады ў склад Расійскай імперыі, з дзяцінства Чэслаў размаўляў не толькі на роднай польскай, але таксама на літоўскай, яўрэйскай і рускай мовах. Як творца ён пачаў фарміравацца яшчэ ў студэнцкія гады ў Вільні, калі стаўся ўдзельнікам літаратурнага гуртка так званых “катастрафістаў”. Важную ролю ў станаўленні індывідуальнасці Чэслава адыграла і камунікаванне з яго старэйшым сваяком Оскарам Мілашам, з якім ён год правёў у Парыжы. Дыпламат і паэт, Оскар называў сябе ліцвінам, пісаў па-французску і вызнаваў неабходнасць строгага аскетызму ў інтэлектуальнай дзейнасці, у тым ліку ў мастацтве.

Ці чулі вы пра вёску Чарэя Чашніцкага раёна? Гэта і ёсць родавае гняздо Любічаў-Мілашаў, дзе нарадзіўся пан Оскар, сваяк і духоўны настаўнік Чэслава.

Цягам доўгага плённага жыцця Мілаш, паэт-выгнаннік, паэт-вандроўнік, здаецца, вытрываў усе магчымыя і немагчымыя выпрабаванні лёсу. Гарады, якія сустракалі яго, каб правесці ў далейшае падарожжа — Шэтэйняй, Вільня, Парыж, Варшава, Кракаў, Вашынгтон, Нью-Ёрк, Берклі — пабачылі разам з ім самыя страшныя гістарычныя катастрофы XX стагоддзя і запомнілі іх. Бо, як адзначыў Мілаш у сваёй Нобелеўскай лекцыі, “абавязак пісьменніка заключаецца ў тым, каб памятаць. Памяць — гэта наша сіла. Тыя, хто жывы, атрымліваюць мандат ад тых, хто змоўк назаўжды. Яны могуць выканаць свой абавязак толькі называючы рэчы сваімі імёнамі, вызваляючы мінулае ад вымыслаў і легенд”.

### Чаляднік часу

Сёлета ў межах Міжнароднай кніжнай выставы ў Вільні была прэзентаваная трохмоўная кніга “Чаляднік часу” памяці Чэслава Мілаша, да стварэння і выдання якой спрычыніліся тры краіны: Літва, Польшча і Беларусь. Успаміны сяброў, калегі даследчыкаў творчасці Чэслава, літаратуразнаўчыя і краязнаўчыя эсэ, фотаздымкі... Любоў да паэзіі Мілаша здатная аб'яднаць увесь свет.

Ірына ТУЛУПАВА,
фота аўтара

# Мы завёмся беларусы

**Вызначыліся лепшыя знаўцы беларускай мовы сярод школьнікаў. У Дзяржынску з 11 па 18 сакавіка праходзіў заключны этап Рэспубліканскай алімпіяды па беларускай мове і літаратуры. Насамрэч, пацвердзілася: беларуская — не толькі мова нашых продкаў, але і — сучаснікаў ды нашчадкаў.**



## Ладдзя Пераможцы

Гэта была ўжо 27-я алімпіяда. Але кожнае новае пакаленне ўдзельнікаў успрымае яе з жаданнем гаварыць на роднай мове і быць пачутымі.

Ствараючы выключна беларускамоўны асяродак, юнакі і дзяўчаты былі пераканаными: вынікі алімпіяды празрыстыя, тое, што атрымалі яны і блізкія паплечнікі, — цалкам іх заслуга.

У інтэлектуальных спаборніцтвах вышэйшага ўзроўню ўдзельнічалі 119 вучняў з Беларусі. У выніку 27 чалавек атрымалі дыпломы III ступені, 16 — дыпломы II ступені, 11 — дыпломы I ступені і 12 сталі ўладальнікамі ўхвальных водгукаў. Гэта прыкладна 45 працэнтаў ад усіх алімпійцаў. Зрэшты, ніхто з аматараў інтэлектуальных спаборніцтваў не застаўся незаўважаным: існаваў шэраг спецыяльных прызоў: ад Міністра адукацыі, Мінскага аблвыканкама, Дзяржынскага райвыканкама, ад розных арганізацый і ўстаноў. Да таго ж, уладальнікі дыпломаў першай, другой і трэцяй ступеняў маюць поўную магчымасць пастунаць у любую ВНУ і не здаваць экзамены па беларускай мове: ім залічваецца 100 балаў.

У калектыўным заліку Ладдзю Пераможцы атрымала каманда Мінскай вобласці, пацвердзіўшы свой ранейшы статус.

Вядучы інспектар упраўлення агульнай сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь Ірына Булаўкіна падкрэсліла: "Апошніх мо дзесяць гадоў такая алімпіяда праходзіць у тры туры: вуснае выказванне (па актуальнай тэме); комплексная работа (раней — лінгвістычны конкурс), якая ўключае 10 асобных заданняў; і водгук (на пэўны літаратурны твор). У сваім вусным выказванні чалавек мусіць адрэагаваць на нейкія падзеі, звязаныя з развіццём літаратуры і культуры альбо тыя, што адбываюцца ў грамадскім жыцці: зазвычай бяруцца тэмы, якія пашыраюць кругагляд сучасніка.

Алімпіяду ў нейкім сэнсе можна назваць міжнароднай: выконвалі ўсе заданні, але ішлі па-за конкурсам каманды з Гайнаўкі і Вільнюса. Гэтае асяроддзе, калі можна "дакрануцца да мовы", ім вельмі дарагое.

Валоданне мовай, нават нягледзячы на пэўныя нюансы, акрыляе. Таму алімпіяда — гэта не толькі конкурс, а яшчэ і адзін з запамінальных жыццёвых эпізодаў, які заварожвае сваёй эмацыянальнасцю, магчымасцямі адкрыцця свайго месца ў акаляючым асяроддзі, самаўсведамлення і самасцвярджэння.

## Нашто патрэбна матрыца?

— Мяне вельмі радуе, што алімпіяда жыве, і дай бог, каб яна жыла далей, — выказаў свае спадзяванні *Аляксандр РАДЗЕВІЧ*, старшы выкладчык кафедры сучаснай беларускай мовы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, намеснік старшыні журы. — Я з удзячнасцю згадваю сваіх настаўнікаў, у прыватнасці, Віктара Пятровіча Краснея, Галіну Мікалеўну Малажай і астатніх, хто пачынаў тое, што цяпер называецца гучна і вельмі адказна: Рэспубліканская алімпіяда па беларускай мове і літаратуры. Алімпіяда па сутнасці ўжо наведала ўсе вядомыя рэгіёны Беларусі. І традыцыйна яе арганізатары прадугледжваюць, каб кожная наступная праходзіла ў іншым месцы. Каб дзеці, падлеткі, якія ўдзельнічаюць у алімпіядзе, лепш пазнаёміліся з Беларуссю, больш даведаліся пра гісторыю і знаных асоб. Па-другое, так алімпіядны рух ахоплівае максімальную колькасць удзельнікаў.

Вялікія словы падзякі настаўнікам, таму што менавіта дзякуючы настаўнікам беларускай мовы і літаратуры, гэтым дзеткам трымаецца яшчэ беларуская мова. "Алімпійцы" — дастаткова моцны кантынгент вучняў. Гэта тыя падлеткі, якія валодаюць мовай не на ўзроўні праграмы, а значна глыбей і набліжаюцца да ўзроўню першакурснікаў філалагічнага факультэта.

Дзеці амаль роўныя па падрыхтоўцы, і пры распрацоўцы заданняў мелася на ўвазе выбраць найбольш падрыхтаваных, найбольш цікавых, крэатыўных, сапраўдных інтэлектуалаў, і не толькі ў пытаннях мовы і літаратуры. Была магчымасць праверыць звычайныя праграмныя веды і высветліць, наколькі вучань ці вучаніца валодае самім механізмам даследаванняў. І вельмі радасна, што нават у такіх выпадках, якраз разлічаных на эўхарыстычнасць, адкрывалася магчымасць выявіць тых, хто здольны не толькі аперыраваць мадэлямі, якія ім даюць настаўнікі, як матрыцу, але і накладваць на гэту "матрыцу" свой арыгінальны адказ, які і павінен прагучаць. Якраз такое мысленне дае магчымасць асэнсавання таго, што называецца жыццём.

І радуе тое, што тыя, каму мы ўручылі дыпломы, асабліва адзінаццаты клас, прыйдуць да нас на філалагічны факультэт.

Па сутнасці мы падрыхтавалі даволі моцны базіс сярод першакурснікаў. Тыя, хто прайшоў гэтую складаную школу ўдзелу ў алімпіядах, вылучаюцца з усіх абітурыентаў. Яны цікавыя да жыцця, цікавыя да навукі, таму што ім паказалі неабмежаваныя прасторы таго, што называецца мовай.

## Беларуская мова ў Гайнаўцы

— Наша дэлегацыя — гэта тры дзяўчыны другога класа ліцэя і я як выкладчык беларускай мовы, — патлумачыў *Ян КАРЧЭЎСКІ*, настаўнік беларускай мовы і літаратуры ў Другім агульнаадукацыйным ліцэі з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы (Рэспубліка Польшча): — Мы вельмі задаволены знаходжаннем на гасціннай беларускай зямлі: гэта новыя знаёмствы і кантакты, магчымасць пабачыць Беларусь. Праграма алімпіяды досыць багатая, мы вельмі карысна правялі гэтыя пяць дзён: акрамя асноўных спаборніцтваў прайшлі цікавыя канцэрты, мы здзейснілі экскурсію на радзіму Якуба Коласа. Агулам жа беларуская мова ў Гайнаўцы чутна і ў горадзе, і ў ліцэі.

Наша моладзь вывучае беларускую мову і літаратуру ў ліцэі чатыры гадзіны на тыдзень. Зразумела, апрача гэтага вучні вывучаюць культуру, гісторыю, абраднасць, беларускія звычаі. Ёсць магчымасць удзельнічаць у розных конкурсах — песні, дэкламацыі, тэатральных аглядаў — так што, можна сказаць, мы маем сваю алімпіяду, толькі трошкі ў іншай форме.

## Алімпійцы з Вільнюса

— Мы ішлі нароўні з усімі канкурсантамі, — запэўніла *Алена БАЗЮК*, настаўніца школы імя Францыска Скарыны ў горадзе Вільнюсе. У Беларусь прыехалі тры дзяўчынкі — з 9, 10 і 11 класаў: — Калі ж параўнаць узровень дзетак — то ён адрозніваецца. Гэта зразумела: беларускія ўдзельнікі да заключнага этапу праходзяць яшчэ чатыры конкурсы, а нашы трапляюць адразу на агульнарэспубліканскі этап, і гэта адчуваецца. Але калі параўнаць лепшыя вынікі беларускага пераможцы — 33 балы — і нашай дзяўчынкі з 9 класа, якая атрымала 29 — то гэта вельмі добры вынік.

## «Душой я вольны чалавек»

Пераможца алімпіяды, уганараваная Дыпломам І ступені, *Анастасія Дзідзюля* — вучаніца 10 класа гімназіі г. Дзяржынска. Пісала водгук на адзін з твораў Кузьмы Чорнага:

— Прыйшлося цяжкавата, таму што раней мы пісалі водгукі на вершы і рыхтаваліся да гэтага, а тут — празаічны твор. Зрэшты, усе заданні былі трошачкі цяжкія, але калі атрымала Дыплом, значыць, справілася паспяхова. А тэмай вуснага выказвання я выбрала развагі пра волю чалавека. Трэба імкнуцца сцвердзіць сябе, таму прадэкламавала Янку Купалу: "Душой я вольны чалавек, / І гэткім буду цэлы век!"

## «Радуюся, калі мяне разумеюць»

Уладальніца прыза РВУ "Літаратура і Мастацтва"— "Маладому носьбіту мовы, хто пашырае літаратурныя ды моўныя абсягі" *Ганна КЛІМОВІЧ*, вучаніца гімназіі № 1 г. Дзяржынска, захопленая чытаннем:

— Калі ёсць вольны час, бяру ў рукі кнігу. Больш з ўсё люблю раманы. Цяпер чытаю "Каласы пад сярпом тваім" Уладзіміра Караткевіча. Калі мяне разумеюць па-беларуску незнаёмыя людзі, вельмі рада.

***На здымку: Ладдзя Пераможцы — у каманды Мінскай вобласці.***

## Актуальнае

Ярына РЫТАМІНСКАЯ

# Паступайце на творчыя спецыяльнасці!

Парадак паступлення на іх у 2011 годзе ў Беларусі зменены. А менавіта — перагледжаны правілы прыёму ў ВНУ і ССНУ на спецыяльнасці сферы культуры і мастацтва. Прэзідэнт Беларусі 14 сакавіка падпісаў указ, паводле якога ўнесены дапаўненні ва ўказ 2006 года "Аб правілах прыёму ў вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя установы". У прыватнасці, залічэнне абітурыентаў на спецыяльнасці ў Беларускую дзяржаўную акадэмію музыкі і Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў будзе ажыццяўляцца цяпер па конкурсе на аснове агульнай сумы балаў, падлічанай па выніках уступных іспытаў па прадмеце "Творчасць", сярэдняй сумы балаў, атрыманай па выніках здачы цэнтралізаванага тэсціравання, і сярэдняга бала дакумента аб адукацыі. Гэта значыць, што цяпер больш улічваюцца творчыя здольнасці чалавека і даецца магчымасць адораным маладым людзям напоўніцу выкарыстаць свой шанц пры паступленні на далейшую вучобу ў ВНУ.

Рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Міхаіл Баразна на пытанне карэспандэнта "ЛіМа" заўважыў: "Як жа ў ВНУ без творчага экзамена? Мы рыхтуем спецыялістаў у галіне жывапісу, графікі, скульптуры, тэатра ды шмат якіх іншых, дзе неабходны спецыяльныя ўмовы. Кольні існуе акадэмія, столькі і існуе экзамен па творчасці".

Сутнасць новаўвядзенняў патлумачыў намеснік начальніка аддзела навучальных устаноў і работы з творчай моладдзю Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Анатоль Мукалаў:

— Справа ў тым, што раней сума конкурсных балаў налічвалася іначай. Іспыт па творчасці, як правіла, праходзіў па трох раздзелах, сума балаў лічылася як сярэднеарыфметычная і не магла быць больш як лічба 10. Апошнія два гады на базе Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі і Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў праводзіўся эксперымент. Падчас эксперымента і цяпер, пасля Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, адзнакі за кожны з трох раздзелаў сумуюцца, такім чынам абітурыент мае магчымасць запісаць на свой рахунак да 30 балаў! Да іх далучаецца яшчэ сярэдні бал па выніках здачы цэнтралізаванага тэсціравання і сярэдні бал дакумента аб адукацыі.

У экзаменацыйныя камісіі на іспытах па прадмеце "творчасць" уваходзяць выкладчыкі ВНУ, запрашаюцца знаныя творцы, нават настаўнікі агульнаадукацыйных школ (з музычным, мастацкім ухілам).

Такім чынам адкрываецца магчымасць тым людзям, якія атрымалі высокія адзнакі па экзамене "Творчасць", трапіць у ВНУ. Так аддаецца перавага творчым здольнасцям. І сваю вучобу па абранай прафесіі змогуць прадоўжыць толькі самыя таленавітыя.

Ірына ШАЎЛЯКОВА

# Міфалогія (святла)ценяў

## Беларуская проза першага дзесяцігоддзя XXI стагоддзя

**Надзвычай цікавай з'явай у 2000-х сталася проза А. Брава, першая аповесць якой "Бязлітасны мой воін" пабачыла свет у 2001 годзе. Дэбютны зборнік "Каменданцкі час для ластавак" (2004) акрамя аднайменнай змясціў аповесць "Імя Ценю — Святло (Гісторыя адной фабіі)" (2003), апавяданні "Тапіць дзяўчатак тут дазволена" (2002), "Змяя, пакрытая пёрамі птушкі Сонца" (2004). Пазней у літаратурна-мастацкай перыёдыцы пабачылі свет апавяданні "Сон піянеркі" (2005), "Эфект прысутнасці" (2005), раман "Менада і яе сатыры" (2008).**

Проза гэтага аўтара паўстае з дзіўнага сінтэзу жорсткай рэалістычнасці, нават натуралістычнасці — і пранізлівай эмацыйнай шчырасці, якая на піку аповеда пераходзіць у пачуццёвую аголенасць. Так, галоўная гераіня аповесці "Каменданцкі час для ластавак" беларуска Алеся бярэцца шлюбам з кубінцам Рэем Брава і рушыць разам з ім на яго радзіму, па сутнасці, уцякае, ратуючы сваё ненароджанае дзіця ад сустрэчы з нябытам. Алеся, ад імя якой і вядзецца аповед, пазначае ўласныя стасункі з беларускай рэчаіснасцю да ад'езду на Кубу праз амаль неабарокавую "сімвалічную метафару" "псеўдарэальнасці, якая раілася навокал, размнажаючыся з хуткасцю насякомых"… "Простае" ў сваёй ненаўмыснасці чаргаванне жорсткай, бязлітаснай фізіялагічнасці і паэтызаванага каментарыя да мінулага, якое ствараецца на вачах чытача, абумоўлівае надзвычай моцнае эмацыйнае ўражанне ад гэтага ды іншых твораў А. Брава, героі (а дакладней — гераіні) якіх ад пачатку асуджаныз на паразу ў змаганні з уласнай адзінотай, што падаецца большай за само жыццё.

Згаданае спалучэнне бязлітаснай шчырасці і лірычнай пачуццёвасці ўласцівае і прозе В. Куртаніч (яе кніга "Залюстрэчча для Алісы", 2003, уключыла побач з аднайменным "раманам-парафразам" аповесці, п'есу і апавяданне), Югасі Каляды (чый дэбютны зборнік "Галоўная памылка Афанасія", 2005, змясціў апавяданне "Зялёныя бурбалкі, залаты акіян", 2000, трылогію з аповедаў "Лета", 2000, аповесць "Invicta, альбо Галоўная памылка Афанасія", 2004), Л. Шчэрбы (яна вызначыла жанр свайго твора "Уладар рыбаў", 2003, як "фільмаслоў"), Н. Старавойтавай ("Арфаграфія без правілаў. Караценькі раман-агапэ", 2008). Надзвычай цікавай спробай "занатаваць" найноўшую гісторыю беларушчыны сталася кніга Н. Бабінай "Рыбін горад" (2007) — раман у аповедах, дзе сацыяльна-псіхалагічны сюжэтны каркас ускладняецца элементамі прыгодніцка-авантурнай (пошукі скарбу XVII стагоддзя), крымінальнай, містычнай прозы.

Як ужо згадвалася, у гэтае дзесяцігоддзе актывізуецца асваенне адносна новых для айчыннай традыцыі тэхнік пісьма. Зрэшты, узораў прозы, якая б стваралася ў рэчышчы "кананічных" неамадэрнізму ці постмадэрнізму, з'явілася няшмат: "Рэканструкцыя неба. Раман у дэталях" (2002) В. Гапеевай, "Імя грушы. Раман у трох мемуарах" (2005) С. Балаханава, раманы "Замак пабудаваны з крапівы" (2008) З. Вішнёва, "Бег" (2008) А. Талстога, "Тэатральныя дэманы" (2010) І. Сіна.

У іх кола ўлучаюць і твор І. Бабкова "Адам Клакоцкі і ягоныя цені. Раман у 10-ці эпізодах" (2001), польскі пераклад якога праз восем год пасля арыгінальнага выдання намінаваўся на атрыманне літаратурнай прэміі "Angelus". Аднак калі адны крытыкі абвяшчалі яго "першай беларускай постмадэрнісцкай аповесцю", дык іншыя настойвалі на тым, што паэтыка твораў І. Бабкова ўгрунтавана хутчэй у "магічным рэалізме", чым уласна ў постмадэрнізме.

У сваю чаргу, прозу аднаго з самых плённых аўтараў пакалення трыццацігадовых Альгерда Бахарэвіча, на думку шэрага крытыкаў, таксама варта асэнсоўваць у кантэксце эстэтыкі ды паэтыкі постмадэрнізму. Гэтае меркаванне падаецца слушным у дачыненні да яго першага зборніка "Практычны дапаможнік па руйнаваньні гарадоў (проза 1997 — 2001)" (2002), а таксама апошніх (па часе выхаду) раманаў "Праклятыя госці сталіцы" (2008), "Сарока на шыбеніцы" (2007 — 2008). Прастора існавання герояў гэтых твораў Альгерда Бахарэвіча асацыіруецца з павуціннем, выштукаваным з пустэчы, бязважкасці, вакууму — і збыткоўнасці быційных праяў. Персанажы блукаюць-боўтаюцца ў такім жыццёвым рэчыве, якое сінтэзуецца ў сутыкненні прагі здзейсніць штосьці заўважнае — і ўсведамлення бессэнсоўнасці руху ў свеце, дзе пануе бог Агул, "бог транспарту, тэлефона, латарэй, гадзін пік, пацалункаў, чэргаў…". Асоба ў згаданай сітуацыі аказваецца апазіцыйнай самой сабе, таму любая спроба паразумецца з наваколлем асуджаная на паразу. Разам з тым, у зборніках Альгерда Бахарэвіча "Натуральная афарбоўка" (2003) і "Ніякай літасці Валянціне Г." (2006) дэфармаванасць рэчаіснасці не падаецца плёнам "мастацкага штукарства": зварот аўтара да выяўленчага інструментарыя рэалізму дзеля ўвасаблення шаржыравана-сюррэалістычнага зместу мае вынікам дзіўны сугестыўны эфект, калі дэфармаванасць быцця пачынае ўважацца за норму, за *натуральнае* аблічча свету, прычым дэталізацыя (нярэдка замешаная на гратэску) надае схематычна-ўмоўным, пляскатым сітуацыям, вобразам (-персанажам, -інтэр'ерам, -пейзажам і інш.) неабходную аб'ёмнасць, узмацняе рэчыўнасць аповеда ў цэлым.

Калі ж браць пад увагу дыскусійнасць пытання пра феномен "беларускага постмадэрнізму", то, на наш погляд, самым істотным вынікам згаданага вышэй імкнення эксперыментаваць з рознымі тэхнікамі пісьма, вынікам "узважанага" эксперымента ў прасторы традыцыі, становіцца якаснае абнаўленне мастацкай сістэмы рэалізму, што ўскладняецца элементамі, генетычна звязанымі з нерэалістычнымі метадамі, кірункамі, з'явамі.

Так, у творах Адама Глобуса, што пабачылі свет у гэтае дзесяцігоддзе, — апавяданнях "Мсціслаўскія маньякі" (2000), "Спаць, спаць, спаць…" (2001) са зборніка "Браслаўская стыгмата" (2001), "Партрэт з сябрам, падобным да Вінсэнта Ван Гога (2000), "Кальварыйскія могілкі" (2001), "Кроплі дажджу ў Парыжы" (2003), "Барселонскі голуб" (2003) са зборніка "Кроплі" (2000 — 2003) і асабліва ў рамане "Дом" (2001—2003), — рэалістычная ў сваёй аснове стратэгія мастацкай тыпізацыі "інструментальна" (на вобразна-выяўленчым узроўні) рэалізуецца праз зварот да паэтыкі постсентыменталізму.

Прыналежнасць твораў А. Казлова "Юргон" (2001), "Горад у нябёсах" (2004), "Паразумецца з ветрам" (2007) не да часавага *памежжа*, але да новай (засведчанай пакуль у "прадчуваннях") эпохі звязаная як з удакладненнем-пашырэннем жанравай палітры (напрыклад, "Юргон", 2001 — "раман — штрыхамі"), так і з далейшым узмацненнем ролі абстрагавання, сімвалізацыі ў прозе гэтага аўтара. Так, у трыццаці дзвюх частках "Юргона" аднаўляецца "штрыхавы" партрэт аднаго з герояў *нашага* часу, у чым імені зашыфраваны і "прадмет" пісьменніцкага даследу, і атрыбуцыя сутнасці сучаснага быцця. У "юрлівы гон" сучаснікі ўкручваюцца толькі на першы погляд па ўласнай волі. Іх "слабасці" ёсць *наканаваннем*, наступствам дзеяння сіл пракаветных (у "Юргоне" яны персаніфікуюцца ў вобразах Вісуна — "спарахнелага, але пакуль усё ж жывога Духа бяссілля", Чорнага Гардзея-чараўніка). Іначай кажучы, слабасці-заганы таго ж Юргона паўстаюць своеасаблівай *спадчынай*, няведанне пра якую ад яе не вызваляе.


Малюнак Малгажаты Аўярчук

Імкненне суаднесці прыватныя прыярытэты з універсальнымі каштоўнасцямі абумоўлівае ўзмацненне ролі сімвалізацыі ў прозе А. Казлова апошняга дзесяцігоддзя. Гэта выяўляецца ў розных формах і на розных узроўнях індывідуальна-аўтарскага стылю: і ў нязменнай увазе пісьменніка да праяў містычнага і паэтыкі снабачанняў, і ў спробах увасобіць агульнавядомую ідэю дуалізму чалавечай прыроды і самога быцця ў аказіянальнай "міфалогіі". У аповесці "Горад у нябёсах (учора, сёння, заўтра)" (2004) ідэя пра суіснаванне тут і зараз светаў рэчыўна-існага і Іншага набыла максімальна канкрэтнае мастацкае ўвасабленне. Падвойнасць быцця Антака Перуновіча, цэнтральнага персанажа твора, засведчаная ўжо на ўзроўні "тэхнікі" аповеда, які паралельна вядзецца ад трэцяй і ад першай асобы. Тэрыторыя *я*-героя выразна адасобленая ад прасторы існавання *яго* (Антака) графічна: "рэмаркі", якія скарыстоўваліся празаікам у папярэдніх творах час ад часу, у гэтай аповесці разрастаюцца, становяцца больш важкімі і аб'ёмнымі, утвараючы самастойны, як бы "самакаштоўны" пласт. Тое, што бачыць Антак, — "гэта не горад… а велькі свет продкаў". Прычым пераважная большасць персанажаў, якія атачаюць Перуновіча ў навакольнай рэчаіснасці, важныя якраз у той ступені, у якой дапамагаюць яму асэнсаваць сапраўдную мэту, сэнс з'яўлення ў яго асабістым лёсе Горада ў нябёсах. Сімвалізм гэтай аповесці наогул вызначаецца выключнай выразнасцю, празрыстасцю "іншаўказанняў", што сведчыць пра новую якасць стасункаў у мастацкай прасторы прозы А. Казлова элементаў паэтыкі рэалізму і неарамантызму.

Адной з заўважных тэндэнцый развіцця беларускай прозы ў 2000-я гады становіцца ўзмацненне іранічнага модусу: паэтыка свету адлюстроўваецца ў паэтыцы тэксту як бы "пераломленай" праз прызму мякка-іранічнай (апавяданне "Бальнічка ў Хахлаўцах", 2000, аповесць "Нявыкрутка, альбо Жыццёвае кола вучонага агранома", 2004, С. Рублеўскага, "Старасвецкія міфы горада Б", 2004, Л. Рублеўскай, навелы "Аптэчніца", 2003, "Касцёр Самабуся", 2003, М. Лукшы) ці, найчасцей, іранічна-гратэскавай сімвалізацыі ("Жодзінскія аповеды", 2008, Алеся Аркуша, апавяданні "Тузік і Кузік", 2005, "Чалавек з сажнем", 2006, "Лох", 2007, "Палёты праз цэнтр Зямлі", 2008, Вінцэся Мудрова, аповесць "Пані з сабачкам, альбо Пад кветкамі магнолій…", 2002, Алеся Наварыча і інш.). А вось А. Кліназ у аўтабіяграфічным рамане "Малая падарожная кніжка па Горадзе Сонца", 2008, з'яўленне якога многія крытыкі і чытачы ўспрынялі як знакавую для найноўшай беларускай літаратуры падзею, аднаўляе гісторыю Мінска праз сімвалічна-гратэскавую, часам нават саркастычную яго "тапаграфію", не ахвяруючы, аднак, светла-элегічнай настальгіяй па ўласным дзяцінстве ды маладосці.

Падобны эфект, як ні дзіўна, прысутнічае ў некаторых творах празаіка, мастацкі метад якога нярэдка вызначаюць як "жорсткі рэалізм" — Ю. Станкевіча. Напрыклад, "Сезонныя гульні ў футбол" (2002) — аповесць пра пасляваенную каманду заўжды галодных падлеткаў-футбалістаў, якія ходзяць у піянерскі лагер гуляць у футбол за ежу, "адкрывае" гэтага звычайна бязлітаснага ў дачыненні да сябе і сучаснікаў-суайчыннікаў пісьменніка як майстра светласамотнага, экзістэнцыйна-лірычнага аповеда.

Разам з тым, кнігі "Любіць ноч — права пацукоў" (2000), "Апладненне ёлупа" (2005), "Мільярд удараў" (2008), "П'яўка" (2010) заварожваюць адчуваннем татальнай трывогі, якое то абвастраецца, выбухаючы адчаем, то прыцярушваецца іржою абыякавай панылаcці. Як заўважае П. Васючэнка, "катастрофа, яе прадчуванне або перажыванне сталася істотнай часткай беларускага светаадчування". Сітуацыя нацыянальнага "чакання" / "знікомасці" спрыяе фарміраванню амаль *кафкіянскай* мадэлі мастацкага асэнсавання айчыннай рэчаіснасці. Менавіта ў творчасці Ю. Станкевіча згаданая мадэль увасобленая найбольш паслядоўна (хаця яе фрагменты прачытваюцца і ў прозе Барыса Пятровіча, А. Федарэнкі, Альгерда Бахарэвіча). Калі Ф. Кафка даследаваў жах будзённага ("шараговага") ператварэння асобы ў жамяру, агідную нікчэмнасць, дык сённяшнія беларускія літаратары назіраюць за метамарфозамі відавочна больш маштабнага кшталту — за пераўтварэннямі *быцця ў псеўдаіснасць*, такую пераканаўча-"сапраўдную" ў сваім падабенстве да рэчаіснасці. "Чужаніцы" — як сукупны вобраз-персанаж — прысутнічаюць амаль ва ўсіх творах Ю. Станкевіча. Прычым гэтая прысутнасць у кантэксце аўтарскага бачання рэальных падзей, сацыяльных катаклізмаў (здзейсненых і будучых) асэнсоўваецца аўтарам амаль у апакаліптычным ключы. Так, у рамане "Любіць ноч — права пацукоў" сама кампазіцыя твора закліканая сцвердзіць глабальнасць і, бадай, незваротнасць паразы, якую церпяць беларусы як этнас. Сем частак ("Уварванне", "Злачынства", "Напад", "Зняволенне", "Уцёкі", "Паглум", "Зыход") утвараюць хроніку ўварвання "чужынцаў" у правінцыйнае беларускае мястэчка Янаўск (больш тыповага — не адшукаць). Яе, аднак, можна разглядаць і як хроніку дзіўнага супраціву, супрацьстаяння адзінотніка Данілы Прусака цэламу нашэсцю ўсяеднай, нястрымнай, жахлівай менавіта сваёй абыякавай бязлітаснасцю сілы, якая ў творах Ю. Станкевіча ўражвае бясконцасцю выяваў, аблічч аў, *імёнаў*, вядомых (прыгадаем апавяданне-прыпавесць "Настаўнік спеваў і цемра", 2006) і нечуваных. У аповедах апошняга дзесяцігоддзя празаік нібы выпрабоўвае здольнасць розных фабул, канфліктаў, вобразна-стылявых сродкаў з максімальнай дакладнасцю перадаць сутнасць гэтага "вялікага нішто". Так, у апавяданнях "Вельмі смачная рыба фугу" (2006), "Пакупнік сноў" (2007), "Цацка ад творцы" (2006) перавага аддаецца мастацкаму арсеналу містыкі і фантастыкі; у аснове апавяданняў "Клон Чэ і яго жонка" (2007), "Стрыечніца" (2007) знаходзяцца сацыяльна-побытавыя канфлікты, якія вырашаюцца ў фінале навелістычнага тыпу. Між тым, мэты сваёй празаік дасягае незалежна ад таго, па якой мастацкай траекторыі ён да яе рухаецца: невыносная дзіўнасць быцця ў звыкла дэфармаваным свеце не проста атачае чытача твораў Ю. Станкевіча, але пранікае ў яго, вымагае ад кожнага напружанага, спусташальнага "саўдзелу", "суаўтарства". Апавядальная тканка тут узнаўляе не плынь свядомасці, а хутчэй логіку пачуцця, дыялектыку страсці, пад якой маецца на ўвазе пачуццё, эмоцыя, даведзеныя да максімальнай напружанасці. Скарыстоўваючы ідэю Е. Лявонавай пра вызначэнне мастацкага метаду Э. Ялінэк як "клінічнага імпрэсіянізму", можна гаварыць пра эвалюцыю стылю Ю. Станкевіча ў першае дзесяцігоддзе XXI стагоддзя ў кірунку "клінічнага пострэалізму".

**Узіраючыся ў гісторыю літаратуры, найперш спрабуеш дасягнуць разумення. Аддаленасць, туман і невядомасць перашкаджаюць. Наколькі разуменне ўвогуле магчыма, калі не валодаеш фактамі, першакрыніцамі?**

**Арыентавацца ў творах Янкі Купалы праз школьны падручнік з чыйёйсьці анатацыяй — падманваць і абкрадаць сябе. Сапраўднае разуменне вымагае напружанай і не заўсёды прыемнай працы з тэкстам.**

# Радасць і горыч вяртання

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

Але што рабіць, калі самі тэксты, на якіх павінна грунтавацца асэнсаванне гісторыі нашай культуры, знікаюць у невараць альбо апынаюцца пад пагрозай знішчэння? Калі яны расцярушаны па архіўных сховішчах, цяжкадасяжных перыядычных выданнях і асабістых калекцыях? І што можна наогул гаварыць пра каго-кольвек з творцаў, калі ягоны шлях ты не здатны адсачыць ад пачатку да канца — для ўяўлення цэласнай карціны свету мастака?

Крытыку і літаратуразнаўцу, рэдактару і філасофу Адаму Антонавічу Бабарэку было наканавана доўгае вяртанне на Радзіму. І вось, сёння можна нарэшце сказаць з усёй пэўнасцю: яно адбылося! — пабачыў свет фундаментальны Збор твораў у двух тамах, падрыхтаваны на самым высокім навуковым узроўні укладальнікамі выдання Алесяй Бабарэкай, Ганнай Запартыкай і Віктарам Жыбулем. Спадчына Адама Бабарэкі прадстаўлена ў ім з вычарпальнай паўнатой і ахоплівае ўсе галіны, да якіх дакраналася рука творцы: паэзію, прозу, публіцыстыку, эсэістыку, нататнікі і дзённікі, эпісталярый, службовыя і аўтабіяграфічныя дакументы і, вядома ж, асноўнае — тэарэтыка-літаратурныя і крытычныя працы.

Апошнім цалкам прысвечаны 1 том Збору твораў (939 старонак павялічанага фармату), і гэта першае і адзінае на сённяшні дзень выданне крытычных артыкулаў Адама Бабарэкі. Да гэтага часу ён, як Максім Багдановіч, меў толькі адну кнігу — "Апавяданні" (1925). Добра, што не перавяліся яшчэ на зямлі "Іваны Замоціны", якіх такое становішча рэчаў не задавальняе (акрамя Бабарэкі тут можна прыгадаць і іншых дзеячаў 1920-х, чые справы і думкі дагэтуль знаходзяцца ў падобным стане). Для свайго часу Бабарэка быў, бясспрэчна, крытыкам № 1. Але паводле ўласных поглядаў ён апынуўся ў апазіцыі афіцыйнаму кіраўніку Белдзяржвыдавецтва Зміцеру Жылуновічу, дзякуючы чаму так і не займеў прадстаўнічай кнігі артыкулаў. Пазней, у час і пасля сталінскіх рэпрэсій, Бабарэку рэдка хто ўспамінаў наогул, а калі і згадвалі, то — грубай, абсалютна незаслужанай лаянкай. Пасля рэабілітацыі ў 1957 г. клімат крыху пацяплеў, прозвішча хаця б пачало мільгаць у паасобных публікацыях. Найперш трэба адзначыць шчырую працу У. Конана, які ў 1965 годзе здолеў прарваць блакаду крытыка-біяграфічным артыкулам у часопісе "Полымя", а ў 1976-м выдаў першую і адзіную на сёння манаграфію, прысвечаную Адаму Бабарэку. Новае дыханне ў даследаванні спадчыны крытыка і мысляра пачалося ўжо ў 1990-х гг., калі пакрысе, асобнымі паступленнямі, у Беларусь стаў вяртацца архіў Бабарэкі. Усе гэтыя доўгія дзесяцігоддзі ён беражліва захоўваўся спачатку жонкай крытыка Ганнай, а пасля ейнай смерці — дачкой Алесяй Адамаўнай.

Пісьменніцкія сем'і… Што б страціла руская літаратура, каб не Алена Булгакава, Марыя Платонава, Надзея Мандэльштам? І ў нас — Уладзіслава Луцэвіч, Леаніла Чарняўская, Ганна Бабарэка. Двойчы выграбалі наператрусах у Адама Бабарэкі ягоныя паперы. Але дзякуючы кемлівасці гаспадароў удалося ўратаваць ад НКУС ладную частку архіва. На сённяшні дзень гэта адзін з самых багатых асабістых архіваў рэпрэсіраваных пісьменнікаў, вучоных, грамадскіх дзеячаў. Па ім можна меркаваць пра тое, як выглядала бы спадчына "маладнякоўцаў" і "ўзвышэнцаў", каб не было 1930-х гг. З небыцця вяртаецца фігура мала не рэнесанснага маштабу — настолькі разнабакова адоранай асобай быў Адам Бабарэка. "Тварыць сябе" — вось быў ягоны лозунг. Паступова, ад артыкула да артыкула, ад выступу да выступу, з кожным годам талент крытыка сталеў, набіраў моцы. Вытокі яго караняцца, безумоўна, у самім складзе характару творцы — думанніка, мысляра па натуры. Цвяроза ацэньваючы свае здольнасці, ён спачатку адмаўляецца ад пісання вершаў, затым прозы і праз крытыку рухаецца да чыстага мыслення — філасофіі. Здзейсніць гэты натуральны пераход, здзейсніць сваё пакліканне перашкодзіў гвалт над асобай. У іншым разе мы мелі б на нашай зямлі дыялектыка еўрапейскага ўзроўню, які, магчыма, зацьміў бы ў гэтым і знакамітага Дзьёрдзя Лукача.




Заспеты ў 1920-х гг., на прамежкавай стадыі, Адам Бабарэка стаў крытыкам par excellence, у той час, калі літаратурнымі крытыкамі былі ўсе, каго дапускалі да старонак перыёдыкі — паэты-бурапенцы, эканамісты, празаікі, мовазнаўцы, гісторыкі. Адам Бабарэка, узгадаваны філалагічнай школай БДУ (Я. Барычэўскім, А. Вазнясенскім, І. Замоціным, М. Піятуховічам, А. Яўлахавым), усё ж такі да акадэмічнай навукі належаць не хацеў (хоць і працаваў сакратаром у Інбелкульце). Ён стаў "чыстым" крытыкам, бо хацеў займацца перадусім сучаснасцю, а не гісторыяй літаратуры. Мінулае было яму патрэбна выключна для адчування літаратурнага працэсу як з'явы дынамічна-непадзельнай і працяглай у часе. Па вялікім рахунку, ён быў адзіным такім крытыкам у тагачаснай літаратурнай сітуацыі, яго слухалі і паважалі, яму зайздросцілі, яго крытыкавалі — ведаючы цану. Апаненты з "Маладняку" і "Полымя" так і не змаглі дараваць яму сыходу ад "іх", "найлепшых" (бо менавіта ён абгрунтоўваў і падводзіў метадалагічную базу пад тое хаатычнае і разбэрсанае, чым займаўся "Маладняк", называючы гэта новай пралетарскай літаратурай). Затое былі ў яго і добрыя сябры, якім ён плаціў, "чым моц магла" — глыбокім пранікненнем у іх творчасць — Я. Пушчы, У. Дубоўкі, К. Чорнага, З. Бядулі, Л. Калюгі. Да ўсяго ён даходзіў сам, як пасля і прызнаецца ў паказаннях па справе СВБ: "Толькі артыкул пра лірыку М. Чарота носіць на сабе след універсітэцкай вучобы (пісаны пад уплывам метадалагічнай схемы І. Замоціна). Рэшта ж ёсць плод уласных дум, разважанняў і шуканняў метадалагічнага парадку".

Гэтыя "шуканні" ў палітры тэарэтыка-літаратурнай думкі Беларусі 1920-х гадоў прыкметныя і характэрныя. Тады ў кожнага тэарэтыка метад быў свой, але неўзабаве іх змусілі прыходзіць да агульнай і неаспрэчвальнай лініі партыі. Сцягам стаў марксізм, але зразуметы павярхоўна. Адам Бабарэка пачаў ад павярхоўнасці, з кожным новым артыкулам "узвышаючыся" і паглыбляючыся ў марксісцкую тэарэтычную думку. У прыватнасці, ён адзначае сваімі настольнымі кнігамі Пляханава і Мерынга, людзей, для якіх той марксізм бальшавікоў быў з'явай абсалютна неймавернай. Яны займаліся сацыялогіяй мастацтва, што існавала як правамоцная частка матэрыяльнай эстэтыкі таго часу. У кантэкст матэрыяльнай эстэтыкі (якая адпрэчвала "ідэалістычныя" метадалогіі метафізікаў) уваходзіла тады і фармальная школа паэтыкі, якая разглядала твор як складанае цэлае, кожны элемент якога — важны і незамяняльны — мае сваё паходжанне ў гісторыі літаратуры, і таму — значны. Увага прадстаўнікоў фармальнай школы пераносілася на мікраструктуру твора. Пытанні сацыялогіі мастацтва яны атаясамлівалі з вопытам адсталага мінулага (бясконцыя нагрувашчванні фактаў вучонымі культурна-гістарычнага напрамку — пры адсутнасці якога-кольвек метадалагічнага пафасу). Бабарэка адразу стаў на шлях матэрыяльнай эстэтыкі, называючы яе марксісцкай, аднак арганічна ўводзіў ва ўласную методыку аналізу і доследы па мікраструктуры, і факты гісторыка-культурныя, не адмаўляючыся ад падыходаў псіхалогіі мастацтва. Гэтым ён незалежна ад астатніх падышоў да пануючага напрамку ў тагачаснай універсітэцкай тэорыі літаратуры — фармальна-сацыялагічнага метаду (нават тэмы дыпломных работ фармуляваліся такім чынам — "Мастацка-сацыялагічны аналіз". Гл. напр. пратаколы пасяджэнняў літаратурнай прадметнай камісіі БДУ: НАРБ, ф. 205, воп. 1, спр. 815). Фактычна тым самым ён адмаўляў у існаванні павярхоўна зразуметаму марксісцкаму метаду (якім карысталіся ледзь не ўсе тагачасныя рэцэнзенты) і ў той жа час не прыхінаўся да расплывістай крытычнай метафорыкі, якой тады таксама нямала грашылі. Можна сказаць, што Бабарэка прапанаваў метадалагічны сінтэз, заснаваны на класічнай строгай дыялектыцы, з ухілам у сацыялогію. Пазней за падобную вольнасць у разуменні марксізму выганялі і знявольвалі. Яго ашальмавалі не за гэта — за прыналежнасць да "Узвышша", якое было абвешчана "нацдэмаўскім". Такім яно па сутнасці і было, гэтае згуртаванне, і сёння бадай трэба вымаўляць гэтыя словы з вялікай павагай: "нацыянал-дэмакрат" — як пэўны арыенцір.




Цяпер ідзе завядзёнка, канечне, каб рабіць рух 1920-х больш нацыянальна-вызваленчым, чым ён быў на самой справе. Безумоўна, СВБ быў міфам, але міфам была і рэвалюцыя. Такія людзі, як Блок, адчулі гэта вельмі хутка. Аднак маладзёнам, якія раслі з імем Леніна на вуснах, давялося трапіць у турму і лагер, каб зразумець сапраўдны сэнс і змест рэвалюцыі. Тое, што Бабарэка як сапраўдны мысляр і крытык не мог не зразумець, ён паспеў выказаць у патаемных нататках і лістах. Але калі чытаем ягоны сямейны эпісталярый, усе філасофіі знікаюць, бо тут перад намі паўстае чалавек незамглёнай чысціні і высакароднасці, дабрыні і чуласці, і ўсё тое, што ён мог бы зрабіць як творца, растае перад фактам таго, кім ён натуральна быў для сваіх блізкіх і ад каго быў навек адарваны. Рамантык і думаннік, добры муж і тата, інтэлігент у смешных круглых акулярах, Адам Бабарэка быў раструшчаны ГУЛАГам літаральна за паўгода…

Цяжка пераацаніць значнасць гэтага двухтомніка. Нельга і не ўхваліць тытанічную працу над ім: былі сабраныя ўсе вядомыя публікацыі Адама Бабарэкі. Каля 250 (!) тэкстаў друкуецца ўпершыню паводле аўтографаў, што захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва (асабліва пашанцавала Язэпу Пушчу — фактычна, з рукапісаў адкрылася цэлая грунтоўная манаграфія па яго творчасці). Да кніг прыкладзены грунтоўныя каментары (прыкладна па сто старонак на кожны том), што вельмі важна і вельмі доўга робіцца, бо крытычная ды і літаратурная спадчына 1920-х з'яўляецца своеасаблівым інтэртэкстуальным утварэннем, балазе сам Бабарэка нячаста даваў спасылкі на цытаты. Ёсць у выданні і анатаваны паказальнік імёнаў. Да другога тома далучаны і корпус дакументаў згуртавання "Узвышша", многія з якіх таксама пазначаны аўтарствам Адама Бабарэкі. Бадай, мала нададзена ўвагі "Узвышшу" пасля 1930 г. (напрыклад, не ўключаны матэрыялы з архіва П. Глебкі: ЦНБ НАН Беларусі, ф. 24, спр. 1184 і інш., у каментарыях да пагромніцкага артыкула Глебкі "Нацдэмаўшчына, замаскаваная марксісцкай фразай" не разгледжаны ўнушальны чарнавік гэтага тэксту, памерам у паўтары сотні аркушаў: там жа, ф. 24, спр. 372). Аднак гэта і не было мэтай. Для "Узвышша" і для "Маладняка" зробіцца калі-небудзь асобны дакументальны "звод". Тым больш што сам Бабарэка да апошняга перыяду існавання "Узвышша" ставіўся надта крытычна і ў прыватных нататках адгукнуўся на самароспуск наступным чынам: "Яно хіба жывым было? Даўно ўжо мерцвяком. <…> Узвышша не памерла. Яго жывым пахавалі. <…> Гэта запознелае сцверджанне факта, што "Узвышша" памерла ў 1930 г. не само, а будучы задушаным бандытамі, наладзіўшымі пагром па беларускай культуры".

Магчыма, пры далейшых доследах знойдуцца і яшчэ аўтографы. Напрыклад, няма ў выданні заявы, якую Бабарэка падаваў пры паступленні ў БДУ і на якую ён спасылаецца ў паказаннях па справе СВБ: "Скончыўшы ў 1918 г. 4 класы Менскай Духоўнай Сэмінарыі, з прычыны нямення сродкаў для вучэньня ў вышэйшай установе, я прымушан быў стаць на грамадзянскую працу с перша, як настаўнік пачатковай школы і выкладчык беларускага культурна-асьветнага гуртка, а потым, як сябар валаснога рэўкому й загадчык аддзелу Народнай Асьветы і ўрэсьце апошні год праслужыць чырванаармейцам у Чырвонай Арміі. За гэты час жыцьцё выявіла перада мною маю непадгатаванасьць і нестачу патрэбных ведаў, каб быць карысным працаўніком для працоўнай беднаты свайго краю. Выяўленьне сабе гэтага і прагнасьць да працы штурхае дастаць вышэйшую асьвету, каб у далейшым усе свае сілы патраціць на карысьць працоўнага люду свайго краю шляхам падняцьця яго на больш высокі прыступ культурнага разьвітку, а дзеля гэтага прашу Прыемную Камісію прыняць мяне ва Універсытэт, залічыць у лік студэнтаў першага курсу Факультэта Педагогічнага на аддзяленьне гістарычнае.<…> 1922 г. Жніўня 1 дня А. Бабарэка" (захоўваецца ў фондзе БДУ НАРБ). З часам, упэўнены, адшукаецца і адкрыецца многае. Важна тое, што адкрылася сёння — для навуковай супольнасці і, шырэй, для аматара беларушчыны. Нарэшце ў поўным аб'ёме можна выкарыстоўваць спадчыну Бабарэкі і ўводзіць у актыўны літаратуразнаўчы ўжытак. Здзейснілася! Гэта сапраўднае свята беларускай культуры і найверагоднейшы варыянт на "Кнігу года".



Рагнед Малахоўскі

# Успамін пра каханне

## Надзея

*Калі няма ўзаемнасці — бяда.*
*У існасці такой не сумняваўся.*
*Няспраўджанай надзеі не шкада,*
*Хаця я на ўзаемнасць спадзяваўся.*

*Нашто цяпер на поўню воўкам выць*
*І адракацца ад сваіх пачуццяў?*
*Бо сэрцу, што кахае, не астыць,*
*І спачуванняў не жадаю чуць я.*

*Шчаку пячэ гарачая сляза,*
*Баліць душа ад жалю невыносна.*
*Шкадую, што табе недасказаў,*
*Як без цябе на сэрцы сёння млосна.*

*Наіву ж пацалункі тры ці два*
*Незацугляны час даўно развеяў.*
*Пагасла ў небе... і няма святла*
*Той зоркі, што назвалі мы Надзеяй.*

## Чаму?

*Чаму я ўспомніў даўнія хвіліны,*
*Калі былога шчасця гралі ноты?*
*На вуснах горыч вогненнай каліны,*
*А сэрца зноўку прагне адзіноты.*

*На шчодрай гронцы спелага кахання*
*Адлюстраванне зманлівага раю?*
*Мне не знайсці адказу на пытанне,*
*Пакуль жыву, пакуль яшчэ кахаю.*

## Здрада

*Зведаўшы ікліщы здрады,*
*З пакорай не стаў на калені.*
*Спазнаў той адвечнай праўды*
*Без енку і без абурэння.*

*Сумленне тваё безадказна*
*Апорай сталася лёсу.*
*Я зноўку ўбачыў выразна*
*Крыштальнага шчасця слёзы.*

*Абсурдны саюз пустэчаў*
*Свядомасць прымаць не хацела.*
*Ды міг недаверу скалечыў*
*Каханне, што сном праляцела.*

*Праз боль невыносны здрады*
*Спазнаў найчысцейшай праўды...*

## Не бяжы

*Не імкні ад мяне*
*Завірухай распуснасці вольнай,*
*Не ўцякай бессэнсоўна*
*Ў цягуча-ілжывую ціш.*
*Заставайся на вузкай сцяжынцы,*
*Гулліва-свавольнай, —*
*І ў вышыні пачуццяў*
*На крылах кахання ўзляціш.*

*Не чакай пацалункаў гарачых*
*Драпежнага звера,*
*Не ўскладай спадзяванняў*
*На шчырасць бяздушных парад.*
*І з глыбіняў душы*
*Хай крыніцай струменіцца вера.*
*Не бяжы ў забыццё,*
*Бо не будзе дарогі назад.*

## Распятае каханне

*Барвовай заранкай на вуснах ірдзее надзея.*
*Над верай і шчасцем —*
*бясшумныя крылы вясны.*
*А ночы акраец пад чарамі зор палымнее,*
*Блакітам нябёсаў асвечаны мары і сны.*

*Глухія куты не пачуюць прыцішаны голас,*
*І здрада паточыць пачуцці,*
*як вопратку моль,*
*Пасохнуць яны,*
*як спякотай засмужаны колас,*
*Душу запалоніць нясцерпны, заслужаны боль.*

*Астыў на стале шэры прысак*
*згарэлай лучыны,*
*І зоркі размыты адбітак —*
*у шклянцы вады.*
*Павыстылі сцюжна пачуцці*
*і думы дзяўчыны,*
*У садзе кахання трымціць*
*бадыллё лебяды.*

*Святое пачуцце распятае*
*бачыць нязвыкла.*
*Пагляд абыякавы холадам сэрца кране.*
*Знявечана шчасце*
*да смешнага дробным і прыкрым, —*
*Прысуд агалошаны. Сорам карае мяне.*

## Мроя

*Перад вачыма толькі вобраз твой.*
*Калі я сплю, то бачу цябе ў снах.*
*І не прымроіць мне ўначы другой,*
*Каб да яе імчацца на вятрах.*

*О, колькі ў думках мрою мілаваць,*
*Дакуль трызненням зоркамі гарэць,*
*Прыдуманыя вусны цалаваць,*
*Душу каханнем выдуманым грэць?*

*Свет летуценняў мне насустрач мкне.*
*Не стану думкі-мроі распрагаць.*
*Так хочацца, як у чароўным сне,*
*Шчаслівa, да бясконцасці кахаць.*



Фота Кастуся Дробава



Алена Белая

* * *

*Зноў люты пазяхае слаба,*
*Нібы схварэлы чалавек.*
*Даўно сышоў у снежнай бабы*
*Яе і снежны, й бабскі век...*

*Як добра выбару ўнікаць,*
*Не ўспамінаючы пра Сартра,*
*А лепш спакойна прывыкаць,*
*Што выдумляць цябе не варта,*
*Што ўсё паўторыцца і заўтра, —*
*І ні на што не наракаць,*
*А з песняю шчымлівай барда*
*Жыццё як лета сустракаць.*

* * *

*Зляпіла зіма сакавік — абы з рук!*
*(А быць абяцаў не абы-якім.)*
*Што мне з таго, што звініць жаўрук*
*Званком не твайго мабільніка?!*
*Рушыць да мора пагоды шукаць?*
*Не, іншае выйсце дай мне:*
*Забыцца на ўсё і да ранку блукаць*
*У нетрах тваіх жаданняў.*

*Нявыдуманая гісторыя*
*Ізноў сакавік пацвярджае: дарма*
*Да шафы хінуцца.*
*Яшчэ раз упэўнішся: зноўку няма*
*У што распрануцца.*

*Дазволь жа такога сабе не сцярпець,*
*Старое — у клунак!*
*(Тым болей што змог за зіму патаўсцець*
*Не толькі рахунак…)*

*Наўрад ці так хутка прыспіш ты такі*
*Няўсцешлівы вынік.*
*Ледзь-ледзь абудзілі блакіт жаўрукі —*
*Прэшся на рынак.*

*Блукаць табе тут да паўдзённай пары,*
*Купацца у слове,*
*Якім незаўважна цябе гандляры*
*У нерат заловяць.*

*Бадай што ніколі не бачыў сусвет*
*Танней кан'юнктуры,*
*Ды вабна падманвацца на камплімент*
*Жаночай натуры.*

*Дапяўшы да рынку, чуць днее, здалёк,*
*Пакінеш губляцца:*
*Рашуча пачнеш даставаць кашалёк,*
*Купляць і… купляцца!*

## Думкі ў вандроўцы

*Захацела я зачыніцца —*
*І мяне не трымай ані! —*
*Там, дзе можна нагбом напіцца*
*Адзіноты і цішыні,*

*Дзе завея самотным воўкам*
*Завывае між камінoў,*
*Дзе крыху засмучоным вокам*
*У сутонне глядзіць акно.*

*Так бывае ў бацькоўскім доме,*
*Калі ён яшчэ не пусты*
*І яшчэ ні нудзе, ні стоме*
*Не вяртаеш пазыкі ты;*

*Дзе дымок адмысловай корбай*
*У блакіце дзіркі шкрабе*
*І дзе мне так злачынна добра*
*Проста з думкамі пра цябе!*

*У снягах камяні як рыфы,*
*Мітусні і тлуму няма…*
*І на аркуш просяцца рыфмы,*
*Дасканалыя, як зіма.*

## Мінорнае

*Кахаю — і спадзяюся,*
*Што злічаны вёрсты не ўсе.*
*Ды ўжо не наведае бусел,*
*Дачушку не прынясе…*

* * *

*Мялю ўпарта жарству пакуты*
*Між камянёў цярпення.*
*…………………………………*
*Куды лёс паставіць націск*
*У слове “мука”?..*

* * *

*Не выпадае махнуць рукой,*
*Бо праўда як свет старая:*
*Кахаюць не тых, хто прыносіць спакой,*
*А тых, хто яго адбірае!*

## Каханне

*Трымценне жаўрука.*
*Далоні ў далоні.*
*………………………*
*Гарачая рука*
*На трапяткім улонні.*
*………………………*
*Калючая шчака*
*Ля схаладнелай скроні…*



Уладзімір Цішуроў

## У вянок паэту Міхасю Кушнярову

*Прыгожае бачна здалёку.*
*Паэце жыў з адным вокам*
*Ды бачыў і чуў далёка.*
*Яшчэ дадамо — глыбока.*

*Неглыбока мысліў сусед*
*І суседа ўсе суседзі.*
*“А які ж у Паэта абед?*
*Дый хто сядзіць пры абедзе?”*

*У Паэта былі на стале*
*Боль і радасць тлумнага веку,*
*На ўчарнелай зусім чапяле*
*Блін да столу зрэдчас калі ехаў.*

*Не нашчодрыла каса бліноў,*
*Ганарару было — на вячэру,*
*Ды багацця і думак, і слоў*
*Не ўмясцілі б сто тысяч талерак!*

*Ён пайшоў… ад бяды ў лепшы свет.*
*Там спакой і змрок — без прасвету.*
*Верш Паэта святліць Сусвет.*
*І Сусвет удзячны за гэта!*

## Надзея на радасць

*У табе юнацтва полымем гарыць,*
*А ўва мне пакрысе тлее.*
*Маё юнацтва — з-за сівой гары*
*Дым пад нябёсы, шызы, вее…*

*І я цябе, напэўна, разумею.*
*А разуменне болем спее.*
*І, як цяля у жэрдкі, ў боль*
*Загнаны я, каханая, табой.*

*Ты — сонца.*
*І твайго святла жадаў.*
*Святлеў,*
*цяплеў*
*пагляд*
*здзічэлы.*
*Халодным мінусам*
*ударыў твой пагляд —*
*У тэмпературы*
*у такой дранцвею.*

*Не на гадзіну мне ты*
*падарыла вею,*
*Ў якой святлеў.*
*Цяпер я не святлею.*
*І штосьці зразумець хачу —*
*І не разумею.*

## Дрэва

*Мне пакутна — твая пакута.*
*Мусіць, мы былі падмануты*
*Самі сабой.*
*Асалода ўзрасла журбой.*
*А журбота ўзрасла, як дрэва,*
*З імем — Сумная Каралева.*
*Не звярнуць ані ўправа, ні ўлева.*
*Стрэл журбы — ад Каралевы.*
*Мы на свет гэта дрэва пусцілі,*
*Мы яго гадавалі-расцілі…*
*А яно жыве і не вяне —*
*Паліваем кожным спатканнем*
*Выпадковым ці невыпадковым.*
*Дрэва гляне — душа вяне…*
*Ну навошта*
*з тым дрэвам спатканне?!*
*Забароненая садавіна,*
*увасобленая віна*
*Кожны раз пры стрэчы відна.*
*Добра адно, што яно — адно.*

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі

Кніжны свет

25 сакавіка 2011г.

# Вясна пачынаецца з кірмашу: пункцірам па выстаўцы

Марына ВЕСЯЛУХА,
Мінск — Масква — Мінск,
фота аўтара

**У Маскве, ва Усерасійскім выставачным цэнтры, прайшла XIV Нацыянальная кніжная выстаўка-кірмаш "Кнігі Расіі", у якой прынялі ўдзел каля 500 фірм. На плошчы амаль у 10 тысяч квадратных метраў была прадстаўлена шырокая палітра літаратурнага, навуковага, вучэбнага, дзіцячага кнігавыдання краіны — больш як 150 тысяч найменняў кніг на мовах розных народаў Расійскай Федэрацыі і іншых краін. У якасці Цэнтральнага экспанента сёлетняга форуму выступілі рэспублікі Паўночнага Каўказа, на агульным стэндзе "Кнігі Рэспублікі Беларусь" прадставілі свае кнігі і беларускія выдавецтвы.**

### Каня — за добрую кнігу!

"Амаль пасля двухгадовага крызісу, які перажывала кніжная індустрыя, мы сабраліся для таго, каб сказаць: кніга выжыла. Пра гэта сведчыць тое, што выдаўцы падрыхтавалі навінкі і сабраліся, каб паўдзельнічаць у традыцыйным кніжным форуме", — падчас урачыстай цырымоніі адкрыцця выстаўкі-кірмашу заўважыў намеснік кіраўніка Федэральнага агенцтва па друку і масавых камунікацыях Расійскай Федэрацыі Уладзімір Грыгор'еў.

Прадстаўнік Цэнтральнага экспанента форуму, галоўны рэдактар выдавецтва "Эхо Кавказа" Шапі Казіеў падкрэсліў у сваім выступленні, што на Каўказе заўсёды вельмі высока цанілі слова. За добрую кнігу маглі падарыць каня, а за дрэнную — выгнаць з аула. Кнігі на Каўказе заўсёды займалі ганаровае месца ў дамах, нават больш ганаровае, чым зброя. Спадар Казіеў адзначыў і важкасць удзелу пісьменнікаў з Каўказа ў форуме: "Для многіх аўтараў выстаўка — гэта яшчэ і магчымасць сустрэцца з чытачамі, пагутарыць з калегамі і лепш адчуць літаратурны пульс нашага часу".

### Што модна? Усё!

Сярод мноства выданняў, прадстаўленых на форуме, знайшлося месца розным кнігам: сціплым, шыкоўным, з яркімі ілюстрацыямі, інтэрактыўным, мініяцюрным і нават рукапісным. Пра разнастайнасць і разнапланавасць і выданняў, і густаў ярка сведчыла спецыяльная вітрына, на якой былі прадстаўлены "разынкі" кірмашу. А тут — і грунтоўнае выданне "Народы Расіі" ("ПАН ПРЕСС"), элегантнае "Жыццё і час У. Шэкспіра" ("РИПОЛ классик"), новая кніга Андрэя Рубанава "Псіхадэл" ("АСТ"), і, як заўсёды, нестандартныя дзіцячыя выданні "З чаго пачынаецца сварка" Андрэя Смятаніна ("Компасгид") і "Дзённік ката-забойцы" Эн Файн ("Самокат"). Што да агульнага стэнда выдаўцоў Рэспублікі Беларусь, тут была прадстаўлена ўся палітра новых кніг, але найбольш запатрабаванымі ў наведвальнікаў аказаліся выданні па гісторыі Беларусі, геральдыцы. Так, яшчэ да афіцыйнага адкрыцця выстаўкі кнігі "Радзівілы. Альбом партрэтаў XVIII — XIX ст." (БелЭн імя П. Броўкі) і "Срэбная страла ў чырвоным полі" Уладзіміра Крукоўскага (РВУ "Літаратура і Мастацтва") перайшлі ва ўласнасць наведвальнікаў-прафесіяналаў.



### Хто дапаможа? Крытык!

Праграма форуму ўключала мноства прафесійных абмеркаванняў, прысвечаных электроннаму кнігавыданню, кнігагандлю, узаемадзеянню выдаўцоў, чытачоў і бібліятэк. Сярод "круглых сталоў", што выклікалі шырокі рэзананс, можна вылучыць і абмеркаванне тэмы "Што такое сучасны рускі раман?", арганізаванае на стэндзе выдавецтва "АСТ". У ім прынялі ўдзел лаўрэат "Рускага Букера 2010" Алена Калядзіна, маладая пісьменніца і крытык Аліса Ганіева і празаік, драматург, сцэнарыст Аляксей Слапоўскі. Ці павінен пісьменнік арыентавацца на густы чытача? Думаць пра заробак, што можа прынесці кніга? Ці можна наступны твор напісаць гэтак жа моцна, як і першы паспяховы? Ці павінен аўтар звяртаць увагу на водгукі чытачоў? На гэтыя і іншыя пытанні эксперты спрабавалі знайсці адказы разам з публікай.

Падчас "круглага стала" адбылося абмеркаванне і пытання якасці і колькасці літаратурнай крытыкі на творы, што з'яўляюцца ў наш час. Аляксей Слапоўскі заўважыў, што сёння ў Расіі можна казаць пра заняпад літаратурнай крытыкі. Часам аўтары па электроннай пошце ці праз сацыяльныя сеткі атрымліваюць ад чытачоў больш кваліфікаваныя і абгрунтаваныя водгукі на свае творы, чым думкі, выкладзеныя ў рэцэнзіях літаратурнамастацкіх выданняў. Крытыкі жператварыліся ў простых рэцэнзентаў газетнага тыпу. Рэцэнзіі скарачаюцца і спрашчаюцца да пераказу сюжэта, расповеда пра ўласныя адчуванні падчас прачытання літаратурнага твора. "На гэтым форуме прадстаўлена больш як 150 тысяч выданняў, — заўважыў спадар Слапоўскі. — Хто павінен дапамагаць чытачу арыентавацца ў гэтым багацці выданняў? Крытык, які, на жаль, сёння ўсё больш і больш губляе пазіцыі і прэстыж".

### Антыгероі года

Адной з традыцый выстаўкі "Кнігі Расіі" можна лічыць і ўручэнне антыпрэміі "Абзац", заснаванай газетай "Книжное обозрение" і Генеральнай дырэкцыяй міжнародных кніжных выставак-кірмашоў. Ужо 11 год яе ініцыятары змагаюцца з непісьменнасцю, халтурай і цынічнымі адносінамі да друкаванага слова. Гэтую антыпрэмію раней атрымалі Джон Апдайк, Ніл Гейман, Мішэль Уэльбек, Фрэдэрык Бегбедэр і нават Габрыэль Гарсія Маркес. У гэтым годзе "Абзац" у намінацыі "Горшы пераклад" атрымаў раман ірландскай пісьменніцы Сесіліі Ахерн "Чароўны дзённік" у перакладзе Людмілы Валадарскай ("Иностранка", 2010). "Горшая рэдактура" прысуджана раману амерыканскай пісьменніцы Эрыкі Ёнг "Як выратаваць сваё жыццё" ("Эксмо", 2011). "Абзац" за горшую карэктуру атрымала культуралагічная кніга Дэвіда Фрыдмана "Пеніс. Гісторыя ўзлётаў і падзенняў" ("РИПОЛ классик", 2010). Самай жа горшай кнігай года ў намінацыі "Поўны абзац" быў названы раман лаўрэата "Рускага Букера 2010" Алены Калядзінай "Крыж з кветак" ("АСТ", 2010).

***На здымку: Аліса Ганіева, Алена Калядзіна, Аляскей Слапоўскі падчас абмеркавання пытанняў сучаснага рускага рамана.***

## *Витрина*

Михаил ПРИМАКО,
фото Константина Дробова

# Культ новых идей и технологий

**В Минске открылся новый книжный магазин — "PRезентация".**

Очередной проект коллектива издательства "Белорусская Энциклопедия имени Петруся Бровки", чей труд совсем недавно был отмечен премией "За духовное возрождение", можно назвать вызовом тем трудностям, которые часто перечисляют в разговоре о состоянии книжной торговли и вообще об отношении к чтению. Магазин "PRезентация", открывший свои двери во вторник, поражает симпатичными интерьерами, свободным пространством, удачной раскладкой книг. Об этом, а также о том, что "Белорусская Энциклопедия" генерирует новые идеи, грамотно определяет свою издательскую, книготорговую стратегию, говорили на открытии магазина заместитель министра информации Республики Беларусь Игорь Лаптёнок, генеральный директор Белорусского Дома печати Роман Олейник, директор Национальной библиотеки Беларуси Роман Мотульский, директор ОАО "Белкнига" Александр Вашкевич и другие гости. Отвечая на вопросы журналистов на тему, какой же будет работа нового торгового книжного объекта столицы, директор издательства "БелЭн" Татьяна Белова подчеркнула, что в "PRезентации" будет внедряться культ новых идей и новых технологий. Не раз в ходе торжеств звучало определение "энциклопедия вкуса". Что это означает? "Главная идея магазина, — отметила Т. Белова, — как серьёзного структурного подразделения энциклопедического издательства — это пропаганда интеллектуальной книги, создание вокруг неё атмосферы научного сообщества, сотрудничества, соработничества. А ко всему этому, безусловно, мы приложим и оригинальное информационное сопровождение книжных новинок". А о том, что пропагандировать и рекламировать есть что, свидетельствуют и полки нового магазина, и ближайшие планы издательства "Белорусская Энциклопедия имени Петруся Бровки".



***На снимке: директор Республиканского института китаеведения имени Конфуция Василий Стражев и заместитель министра информации Республики Беларусь Игорь Лаптёнок открывают новый магазин.***

## *У падтрымку чытання*

# Сцэнарыст Юлія Ляшко: «Плакала над вершамі Стывенсана»

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА



Фота Валерыя Сафонава

Мае самыя яркія "кніжныя" ўспаміны дзяцінства — "Казкі Шарля Перо" і "Прыгоды Бураціны". Сёння мяркую, што запомніліся яны выключна з-за шыкоўных ілюстрацый, па-сапраўднаму казачных. Гэта першыя кніжкі, якія я чытала "сама сабе". Чытаць навучылася ва ўзросце чатырох гадоў.

Мама прывучала мяне да паэзіі. Помню свае гарачыя слёзы, калі яна прачытала мне "Верасовы мёд" Роберта Стывенсана ў перакладзе Самуіла Маршака і верш Барыса Слуцкага "Коні ў акіяне"...

Дзіцяці чытаю класіку — гэта тыя ж самыя "Прыгоды Бураціны", казкі Перо і Андэрсэна. А яшчэ... коміксы пра Чалавека-Павука і Бен Тэна! Апошняе — без усялякага задавальнення, проста вымушана скарыцца дзіцячай "модзе".

На маёй кніжнай паліцы — нязменны набор, тое, да чаго пастаянна вяртаюся: Міхаіл Булгакаў, Канстанцін Паўстоўскі, Антон Чэхаў, Аркадзь Аверчанка, Тэфі. Люблю добры дэтэктыў — Алістэра Макліна, Дзіка Фрэнсіса, Агату Крысці.

## Мастак і кніга

# Дыялог тэксту і ілюстрацыі

**Досыць рэдка можна сустрэць у адной асобе спалучэнне выдатнага таленту пісьменніка і мастака. Амерыканскі аўтар і ілюстратар кніг для дзяцей Джон Мут — выключэнне з гэтага правіла. Ён уладальнік прэміі Айзнера — самай ганаровай узнагароды ў галіне коміксаў і графічных раманаў за ілюстраванне комікса “The Mystery Play”, аўтар малюнкаў да зборніка паэзіі для дзяцей Кэрэлайн Кенэдзі (дачкі Джона Кенэдзі), з-пад яго пяра і пэндзля выйшла серыя сапраўдных бестселераў — дзіцячых кніг, галоўным героем якіх з’яўляецца вялікі Панда Ціхая Вада. Сёння ў гасцях у “Кніжнага свету” — пісьменнік і мастак Джон Мут.**

Марына ВЕСЯЛУХА

**— Містар Мут, Панда Ціхая Вада — загадкавы, надзвычай мудры герой цыкла вашых кніг. Як з’явіўся гэты незвычайны персанаж?**

— Персанаж Панда з’явіўся выпадкова. Аднойчы я проста намаляваў вялікага панду ў вялікіх штоніках. Мяне гэты малюнак вельмі павесяліў, але ў той момант я не ведаў, што з ім рабіць, таму проста захаваў. У хуткім часе я выправіўся ў турнэ са сваёй кнігай “Тры пытанні” (адаптацыя твора Льва Талстога для дзяцей), падчас якога задумаўся, пра што я хачу гаварыць з маленькімі чытачамі ў сваіх кнігах. Было цікава зразумець, як расці ў самым цэнтры Амерыкі і жыць па суседству з чалавекам, якога лічыш духоўным настаўнікам. Калі вярнуўся дадому, дастаў малюнак свайго Панды, паглядзеў на яго і зразумеў: гэта менавіта той персанаж, які мне патрэбны ў якасці духоўнага настаўніка для герояў маіх кніг.

**— Хто становіцца мадэлямі для дзяцей-персанажаў кніг?**

— Я выкарыстоўваю членаў сваёй сям’і ў якасці мадэляў. Персанажы, якія вы бачыце ў маіх кнігах, у тым ліку і кнігах пра Панду Ціхая Вада, — мае дзеці: сын Майкл, дачка Эдзі і пляменнік Карл. Усе дзеці, якія мяне акружаюць, трапляюць у мае кнігі. І калі вы калі-небудзь прыйдзеце ў мой дом на вячэру, верагодна, станеце персанажам адной з наступных кніг.

**— Малюнкі, што змешчаны ў кнігах пра Панду Ціхая Вада, намаляваны акварэллю. Чаму выкарыстоўваеце менавіта акварэль?**

— Гэта вельмі цікавая тэхніка, якая дазваляе малюнку выглядаць крыху смешным, нязграбным, але з іншага боку дае магчымасць быць сур’ёзным тады, калі хочацца дадаць вагі.

**— Вы самі пішаце кнігі і ствараеце да іх ілюстрацыі. Думаеце, што іншы мастак можа сапсаваць кнігу, няправільна інтэрпрэтаваўшы тэкст?**

— Не, гэтага я не баюся, у мяне ёсць кніга, ілюстраваная іншым мастаком. Гэта быў каштоўны для мяне вопыт, і праца мастака сапраўды бездакорная. Лічу, што калі хочаш, каб твае творы былі ілюстраваныя, трэба іх “аддаць”, “адпусціць”, каб мастак сапраўды пачуваў сябе свабодным. Я не хвалююся, што мяне няправільна зразумеюць.

**— Вы часта працуеце з дзецьмі, праводзіце майстар-класы. Яны даюць вам новыя ідэі?**

— Заўсёды. Гэта пастаянная крыніца натхнення.

**— Ці складана спалучаць напісанне кніг і стварэнне ілюстрацый да іх?**



— Я не вельмі хутка пішу і малюю. Гэта можа быць складана, калі час абмежаваны. Пісанне гісторыі і стварэнне ілюстрацый у маім выпадку адбываюцца адначасова. Часам я раблю малюнак, і ён падказвае, што адбудзецца ў апавяданні, я запісваю нешта і ўсведамляю, што хачу ўбачыць на наступнай ілюстрацыі. Да прыкладу, у кнізе “Дзэн у кароткіх штоніках” на першай старонцы ілюстрацыя, на якой Карл выглядвае ў акно. Я спачатку яго намаляваў і не ведаў, што ён убачыў, што будзе адбывацца далей. Толькі потым здагадаўся, што гаворка ідзе пра Панду. Таму тэкст і ілюстрацыя “размаўляюць” адно з адным у працэсе стварэння кнігі.

**— Раней вы працавалі ў жанры комікса. Праца ў стварэнні комікса і ілюстрацый да дзіцячых кніг значна адрозніваецца?**

— Гэта розныя дысцыпліны, у тым сэнсе, што форма выражэння розная. У коміксе кожнае дзеянне павінна суправаджацца малюнкам. Калі гаворка ідзе пра ілюстрацыі да дзіцячых кніг, тут малюнкі звычайна большыя і ў іх можа адбывацца некалькі падзей, працэсаў. Дзякуючы коміксам я навучыўся, як расказваць гісторыю малюнкамі і ў дзіцячай кнізе.

**— Вы калісьці пісалі, што быць мастаком — вельмі эгаістычна. Чаму вы так лічыце?**

— Так, сапраўды, мастакі эгаістычныя, але ў тым сэнсе, што яны засяроджаныя на сабе, на сваім унутраным свеце, на сваіх адчуваннях. Калі ты прачынаешся зранку, свет такі, якім ты яго бачыш. Я адчуў вялікую палёгку, калі ў мяне нарадзіўся сын. Падумаў, што ўсё гэта здарылася не са мной, а з кімсьці іншым. Было нават пачуццё, нібы ўсё, што адбывалася раней, — пра кагосьці іншага. Вялікай палёгкай было пачаць думаць пра кагосьці іншага, а не толькі засяроджвацца на сваім унутраным свеце.

**— Маляванне без карэкцыі, а значыць, без права на памылку, — адзін са спосабаў, якія вы выкарыстоўваеце ў працы…**

— Гэта амаль філасофская пазіцыя. Не абавязкова зрабіць памылку, я малюю шмат, і, напэўна, толькі адна з пяцідзесяці работ не атрымліваецца. Гэта шлях рабіць рэчы хутка, так, як ты іх бачыш цяпер, сапраўднымі, аўтэнтычнымі. “Памылкі” ў такіх выпадках становяцца намерам, на іх ты вучышся, ведаеш, у якім кірунку зробіш наступны крок. Я стараюся зрабіць працу як мага больш сапраўднай, праўдзівай. Маляванне без змен — філасофская пазіцыя, якую я займаю.

**— Якія тэндэнцыі назіраюцца ў ілюстрацыях да сучасных амерыканскіх дзіцячых кніг?**

— Гэта цікавае пытанне, і цяжка сказаць, абагульняючы ўвесь той шырокі спектр работ, што ствараецца для дзяцей. У ЗША шмат розных аўтараў і мастакоў. Некаторыя з іх работ смешныя, лёгкія, некаторыя вельмі педантычныя, іх аўтары зацікаўленыя тым, каб навучыць дзяцей правільна сябе паводзіць. Але што датычыць ілюстрацый, ёсць тэндэнцыя маляваць так, нібы іх малявалі дзеці. Наіўныя, тыповыя малюнкі. Мне яны не падабаюцца, бо падаюцца несапраўднымі. Але ёсць і іншы тып ілюстрацый — вытанчаныя, амаль абстрактныя, вельмі сімвалічныя, графічныя.

**— У вас ёсць адаптацыя апавядання Льва Талстога “Тры пытанні”. Якіх яшчэ аўтараў можаце назваць сярод любімых?**

— Іх шмат. Леў Талстой для мяне сапраўды важны. Я вельмі люблю вершы японскіх аўтараў, чытаю шмат біяграфій, паэзіі. Люблю творы Томаса Мана, Джона Фаўлза, Рэя Брэдберы, братоў Стругацкіх, Станіслава Лема.

**— У Злучаных Штатах для рэкламы кніг часам выкарыстоўваюцца трэйлеры, кароткія стужкі рэкламнага характару. Вы таксама маеце трэйлер да адной з кніг. Ці садзейнічае такі шлях папулярызацыі выданняў і чытання ў цэлым?**

— Гэта новы спосаб рэкламы кніг, трэйлеры выкарыстоўваюцца толькі гады два. Яны “паказваюць” людзям кнігі: інфармуюць, расказваюць, пра што яны. З пункта гледжання продажу тавару рэклама, у якой штосьці рухаецца, — найбольш паспяховая. Думаю, што яна сапраўды магла б працаваць.



***На здымках:** ілюстрацыі да кніг Джона Мута “Дзэн у кароткіх штоніках”.*

## Пад вокладкай

Марына ВЕСЯЛУХА



**Дзікі голуб: зборнік сучаснай беларускай прозы і крытыкі / уклад. Мікола Мінзер. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 232 с.**

Пад адной вокладкай сабраны хрэстаматыйныя творы, рэкамендаваныя для пазакласнага чытання ў восьмым класе сярэдняй агульнаадукацыйнай школы. Гэта апавяданні Вячаслава Адамчыка, Віктара Карамазава, аповесці Алеся Бадака “Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца” і Пятра Васючэнкі “Жылі-былі паны Кубліцкі ды Заблоцкі”. Да твораў падаюцца літаратурна-крытычныя артыкулы Яўгена Лецкі, Алеся Бельскага, Ірыны Шаўляковай і Маргарыты Аляшкевіч, якія дапамогуць вучням лепш зразумець тэкст, а настаўнікам — арганізаваць працу па аналізе прозы на ўроку.



**Зборнік гістарычнай беларускай прозы / склад. З. І. Падліпская. — Мінск: Беларусь, 2010. — 343 с.**

У чарговую кнігу серыі “Школьная бібліятэка” ўвайшлі гістарычныя творы, уключаныя ў праграму па беларускай літаратуры для агульнаадукацыйных устаноў. Гэта навела Уладзіміра Караткевіча “Ладдзя Роспачы”, у якой аўтар распавядае гісторыю падарожжа Гервасія Выліваха на той свет, і раман Леаніда Дайнекі “Жалезныя жалуды”, дзе вядзецца гаворка пра Вялікае Княства Літоўскае, а менавіта той час, калі яго князем быў Міндоўг, а сталіцай — Навагрудак.



**Янсан, Тувэ. Камета над даліной мумітроляў / Тувэ Янсан; пер. з шведскай Насты Лабады і Алесі Башарымавай; ілюстрацыі Тувэ Янсан. — Мінск: Зміцер Колас, 2011. — 154 с.**

Неверагодныя прыгоды маленькага Мумітроля працягваюцца. На гэты раз ён са сваім сябрам Сніфам вандруе да мора, збірае перліны з ракавін. Сябры знаходзяць сапраўдную пячору з каменнымі сценамі і пясчаным дном, спрабуюць пасябраваць з дзікаватым кацянём і знаёміцца з Андатрам-філосафам. У жыцці Мумітроля, яго бацькоў і сяброў адбываецца яшчэ шмат цікавых падзей. Гэта другая кніга з серыі аповесцей, напісаных і праілюстраваных выдатнай фінскай пісьменніцай і мастачкай.



**Файн, Энн. Дневник кота-убийцы; Возвращение кота-убийцы / Энн Файн; пер. с английского Дины Крупской; ил. Е. Андреевой. — Москва: Самокат, 2011. — 64 с.**

“Ой, да ладно, я вас умоляю. Да, я убил птицу. Ну так повесьте меня! В конце концов, я же кот”. Так пачынае расповед пра сябе галоўны герой кнігі — абаяльны кот Тафі. Што рабіць, калі маленькі гадаванец забівае і прыносіць дадому птушку, потым мыш, а потым… труса? З кім пакінуць Тафі, калі ўся сям’я едзе ў іншы горад? Пра гэтыя і многія іншыя падзеі з сям’і ката Тафі вы даведаецеся са смешнай і добрай кнігі англійскай пісьменніцы Энн Файн, шматразовага лаўрэата звання “Лепшы дзіцячы пісьменнік года” ў Брытаніі.

***Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by***

**Кнігі для агляду прадастаўлены магазінам “Кніжны салон”. Тэл. 385-60-89.**

# Вясна красна



Рыгор Ігнаценка

## Праталінка

Яна зусім маленькая: метры на два ў шырыню і трохі больш у даўжыню. Нічога, здавалася б, і прывабнага няма. Рэдкія чубкі мінулагодняга быльнiку тырчаць, добра абцярэбленыя ўзімку птушкамі, там-сям выцвілая сухая траўка тапырыцца ды вільготная зямелька чарнее, якая нават і паху пакуль што яшчэ ніякага не мае.

І ўсё ж, нягледзячы на гэта, як уначы на маяк арыентуюцца ўсе вялікія і малыя караблі, так і да расталай веснавой зямелькі сярод белага бязмежжа снягоў пацягнулася ўсе жывое наўкол.

Першым яе адкрыў заяц. Гойсаў, даўгавухі, уначы па полі, жыраваў паблізу. І як жа яму, шэраму, было не ўзрадавацца гэтаму голаму лапічку? Яшчэ якая радасць! Даўгавухі задаволена патаптаўся па праталінцы туды-сюды, мінулагодняй траўкі паскуб, пагроб лапамі сырую зямлю. Навошта, спытаеце? А каму ж гэта вядома. Магчыма, правяраў, ці глыбока яна адтала. А можа, нават і паспытаў яе смак, па якім звярок так засумаваў за доўгую зіму?

Ранкам белабокія сарокі тут паскакалі. Птушкі ўзбуджана трэслі доўгімі хвастамі, стракаталі, у траве штосьці заклапочана поркаліся, пераварочвалі дробныя глызкі. Відаць, спадзяваліся на праталінцы якімі лічынкамі паласавацца альбо малады парастак дзе які здзяўбнуць, патрэбны каменьчык падняць, неабходны для перацірання корму.

Калі ж у небе яркае веснавое сонца лагодна ўсміхнулася, нечакана на гэты лапічак чорнай зямлі стомлена ўпала маленькая шэрая птушачка. Апусцілася на яго і стаілася. Нейкі час яна сядзела нерухома на адталай зямельцы, адпачывала. І хто ведае, магчыма, яна не ўпершыню першай стомлена падае на жаданую зямлю і ўсім целам прыцiскаецца да яе, як любае дзіця да роднай матулі. Праталінка не раз ёй і ўспаміналася на той далёкай чужыне.

Спачыўшы, птушачка папраўліла шэрыя пёркі на крылах і хвасце, старанна прыгладзіла грудкі, быццам яна рыхтавалася да чагосьці вельмі важнага і адказнага. Потым здзяўбнула з былінкі зярнятка-другое, праглынула і раптам — успырхнула ў паветра. Узнялася ўгору, і вось, як нейкі цуд, як гаваркі веснавы раўчук, палілася, загучала над гэтай чорнай праталінкай срэбная песня палявога жаваранка. Звонкая такая, празрыстая!

І гэта так было хораша і прывабна, што старэнькі дзядок, які нетаропка тупаў па дарозе з кіем у руцэ ў суседнюю вёску, пачуўшы гэту першую веснавую песню шэранькага жаваранка ў небе, раптам спыніўся.

Агледзеўся навокал, потым збочыў з дарогі і ціха прысеў на камень побач. Стары ўсхвалявана сцягнуў з галавы аблавушку, падставіўшы цёпламу сонцу сівую галаву...

А маленькі спявак, ні на хвіліну не змаўкаючы, усё звінеў у блакіце высокага веснавога неба, радуючыся гэтай першай чорнай праталінцы на полі, і звінеў, звінеў…

## Калі растане снег

Снег сышоў, але на двары ўсё яшчэ халадна і няўтульна. Птушкі, якія вярнуліся з далёкай чужыны, не падавалі галасоў. Маўклівымі былі лясы, сады, палі.

Нарэшце дыхнула цеплынёю. І вось, зусім нечакана, апоўдні, пайшоў дождж — ціхі, цёплы, спорны.

Калі ж ён скончыўся, то раптоўна пацяплелае паветра дружна страсянулі палявыя жаваранкі. Іх дзясяткі, сотні разам заспявалі ў веснавым небе.

Жаваранкаў падтрымалі кнігаўкі. Чубатыя птушкі з радасным кігіканнем усчалі вэрхал над чорным полем, пачалі ганяцца адна за адной, куляцца ў паветры.

Над падтопленым расталай вадой кустоем у нізінцы баранчыкамі бляялі даўганосыя бакасы, чулася на разліве шумнае ляпанне крыламі і ўзбуджанае кракание качак, тонкае пасвістванне куліткоў. Скрозь у драбналессі спявалі дразды, берасцянкі, зелянушкі, аўсянкі.

Ажыў і лес. Са стромкіх елак час ад часу ў паветра ўсхопліваліся шызыя галубы. Яны моцна ўдаралі тугімі крыламі адзін аб аднаго, рабілі над лесам невялікія кругі і зараз жа сядалі на дрэвы, каб праз хвіліну-другую зноў паўтарыць свой нястрымны віраж. Спявалі і сініцы, што вярнуліся ад чалавечага жытла ў лес на свае гнездавыя ўчасткі. Сярэбранымі трэлькамі сыпалі ў хвойніках маленькія каралькі, тонкімі галаскамі перасвістваліся ў падлеску асцярожныя рабчыкі.

На сухіх вершалінах старых хвой заўзята барабанілі дзятлы: “Тр-р-р-р, тр-р-р-р” — каціўся з розных бакоў лесу іх веснавы пошчак. З бліжняга балота даносілася гучнае гагаканне чаплі. Як гэты зычны веснавы крык далёка разносіўся па наваколлі, заглушаючы сабою галасы дробных птушак. Дзесьці высока ў небе чулася радаснае курлыканне шэрых жураваў, што вярталіся з выраю на родныя балоты.

Усё жывое, як магло, выказвала сваю радасць гэтаму раптоўнаму пацяпленню — песнямі, скокамі, узбуджанымі рухамі.

Нават лясная малеча, мыш і тая не змагла моўчкі ўседзець у такі час у сырой норцы. Яна борздзенька ўзбралася на сухі пянёк у рыжай леташняй папараці, села слупком, узняла ўгору вусатую пыску і, наколькі ў яе хапіла голасу, тоненька запішчэла, стараючыся не адстаць ад іншых.

## Першая песня

Мала каму вядома, як зязюлі ў вырай адлятаюць: паасобку, невялічкімі чародкамі ці чародамі. Дзе зімуюць. Калі вяртаюцца на радзіму. І толькі пачуўшы адным задуменным ранкам у лясной цішыні першае гучнае “ку-ку”, з радасным хваляваннем адзначыш сабе: ну вось нарэшце і шэрая зязюля з выраю вярнулася, прынесла з сабою сапраўдную вясну і цяпло.

Праз колькі дзён песні зязюлі можна будзе пачуць дзе заўгодна, апроч пустак і вялікіх палёў, дзе няма дрэў.

Калі для рамантычна настроенага ў гэты час чалавека песня зязюлі з’яўляецца радасцю, то для дробных птушак — сігналам трывогі. Пачуўшы голас рабенькай, многія з іх затойваюцца, каб сваёй прысутнасцю не падказаць, дзе знаходзяцца ці яшчэ ўюцца іх гнёзды.

Лётаючы па лесе, зязюля ўсё ж адшуквае патрэбнае гняздо. Падпільноўвае, калі гаспадары куды адлучацца, хуценька падкідвае ў яго сваё яйка, па колеры дакладна такое ж, як яйкі ў гняздзе, толькі крышачку большае, і хуценька знікае. Да таго ж, знікае назаўсёды, каб ніколі сюды больш не вярнуцца і не пацікавіцца лёсам падкінутага ёю яйка.

Калі птушаняты выведуцца, больш дужае зязюляня павыкідвае слабейшых з гнязда і застанецца ў ім адно. Прыёмныя бацькі, нічога не заўважаючы, як свайго, старанна выкормліваюць чужака, ставяць на крыло. І нават калі зязюляня добра навучыцца лётаць і яго можна адрозніць ад дарослай птушкі, прыёмныя бацькі ўсё яшчэ нейкі час клапатліва падкормліваюць падкідыша. Восенню дарослая зязюля разам з іншымі птушкамі адлятае ў вырай.

А наступнай вясной у тым самым лесе, дзе зязюля ўбачыла свет і вырасла, адным задуменным ранкам у лясной цішыні пачуецца яе ўзнёслая песня: “Ку-ку!”

## Лотаць

Яшчэ ўчора ўсё было шэрым і аднастайным: голыя кусты вярбоўніку, чорны альшанік з гразкай пасля паводкі зямлёю пад ім, нізкае неба. Паўнаводны ручай мітусліва каціў мутнаватую ваду і таропка знікаў пад драўляным масточкам побач.

А ранкам зірнуў я і падзівіўся, якія змены адбыліся за веснавую ноч. За адну толькі ноч! Ля самай вады і скрозь па альшаніку жарам гарэлі, бліскучыя буйныя жоўтыя кветкі лотаці. Здавалася, хтосьці ўначы рассыпаў залатыя манеты. Учарашні ручай на ранішнім сонцы ўвесь лагодна свяціўся, пераліваўся. Нават, здавалася, павольней нёс сваю пасвятлелую ваду ўдалячынь.

Кароткі гэта час. Неўзабаве на галінках дрэўцаў і кустоў лопнуць тугія пупышкі і выкінуць кволыя зялёныя лісточкі. А ў альшаніку дружна ўсхопіцца, забуе высокая сакавітая трава. Зазелянее і раўніва схавае пад сабою ад чалавечага вока гэту прыгажосць аж да наступнай вясны.

# Свята дажджу



Алесь Жук

Хто яго не любіць, свята зялёнага вясновага дажджу? Ён ідзе на маладое лісце, якое яшчэ не ўмее шапацець і скардзіцца ветру. Тады далечыня зацягваецца лёгкаю смугою і пануе цішыня, каб усім быў чуваць гэты вясновы шэпт. З-за пакорліва паніклых пад дажджом бярозавых галін на ўзлеску выглядваюць бухматыя, чорныя вершаліны галін хвоек, і на першы позірк здаецца, што гэта цецерукі абселі бярэзіну і чамусьці мокнуць пад дажджом.

...У сонечнай далечыні, на шырокіх і роўных, як стол, палетках палавела жыта. Ад спякоты пабялелі, выліналі пяшчотныя і халаднавата-мяккія пялёсткі валошак на ўзмежках і пры дарогах. Мроілася разагрэтае сонцам паветра і быццам цякло да жытнёвага небакраю, адкуль на гэту сонечную ўрачыстасць уставала чорным крылом навальніца. І перад ёй усё пачынала заціхаць, неяк паспешна, быццам захопленае знянацку. Пачыналі аціхаць хвалі на шчыльным абшары калосся. І па ўсёй вёсцы чамусьці не было відаць ні душы. Былі толькі гэты яшчэ светлы палетак пад пацямнелай далечынёй і трывожна заціхлая вёска. А потым у цішыні было чуваць, як мякка і глуха, быццам па жывым целе, ударылі па глыбокім дарожным пыле першыя кроплі. Раптоўна моцна рвануў вецер — і потым абрынулася ўсё разам: і цемень, і суцэльная сцяна дажджу, сінявата-лютае святло маланак, і ўдары грому, ад якіх хацелася сцяцца ў маленькі-маленькі камячок. Здавалася, што прапаў ты і твая прыцемная хата ў бясконцай лютасці і нястомнасці стыхіі, — і разам з тым была незразумелая асалода, шчымлівая трывожная радасць гэтай лютай праяве, быццам і сам ты часцінка гэтай няскорнай і непадуладнай нікому сілы.

Потым паціху шарэла, рабілася святлей, паволі адыходзіў цень навальнічнага прыцемку, пакінуўшы маладое свежае паветра і шырокі ручай пасярод вуліцы, які намываў тугі вільготны пясок.

А здалёку ішло чыстае святло, уладарна наплываў водар жыта, вечны ў гэтых палях, аздоблены пахам мокрае памаладзелае лістоты ў садах, астуджанай і напоенай вільгаццю зямлі.

І сведкам гэтаму быў і ты, і было гэта з табою ўжо ў богведама якім далёкім часе, там, сярод слуцкага поля, у той выцягнутай у адну вуліцу на паўтара кіламетра вёсцы, дзе цяпер такой вузкай здаецца вуліца і быццам паменшалі, прыселі да зямлі некалі вялікія хаты, можа таму, што сам ты даўно дарослы, і дабудавалі яшчэ сучасных, сапраўды прасторных хат. І калі доўга не бываеш там, пачынаеш верыць, што і было гэта ўсё з табою ў іншым жыцці. Ужо раз пражытым, першым, самым лепшым і светлым.

Пасля тае навальніцы не стала ў канцы вуліцы бярэзіны, на якой спрадвеку жылі буслы. Па мокрай зямлі рассыпалася сухое ламачча ад былога, многа год ладжанага жытла і пух з вераб’іных гнёздаў, якія заўсёды падсуседжваюцца да буслоў. Буслы таго года ўжо не жылі на бярозе, бо мужчыны, ведаючы, што яна можа ўпасці, загадзя вясною ўсцягнулі барану на суседнюю, маладую яшчэ ліпу.

Насупраць таго месца, дзе была бярэзіна, цераз вуліцу і цяпер стаіць тая хата з нятоўстага бярвення, на чатыры невялікія акны, два якіх — ад вуліцы — засцяць шырокім лісцем дзве яблыні-“цыганкі”. На ёй цяперашнімі гаспадарамі пакладзены новы шыферны дах.

Тады хату толькі будавалі, і навальніца не дала цеслярам пакласці апошні вянок. Бервяно сарвалася з аслізлых лагаў, канцом, свежа і роўна адпілаваным, быццам ледзь стукнула па галаве падлетка, удовінага сына, які за гаспадара быў пры цеслярах.

Калі збегліся людзі, ён ляжаў нязвыкла белы, худзенькі, з русымі, астрыжанымі “пад польку” валасамі, на дробных трэсачках, не па-дзіцячы стомлена выпрастаўшыся.

Мужчыны асцярожна забралі яго і занеслі ў суседнюю хату, туды павялі, прытрымліваючы пад рукі, маці. І маленькі хлопчык, яго брацік, з вялікім круглым тварам і лупаценькімі вочкамі, спалохана глядзеў на людзей і не плакаў, трымаўся за мацерыну сукенку.

А пры суседскім плоце, седзячы на камені, плакала згорбленая векам і жыццём бабулька, і плакала ад несправядлівасці таго, што Бог забірае жыццё ў таго, каму трэба жыць і радавацца, а пакідае таму, каму стала ўжо цяжка жыць.

Да бабулькі з двара выйшла таўстаногая жанчына, смыкнула старую за рукаў, што няма чаго каназіцца на людзях, і павяла за руку на двор. А бабулька ўсё спрабавала азірнуцца на людзей, на вуліцу.

Тыя цесляры-адыходнікі ноччу пры месяцы паклалі апошні вянок, зрабілі труну і, не чакаючы платы, пайшлі з вёскі.

Жанчына перажыла тую смерць, можа, таму, што людзі не паміраюць ад гора па блізкіх, нават родных. А можа, таму, што трэба было гадаваць таго лупатага хлопчыка. Цяпер у яго свая сям’я, свая хата, і маці жыве пры ім. А старую хату прадалі.

Цяпер цьмяна помніцца і тая жанчына, і хлопчык, але перад вачыма як цяпер той на мокрай і цёплай зямлі са светлым, незямным ужо тварам. І колькі гадоў у памяці ўсё азіраецца назад і плача тая бабулька.

З гадамі ў чалавеку ўсё больш збіраецца смутку. І таму многае робіш не так, як жадалася ў маладосці. І нават у светлыя часіны раптам успамінаецца цяжкае і балючае, што, здаецца, павінна было ўжо забыцца. І прыйшло разуменне, што ў чалавечай душы заўсёды жыве надзея на лепшае і пакідае чалавека толькі тады, калі прыходзіць яго часіна пакінуць гэты свет.

Але над усім, былым і будучым, ішлі і будуць ісці вясновыя дажджы, будзе іх свята. І таму ты, не вечны, не вечным пяром у светлы дзень, пры ласкавым зялёным дажджы, пры душэўным спакоі пішаш гэтыя радкі пра вечнае, а ў суседнім пакойчыку даверліва спіць унучка, сніць свае лёгкія дзіцячыя сны, і ты шчыра верыш, што ў яе жыцці будзе толькі добрае і ласкавае, і многа-многа гэтых зялёных святочных дажджоў.

І цяпер у гэтым усё тваё шчасце.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

# Спяшайцеся ўбачыць «Сільву»!

*Напярэдадні Міжнароднага дня тэатра, які штогод адзначаецца 27 сакавіка, "ЛіМ" аддае асаблівую ўвагу традыцыйным відам сцэнічнага мастацтва. Адпаведныя публікацыі змяшчаюцца сёння пад рубрыкамі "Сядзіба муз" і "Тэатральная пятніца". З часам на нашых старонках з'явяцца матэрыялы, прысвечаныя чарговому Міжнароднаму тэатральнаму форуму "M.art. кантакт", які праходзіць у Магілёве з 21 па 27 сакавіка, юбілею Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача, да якога рыхтуецца калектыў. І, вядома ж, — водгукі на новыя прэм'еры. Адна з іх адбудзецца ўжо заўтра ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры. Гэта — новая версія класічнай аперэты Імрэ Кальмана "Сільва". Пра адметнасць яе сённяшняга ўвасаблення вялася гаворка на прэс-канферэнцыі, якую днямі правёў тэатр. Рэжысёр-пастаноўшчык Сусана Цырук, дырыжор-пастаноўшчык Алег Лясун, яго калега Юрый Галяс, выканаўца ролі Аляксандры (а ў свой час бліскучая Сільва), народная артыстка Беларусі Наталля Гайда, хормайстар Святлана Пятрова, балетмайстар-пастаноўшчык Алена Дзмітрыева-Лаўрыновіч і мастацкі кіраўнік тэатра Адам Мурзіч распавялі пра асаблівасці актуальнага падыходу да класічных партытур, пра неабходнасць, не парушаючы сюжэтную канву, ачышчаць старыя лібрэта ад налёту саладжавасці, а манеру ігры — ад найгранага фальшывага пафасу, ствараць стыльныя, дынамічныя і сучасныя музычна-сцэнічныя гісторыі пра жывых людзей ды іх сапраўдныя пачуцці. Пэўна, гэтым і адметная абноўленая "Сільва", у якой, да таго ж, — сапраўднае сузор'е майстроў і артыстаў-дэбютантаў.*

# Закон Берандзеева царства

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Аляксандра Дзмітрыева

**Опера "Снягурачка" створаная ў 1881 годзе рускім кампазітарам Мікалаем Рымскім-Корсакавым на ўласнае лібрэта паводле аднайменнай п'есы Аляксандра Астроўскага. У Мінску яна была паказана ў 1912-м трупай Казанска-Саратаўскага опернага таварыства — прынамсі, так сцвярджаюць гісторыкі. А ўжо нам самім давялося быць відавочцамі яе першай пастаноўкі на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі, якая адбылася ў 1981 годзе (дырыжор-пастаноўшчык У. Машэнскі, рэжысёр С. Сільніцкі, мастак І. Сумбаташвілі, хормайстар А. Кагадзееў, балетмайстар В. Бутрымовіч). Цяпер у нашым Вялікім тэатры — прэм'ера новай пастаноўкі "Снягурачкі". Сваё прачытанне класічнай оперы прапануюць дырыжор-пастаноўшчык Віктар Пласкіна, рэжысёр Сусана Цырук, сцэнограф Кірыла Піскуноў (Расія), хормайстар Ніна Ламановіч, балетмайстар Аляксандра Ціхамірава (Расія), балетмайстар-пастаноўшчык Дзіцячага музычнага тэатра-студыі пры НАВТ Алена Дзмітрыева-Лаўрыновіч і расійскія майстры Таццяна Каралёва — мастак па касцюмах — ды Ірына Уторнікава — мастак па святле. А разам з імі — салісты оперы, артысты балета тэатра і Дзіцячага музычнага тэатра-студыі.**

Дык вось ты якое, царства Берандзеева! Жыццё люду твайго, народжанага з адвечнага сусветнага хаоса, парадкуецца суладдзем законаў Неба і Зямлі. Прыгожы ў сваёй прыроднай рытмічнасці ды ўстойлівасці побыт берандзееў рухаецца па крузе, нібы нейкая няўгледная рука нястомна круціць кола дзён, у чарадзе якіх веснавое цяпло праганяе зіму, вясна змяняецца летам, лета адступае перад восенню, а потым зноў уладарыць зіма, і людзі з надзеяй чакаюць вяртання сонечнай літасці ўсемагутнага бога Ярылы.

На тэатральнай сцэне дзівоснае, фантасмагарычнае спалучэнне: люструнак зусім пэўнага часавага фрагмента з казачнай рэальнасці жыцця берандзееў — і абагульненне існасці жыцця ў Берандзеевым царстве. Прытым стваральнікі спектакля не паддаліся на спакусы найноўшага тэхнічнага абсталявання, не злоўжываюць яго багатымі магчымасцямі: скарыстаныя выяўленчыя эфекты сведчаць пра высокі прафесіяналізм, густ і музыкальнасць пастановачнай каманды. Відовішчнасць не назаляе, бо разгортваецца ў адпаведнасці з драматургіяй опернай партытуры. Вядома, музычны шэдэўр М. Рымскага-Корсакава можна ўспрымаць як самадастатковы твор (асабліва калі ведаеш яго літаральна па нотах) і, не зважаючы нават на якасць выканання, атрымліваць асалоду ўласна ад жывога гучання. Але як цудоўна, што гэты самадастатковы музычны твор можа наноў раскрыцца для нас праз жывы, сучасны спектакль!

Кампазітар М. Рымскі-Корсакаў, захоплены архаічным хараством дахрысціянскага песеннага фальклору, рабіў аўтарскую "агранку" самабытных славянскіх мелодый, спалучаючы іх са сваімі непаўторнымі знаходкамі ў напрамку той арыгінальнай, "арыентальнай" музыкі, што ў яго опернай творчасці характарызуе свет прывідны і крохкі, нерэальны: ці то ідэальны, ці то інфернальны (вобраз той жа Снягуркі; "праявы" незямных стыхій; "музыка нябесных сфер"). Рэжысурай, мастацкім афармленнем, харэаграфіяй спектакля створаная, скажам так, візуальна-пластычная музыка — пераканаўчы адпаведнік партытуры, які, што таксама важна, арганічна ўпісваецца ў сістэму сучасных эстэтычных ідэй і каштоўнасцей і арыентуе гледача на вартасці самой оперы.

Аблічча спектакля прыцягвае ўвагу сваёй лаканічнай, ды шматзначнай сімволікай. Невялікае ўзвышша ў цэнтры сцэны, дзякуючы не так тэхнічнымператварэнням, як дынамічнай і тонка распрацаванай светлавай партытуры (плюс эфекты "дымоў ды туманоў"), робіцца ўніверсальнай функцыянальнай дэкарацыяй. Нагадвае то крыгу — "сколак" нейкага нябеснага цела ў прасторы вечнага касмічнага холаду; то беспрытульную і безабаронную перад разамкнёнымі "абдымкамі стыхій" ды сусветнымі бурамі планету берандзееў; то заледзянелы пагорак, яшчэ не пакрыты травой, не адагрэты запозненай вясною; то расквітнелую палянку; то паганскае капішча; незаўважна трансфармуецца гэтая канструкцыя і ў зачараваную пушчу, дзе ўсю ноч дражніць закаханага Мізгіра няўлоўны прывід Снягурачкі, і ва ўладанні цара Берандзея, і ў Ярыліну даліну. Тут, без дапамогі "цяжкай машынерыі", здзяйсняюць сваю няспешную хаду па крузе зіхоткія знакі дванаццаці задыякальных сузор'яў. Тут, быццам гуліверы на катурнах, "прарастаюць" з ніадкуль гіганцкія постаці Вясны і Мароза — бацькоў мініяцюрнай Снягурачкі. Тут шчыруе безаблічная лясная істота, старанна коціць вялікі шар — нібы скручвае ў клубок ніціну людскога жыцця... Цыклічнасць быцця берандзейцаў, гадавое кола дзён акрэсліваюць і шматлікія паганскія рытуальныя танцы, якія суправаджаюць старажытныя славянскія абрады... Густанаселенасць свету слабодкі Берандзееўкі падкрэслена індывідуалізацыяй нават персанажаў масоўкі. Выдатная, дарэчы, і музычная, і сцэнічная работа артыстаў хору, выразна акрэслены жанравы вобраз танцавальных эпізодаў (згадайма светлы хор птушак у Пралогу; па-народнаму тэатралізаваныя праводзіны "честной Масленицы"; каласальную, на мяжы здаровай сялянскай зацятасці, энергетычнасць абрадавага нумара "А мы просо сеяли"; магутны сакральны ансамбль "Свет и сила бог Ярило"). Арганічная ў спектаклі пластыка і рух юных выканаўцаў (камусьці з іх пашчасціла сігануць паўз авансцэну на каньках-роліках, камусьці пераўвасобіцца ў матылькоў са світы Леля, некаторым — пасябраваць з прыгажуняй Снягурачкай).



Сярод выканаўцаў галоўных партый, якіх давялося ўбачыць і пачуць, вылучу Наталлю Акініну ў ролі Вясны: атрымаўся цёплы, спагадны і велічны вобраз маці для ўсяго жывога — птушак, кветак, пасялян-берандзейцаў; маці, якая дзеля імгнення шчасця дачушкі пагаджаецца падараваць ёй смяротную для Снягурачкі цеплыню сэрца. Пераканаўчым, жывым падаўся вобраз Купавы, створаны сапраўднымі майстрам Настассяй Масквіной ды маладой абаяльнай салісткай Марынай Ліхашэрст. Запомніліся характарныя эпізоды з удзелам Аляксандра Жукава (Лясун, бабыль-Бакула). Лель у выкананні Аксаны Якушэвіч выглядае міфалагічным абранніка муз і... зямным кумірам дзяўчат. Галоўныя мужчынскія персанажы, падалося, яшчэ не набылі адэкватнага ўвасаблення — дзе ў вакальным, дзе ў акцёрскім выкананні. А вось галоўная гераіня ў спектаклі, безумоўна, ёсць, і не адна. Таццяна Гаўрылава ўжо з Пралога надзяляе сваю Снягурачку не проста сумам адзіноты і прагай апынуцца сярод берандзейцаў, каб слухаць такія прынадныя для яе "людские песни", а і глыбінным, прыхаваным драматызмам тых інтанацый, з якіх потым прарастуць і крыўда, і туга, і роспач, і гаркавая слодыч неспатоленай жарсці, і прадчуванне трагічнага сконy. Ала Губа-Пласкіна таксама не трактуе сваю гераіню як ледзяную крышталёвую ляльку, якую паглынае згубнае полымя кахання. Яе Снягурачка выглядае сур'ёзным дзіцём, чыя цікаўнасць да зямнога свету поўніцца той настойлівасцю, у якой хаваюцца ноткі неабуджанай цеплыні, здатнай "з лёгкай рукі" Вясны распаліцца ў пажар самаахвярнага кахання...

"Люблю и таю..." — дзівосна прыгожы, апошні спеў Снягурачкі, як рэквіем па няспраўджаным зямным шчасці, па недасяжнай гармоніі, па марным намаганні да суладдзя брутальнага навакольнага свету і чыстай, дасканалай прыгажосці. Чарадзейная руская казка з журботным андэрсенаўскім фіналам? Каб жа так! Яркі апафеоз "Свет и сила бог Ярило" нясе ў сабе катарсічную радасць, якую ўзмацняе выслоўе мудрага цара Берандзея: "Снегурочки печальная кончина и страшная погибель Мизгиря тревожить нас не могут". Але працяты пантэізмам, прыгожы казачны сюжэт тэатр прачытвае, як сучасны псіхолаг. За фантазіяй відовішча прыхавана алегорыя гісторыі жывых, рэальных людзей. Дык вось, аказваецца, ты які — паганскі закон Берандзеева царства! У сваёй спрадвечнай абмежаванасці страхам перад невытлумачальнай для людзей вышэйшай касмічнай сілай, у сляпой пакоры ўсталяванаму парадку, ты не дапускаеш існавання гэтага вышэйшага і невытлумачальнага ў звычайным зямным жыцці. Тое, што не ўпісваецца ў тваё кола, успрымаеш як насланнё. Вось і Снягурка,"не такая, як усе", сваім цудоўным з'яўленнем на свет белы парушыла звыклы парадак рэчаў. І таму пазбаўлене ад яе, як ад наслання, — праз ахвяраванне гняўліваму боству, — берандзееў можа толькі радаваць... Зрэшты, намёка на такую філасофію ўспрымання дзівоснай вясновай казкі ў творчай праграме кампазітара няма. "Зусім невядома, калі нарадзілася і ці доўга будуць жыць спрадвек стары цар і вечна юны пастух-спявак. Дый ці мела свой пачатак і само царства берандзееў, і ці будзе яму калі-небудзь канец?.. Над усім гэтым пануе найвышэйшае боства Ярыла-сонца — творчы пачатак, які выклікае жыццё ў прыродзе і людзях. Пры канцы п'есы боства гэтае на колькі імгненняў робіцца бачным для дзейных асоб", — так пісаў М. Рымскі-Корсакаў, захоплены спасціжэннем законаў космасу праз прыгажосць міфалогіі сялянскага календара...

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА

Імпрэза, прысвечаная Міжнароднаму дню тэатра, адбылася ўчора ў Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі. Як вядома нашаму чытачу, з 2000 года напярэдадні гэтай падзеі пры падтрымцы музея ладзіцца конкурс тэатральных мастакоў на атрыманне прэміі імя заслужанага дзеяча мастацтваў БССР, вядомага сцэнографа Івана Ушакова. Вынікі ўрачыста абвяшчаюцца падчас традыцыйнай музейнай імпрэзы. Сёлета пераможцай конкурсу імя І. Ушакова стала мастак Алена Ігруша — за афармленне спектакля "Офіс" у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы. Ганаровай граматай Беларускага фонду культуры адзначаны Уладзімір Пазняк за сцэнаграфію спектакля "Казкі дзікага лесу" на сцэне Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра. Некалькі гадоў запар на гэтай урачыстасці ганаруюць дыпломамі ЮНЕСКА найбольш актыўных прапагандыстаў беларускага тэатральнага мастацтва ў СМІ. Такі пачэсны дыплом сёлета атрымала журналіст Беларускага радыё Наталля Баўкалава.

Папулярны праект "Музычныя вечары ў Вялікім" выклікаў цікавасць не толькі ў заўсёднікаў НАВТ оперы і балета, у аматараў акадэмічнага вакалу ці прыхільнікаў камернай інструментальнай музыкі. Праведзены ў межах гэтага праекта (і ў межах XX фестывалю "Адраджэнне беларускай капэлы") канцэрт "Званы старое казкі" прыцягнуў увагу не толькі заўзятых меламанаў, але і прадстаўнікоў самых розных колаў беларускай інтэлігенцыі, неабыякавых да працэсаў нацыянальна-культурнага адраджэння ў нашым грамадстве. У чым унікальнасць гэтага канцэрта? Як патлумачыў нам мастацкі кіраўнік творчага аб'яднання "Беларуская Капэла", заслужаны артыст БССР, лаўрэат Дзяржаўных прэмій, прафесар Віктар Скорабагатаў, упершыню ў гісторыі музычнага жыцця нашай краіны "залацінкі" сусветнай камернай класікі — фрагменты вакальных цыклаў Ф. Шуберта, Р.Шумана, Я. Брамса, Р. Вагнера, Г. Малера — прагучалі па-беларуску. Праграма гэтага музычнага вечара, што адбыўся ў Камернай зале імя Л. Александроўскай, стала прэзентацыяй вялікай творчай працы паэта і перакладчыка, чалавека сапраўды энцыклапедычных ведаў, Васіля Сёмухі — яго кнігі перакладаў нямецкамоўных вершаваных тэкстаў вакальных цыклаў, створаных згаданымі тут выдатнымі кампазітарамі XVIII — XX стагоддзяў. Канцэрт падрыхтавалі вядучыя айчынныя салісты, вядомыя маладыя спевакі разам з лепшымі канцэртмайстрамі.

Рэжысёр Валерый Маслюк пражыў толькі 48 гадоў. Але ў тэатральным мастацтве Беларусі ён пакінуў незабыўны след, найперш як рэжысёр нацыянальны, глыбока звязаны з духам роднай зямлі. Ураджэнец Полаччыны, ён скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, быў рэжысёрам-пастаноўшчыкам у Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя Якуба Коласа, галоўным рэжысёрам Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра, затым атрымаў запрашэнне ў сталічны калектыў — да горкаўцаў, а праз 10 гадоў вярнуўся ў Віцебск... Вечар памяці лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Валерыя Маслюка, чый зямны шлях абарваўся ў 2001-м, адбудзецца 30 сакавіка ў Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя М. Горкага.

# Ігра на інструменце, які заваражвае

## Уладзімір Тэвасян: «Ці дарос я да Караля Ліра?»

Ігар СІДАРУК

### Каралеўская роля

Звычайна першыя штрыхі творчага партрэта артыста прысвячаюць яго пачатковым крокам у тэатральным мастацтве. Але, прадстаўляючы Уладзіміра Тэвасяна, хачу спыніцца на яго нядаўняй ролі — ролі Караля Ліра з аднайменнага спектакля паводле вядомай трагедыі Шэкспіра. Лір у выкананні Уладзіміра — вобраз магутны, арыгінальны, яркі, шматгранны. Як гаворыць сам артыст, у гэтым жыцці выпадковасцей не бывае. І тое, што болей як 100 тэатраў адмовілі ў пастаноўцы такога спектакля піцерскаму рэжысёру А. Устаўшчыкаву і толькі адзін Брэсцкі тэатр лялек вырашыў рызыкнуць, — таксама не выпадковасць, а дзіўная жыццёвая заканамернаць. Як і тое, што каралеўская роля выпала Уладзіміру.

"Ці дарос я да яго? — задае сам сабе пытанне артыст. — Іншым разам Ліра зразумець складана, але ж неабходна. Гэты вобраз можна трактаваць па-рознаму. Маё асабістае бачанне — гэта кароль, які верхаводзіць, уладарыць светам. Моцная асоба, любячы бацька, чалавек, якому не чужое ўсё чалавечае. У чым трагізм майго Ліра? У тым, што ён вось так жыў, бачыў, уладарыў… — і расчараваўся ва ўсім? Але ўжо ў канцы, прайшоўшы цераз боль і жабрацтва, Лір разумее, што насамрэч, аддана і шчыра, яго любіла менавіта трэцяя дачка. Вось чаму ўрэшце ён ідзе з гэтага свету: за Кардэліяй, за яе любоўю. А ўвогуле, гэта такі глыбокі вобраз, такі шматпластавы матэрыял, што ўдумвацца, асэнсоўваць яго можна зноў і зноў".

Сапраўды, тыя гледачы, якія бачылі на прэм'ерных паказах Уладзіміра Тэвасяна ў ролі Караля Ліра, не маглі не заўважыць, як пранікнёна і поўна пераўвасабляецца ў вобраз акцёр, як трымае ў пастаяннай напрузе глядзельную залу ўсе паўтары гадзіны спектакля. І вось тут пытанне пра няпросты шлях да творчага мастэрства будзе цалкам лагічнае.

### Дарога да тэатра

Для Валодзі знаёмства з тэатрам пачалося літаральна з першых самастойных гадоў. Ён успамінае: "Адразу пасля заканчэння школы мы працавалі летам на раскопках Бярэсця ў Брэсцкай крэпасці. Гэта быў 1977 год. І тады мяне з сябрам запрасіў у дапаможны акцёрскі склад тагачасны адміністратар тэатра лялек Пётр Іосіфавіч Штыроў. Мы пагадзіліся. А неўзабаве ўдзельнічалі ў спектаклях. Я добра памятаю сваю першую "ролю": у спектаклі "Пра чырвоную запалку" трэба было разгортваць палатно, якое нібыта гарыць, — мне гэта ўсё так падабалася! Ужо тады ў маёй душы абуджаўся вялікі артыст! (*Смяецца.* — **І. С.**). А потым… я неяк вельмі арганічна ўліўся ў тэатр. Адразу ўвайшоў у рэпертуар, адчуў ляльку. Памятаю свае першыя і наступныя ролі: Івана з "Івана — сялянскага сына", Ваўка з "Гадзінніка з зязюляй", адразу чатыры персанажы — Чорта, Рыгоркі, Анёла і Бабы — у "Рыгорцы — ясны зорцы". Мне ў тэатры лялек заўсёды ўсё падабалася, усё давалася лёгка. Хоць, шчыра кажучы, ёсць ува мне такая рыса: працуючы над роляй, пачынаю "корпацца ў сабе". Што атрымліваецца? Што не? Чаму так? Як паправіць да лепшага?.."

Дык, можа, таму цэлы шэраг роляў артыста сапраўды ўражвае — іх завершанасцю, прадуманасцю. Напрыклад, Аладзін з "Чароўнай лямпы Аладзіна", хлопчык Нур-Эдзін са "Збанка-гаваруна", герой Ітаі з "Плыта мерцвякоў"… А між тым, служэнне Уладзіміра Тэвасяна Брэсцкаму тэатру лялек сяды-тады рэзка перапынялася. То службай у арміі, то перыядам, калі вучыўся завочна ў Брэсцкім педагагічным, а па вечарах іграў на ўдарных на танцпляцоўцы, то пераездам у Магілёў (дзе таксама працаваў у тэатры лялек). І ўсё-такі — ён вяртаецца ў Брэст і зноў прыходзіць, акунаецца ў тэатральную стыхію.



### Яе Вялікасць Лялька

***— А што ўвогуле для цябе значыць лялька?***

— Калісьці я ўзяў ляльку ў рукі — і яна адразу запрацавала! Лялька для мяне — частка мяне самога. Праз руку перадаю ёй свае эмоцыі, сваё "я". Ты нібы граеш на інструменце, які зачароўвае!.. Я люблю ляльку, мне падабаюцца ўсе лялечныя сістэмы.

***— А як сам адчуваеш: ад ролі да ролі — гэта нейкі рост, развіццё; ці кожная роля — аўтаномная работа, нічым не звязаная з іншымі?***

— Вядома, яны ніяк не могуць быць "аўтаномнымі". З гадамі, з досведам ты, як артыст, назапашваеш пэўны багаж, і гэта цудоўна! Большасць маіх роляў — станоўчыя вобразы. А іх ствараць нашмат цяжэй: станоўчыя героі ў нечым заўсёды падобныя. І тут пачынаеш шукаць сваю манеру, пэўны падыход… Напрыклад, мой Іван з "Івана — сялянскага сына" — гэткі вясковы просты хлопец, а сыграць Прынца — ужо трэба неяк інакш, тут просіцца вобраз прадстаўніка "блакітнай" крыві і г.д. Шмат залежыць і ад пастаноўшчыка, а за свой акцёрскі век мне давялося супрацоўнічаць прыблізна з дзясяткам рэжысёраў. І ўсе яны добрыя, усе розныя. У кожнага ёсць свае плюсы і мінусы. Аднак асабліва ўдала праца ладзілася з Сяргеем Юркевічам, Алегам Жугждам, Зміцерам Нуянзіным і, уключаючы ўвасабленне "Караля Ліра", з Аляксеем Устаўшчыкавым. Увогуле ж люблю наш тэатр, тут ёсць дзівосны, арганічны ансамбль. Гэта файна, калі ад партнёра перадаюцца пачуцці, асаблівая хваля, калі разумееш яго, у кожным спектаклі, у кожнай сцэне. Не буду называць імёны, бо ўсе мае паплечнікі па сцэне — цудоўныя, творчыя, таленавітыя людзі!

### Калі апускаецца заслона

Пасля спектакля Уладзімір Тэвасян, калі няма іншых спраў, спяшаецца дахаты: тут яго чакаюць каханая жонка, дачка і… выдатны музычны інструмент — ударная ўстаноўка. Акцёр застаецца цудоўным барабаншчыкам ужо 30 гадоў, і за гэты час выступаў са сваім інструментам у розных групах, пабываў у розных мясцінах. Акрамя захаплення ігрой на барабане вельмі любіць слухаць класіку сусветнага року, джаз, блюз. Мае свае літаратурныя прыхільнасці. Апошнім часам гэта спадчына духоўных настаўнікаў.

Не так даўно Уладзіміру Тэвасяну, аднаму з лепшых акцёраў Брэсцкага тэатра лялек споўнілася 50 гадоў.

"З узростам мяняюцца каштоўнасці, погляд на свет, — разважае артыст. — Што для мяне цяпер самае галоўнае? Любоў. Тая, якая, паводле апостала Паўла, доўга цярпіць, міласэрнічае, не зайздросціць, не шукае свайго, не жадае злога… Вось маё крэда: стаўся да людзей так, як хочаш, каб яны ставіліся да цябе".

***На здымку: Уладзімір Тэвасян у ролі Караля Ліра.***

# Прафесія: купалавец

**Сяргей СТАСАЎ, фота Аляксандра Дзмітрыева**

## У народнага артыста Беларусі Мікалая Кірычэнкі — юбілей.

**Сорак гадоў свайго жыцця Мікалай Кірычэнка аддаў Нацыянальнаму акадэмічнаму тэатру імя Янкі Купалы. Гледачам, безумоўна, запомніліся шматлікія выбітныя ролі, створаныя майстрам: Ягайла ("Князь Вітаўт" А. Дударава), Менахем ("Памінальная малітва" Р. Горына), Мнішак ("Чорная панна Нясвіжа" А. Дударава), Люнгстран ("Жанчына з мора" Г. Ібсена), Джон ("Крывавая Мэры" Д. Бойкі), Ёран ("Эрык XIV" А. Стрындберга) і шмат іншых.**



Адной з апошніх выбітных работ артыста з'яўляецца выкананне ролі Харлампія Дымбы ў спектаклі "Вяселле" паводле А. Чэхава, пастаўленым расійскім рэжысёрам Уладзімірам Панковым. Тут Мікалай Кірычэнка дэманструе не толькі высокае акцёрскае майстэрства, але і ўменне падхапіць і развіць усялякую, самую нечаканую рэжысёрскую канцэпцыю, здатнасць да ігры паводле канонаў буфанады і да любога эксперыменту.

У 2006 годзе Мікалай Міхайлавіч атрымаў ганаровае званне "Народны артыст Беларусі", тады ж стаў лаўрэатам спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі "Тэатральнае мастацтва"; а яшчэ ён з'яўляецца кавалерам ордэна Ламаносава.

Працяглы час Мікалай Кірычэнка працуе ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Дацэнт кафедры майстэрства акцёра, ён выхаваў некалькі пакаленняў маладых артыстаў, якія сёння працуюць у вядучых тэатрах Беларусі.

Прыхільнікі гэтага майстра ведаюць, што ўбачыць Мікалая Кірычэнку можна ў спектаклях "Вяселле" паводле А. Чэхава, "Не мой" паводле А. Адамовіча, "Вечар" і "Чорная панна Нясвіжа" А. Дударава, "Маэстра" М. Ладо, "Памінальная малітва" Р. Горына, "Сымон-музыка" паводле Якуба Коласа, "Чычыкаў" паводле М. Гогаля, "Вячэра з прыдуркам" Ф. Вэбэра. Кожная з роляў майстра — гэта суплёт высокага прафесіяналізму і неверагоднага душэўнага ўздыму. Але самае галоўнае — гэта праява выключнай адданасці тэатру, сцэне і гледачу.

***На здымку: народны артыст Беларусі Мікалай Кірычэнка (справа) і Аляксандр Малчанаў у спектаклі "Сымон-музыка".***

# «Вечар» і вечарына

**Наталля КУПРЭВІЧ**

Роля Васіля ў п'есе Аляксея Дударава "Вечар" стала бенефіснай для купалаўца Мікалая Кірычэнкі. З паказам гэтага спектакля спалучылася вечарына, прымеркаваная да 65-годдзя артыста. Прысутныя на ёй успаміналі гады вучобы М. Кірычэнкі ў БДТМІ і спасціжэнне акцёрскага майстэрства у Брэсцкім абласным драматычным тэатры. Успаміналі драматычныя, гераічныя, камічныя вобразы, увасобленыя як на тэатральнай сцэне, так і ў кіно (стужкі "Настасся Слуцкая", "Каменская" ды інш).

Пасля спектакля гледачы стоячы, гарачымі апладысментамі, падзякавалі акцёру і павіншавалі яго. А яго выхаванцы — студэнты Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў — у гонар юбіляра выканалі песню Булата Акуджавы "Виноградная косточка". Ад калектыву купалаўцаў Мікалая Кірычэнку павіншаваў галоўны рэжысёр тэатра Мікалай Пінігін.

# На тэму шчасця

Жана ЛАШКЕВІЧ

**“Настальгічна-лірычна-гумарыстычнай вечарынай-капуснікам” святкавалі ў Маладзечне дваццацігоддзе Мінскага абласнога драматычнага тэатра: жанр імпрэзы прыдумаў і спраўдзіў на сцэне знаны маладзечанскі акцёр Алег Чэчанёў. У невялікай тэатральнай зале месца для аматараў і сяброў бракавала. Настальгаваць і гуморыцца мусілі ў зале гарадскога Палаца культуры. Згадалі, як дваццаць гадоў таму рэжысёр Мікалай Мацкевіч шчасліва падвёў свой самадзейны тэатр пад прафесійны статус, а той у новым статусе ўзяў ды пасунуў гарадскі дом культуры з ягоных абжытых плошчаў. Пасунуў, а казалі, што выселіў, захапіў, акупаваў... Наструніў увесь горад, маўляў, невядома яшчэ, што з гэтага захопу стане!**

“Я шчаслівы, што дваццаць гадоў таму ў Мінску не знайшлося будынка для Мінскага абласнога тэатра”, — прызнаецца адзін з гарадскіх кіраўнікоў, і зала ўхвальна падтрымала яго апладысментамі. Гэта значыла, што тэатр — перадусім не будынак. Што цягам дваццаці гадоў шэсць дзён на тыдзень маладзечанцы... перажываюць драму. Адну на дзвесце абраных душ, — па ліку месцаў у глядзельнай зале. І перажываюць так, што драма набывае моцы да сталасці, дэманструючы, паводле галоўнага рэжысёра Венедыкта Расстрыжэнкава, “рэдкасную адданасць прафесіі, адметную творчую працу, калі перад аўдыторыяй усялякага кшталту і ўзроўню акцёры выкладваюцца да рэшты”.

У правінцыйных тэатрах спектаклі доўга не жывуць. Але знакамітую “Камедыю” паказалі больш як 220 разоў: здаецца, гледачы ведаюць яе на памяць! Як толькі на капусніку абвясцілі пра аўкцыён “Камедыйнага” рэквізіту, дзе ў якасці лотаў фігуравалі бутэлька гарэлкі, каўбаса з капустаю, яйка і чортаў хвост — “падарункавы”, апытанне “на тэму спектакля” публіка прыняла захоплена. Трэба дужа любіць тое, што робіш, каб так нязмушана... смяяцца са свайго стаўлення! І дужа давяраць таму, хто смяецца разам з табой: свайму гледачу.

Пра жыццё ў мастацтве трымаў справаздачу акцёр Барыс Донін: ад імя свайго хрэстаматыйнага персанажа Гарлахвацкага, узброенага косткай мамантавай свінні, ад імя найстарэйшага тэатральнага акцёра і ад сябе асабіста. Дзякаваў — тэатру. За тое, што ў ім — жывуць: утвараюць сем’і, нараджаюць дзяцей, чакаюць унукаў. Так жывуць, што нават... паміраюць. За такое адданае жыццё сваіх таварышаў па мастацтве колішні дырэктар Сяргей Вальковіч называў “братулькамі”. Дзесяць гадоў таму яго самога ганаравалі “лепшым братулькам тэатра”. З 2007 Сяргея Барысавіча ўдзячна згадваюць ды цытуюць, а тэатр, між тым, усё лічыць свае страты...

Адчувальнай сталася і страта фестывалю “Маладзечанская сакавіца”. Сем гадоў запар беларускія тэатры ладзілі прафесійныя агледзіны ў Маладзечне. Яны, дарэчы, паспрыялі і пераможным выездам “Сіняга аўтамабіля” Алега Чэчанёва, і пераможным выхадам Андрыяна Барткевіча ў якасці рэжысёра — на міжнародныя фестывалі і рэспубліканскія конкурсы. У прафесійную рэжысуру рушылі Яўген Іўковіч і Раман Цыркін, у выкладчыкі — Таццяна Кавалеўская, у сталічныя акцёры — Ігар Падлівальчаў і Віктар Багушэвіч. А Мінскі абласны драматычны... застаўся. Сёння ён багаты на васямнаццаць акцёраў з актрысамі і галоўным рэжысёрам. Іх вітаюць, шануюць, адзначаюць; ім дзякуюць пафасна і па-свойску; урэшце, іх проста любяць, як напісалі ў чарговым дыпломе Алегу Чэчанёву, — “за раскрыццё тэмы простага чалавечага шчасця”.

# Да невыноснай лёгкасці быцца

**Два вечары запар “Пан міністар” выходзіў да мінскай публікі: на сцэне Дома літаратара адбываліся прэм’ерныя паказы спектакля Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача. Калі сціпла і каротка, дык супольнасць драматурга Францішка Аляхновіча і рэжысёра Уладзіміра Савіцкага вызначыла тэатральную падзею.**

**Анатоль Сабалеўскі, прафесар, доктар мастацтвазнаўства:**

— Уладзімір Савіцкі, як ніякі іншы рэжысёр, паслядоўна, настойліва, мэтанакіравана працуе з нацыянальнай літаратурай (сам інсцэніруе) і драматургіяй. “Пану міністру” папярэднічала “Няскончаная драма” ў студыі “Абзац” (1994 год; потым ён ставіў Аляхновіча і са студэнтамі БДУ культуры і мастацтваў). “Пан міністар” — выдатная камедыйная п’еса. Яна належыць чалавеку, якога ў свой час абвясцілі “бацькам беларускай драматургіі”. І не памыліліся. Францішак Аляхновіч — класік. Ягоныя героі не мемарыяльныя, але актуальныя; іх лёгка адшукаць, зірнуўшы наўкола; іх варта ўвасабляць, бо яны поўныя жыцця. Што да Філімона Пупкіна, дык я згодны з тым, як яго задумаў трактаваць У. Савіцкі, — Пупкін здольны, прагны да жыцця і дзеянняў чалавек. Яму б яшчэ выхаванне, адукацыю і чалавечую прыстойнасць...

**Рыгор Баравік, рэжысёр, выкладчык Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў:**

— Я поўны думак... Пра ўласнае ідэалагічнае прызначэнне “равуць” не адно тэатры, але перадусім гэтыя самыя “міністры”. І, натуральна, усе тыя, хто своечасова прыстасаваўся да палітычнай кан’юнктуры. Незалежна ад таго, з чыйго боку яна абвяшчаецца. А мастак, незалежна ад таго, у якім соцыуме ён стварае, мусіць мець свой погляд на свет і даносіць яго да сваіх чытачоў альбо гледачоў. Самая агідная “ідэалогія” — тая, што абвяшчаецца хлуслівымі вуснамі. А вось спектакль У. Савіцкага “Пан міністар”... падзея. Ён сацыяльна востры, па-грамадзянску смелы, з “парогам болю” за краіну і за нас за ўсіх, недарэчных і камічных персанажаў-інтэлігентаў. Падчас сустрэчы з Эмірам Кустурыцам Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка сказаў: “Беларусі бракуе моцных, мужных, думаючых і вельмі прафесійных кінарэжысёраў”. Гэта таксама мае дачыненне і да тэатральнай рэжысуры. У асобе Уладзіміра Савіцкага, Рэжысёра з вялікай літары, мы маем “моцнага, мужнага, думаючага і вельмі прафесійнага...” мастака. Брава!

Жана ЛАШКЕВІЧ

Розгалас “Пана міністра”, трактаванага Уладзімірам Савіцкім, параўналі ўжо з колішнім поспехам “Тутэйшых” Янкі Купалы, пераасэнсаваных Мікалаем Пінігіным у 1990 годзе. Услед за класікам мяркую, што ўсялякае параўнанне кульгае. Напрыклад: калі з Мікітам Зносакам дваццаць гадоў таму мы набывалі голас, дык “панам міністрам” цяпер гэты голас аддаём... А Савіцкі рушыў далей: замест звыклага Філі-свінабоя, які колькі разоў ужо тупаў на беларускай сцэне, — аднзначна нестаноўчага распусніка і дзялка-прайдзісвета, — вывеў персанаж куды больш важкі, хітрэйшы, мудрэйшы: спраўнага героя найноўшага часу.



Сцэна са спектакля “Пан міністар”

...Ірвецца ў Сусвет... свінячае рохканне. Кабета нешта цягне, лічыць, важыць. А вакол — мяхі з пячаткамі. Чорныя, чырвоныя. Паўсюль блокі, крукі. І, здаецца, хтосьці скача... да Чорта падобны... Двухпавярховая канструкцыя ар’ерсцэны падзеленая на краты-нішы, і кожны персанаж займае такую, прыкрытую фіранкаю з выявай часткі свінні. Усе фіранкі разам складаюць схему распадзелкі свіное тушы. Нішто сабе інтэр’ер прапануе мастак Віктар Цімафееў... кватэры, склада, офіса? А сам расповед пра Філімона Пупкіна нібыта ўсокладзены... на велізарныя вагі, найпершы і цэнтральны складнік сцэнаграфіі. На іх нібыта гойдаецца відовішча, важацца ўчынкі і памкненні, а вагі быццам ўвасабляюць прыцягненне — зямное, рэчавае, побытавае. Здаецца, без іх некаторыя персанажы ўзлуналі б услед за сваімі летуценнямі... (і за музыкай Альфрэда Шнітке — яе фрагментамі канчаткова знітаваў спектакль Павел Захаранка.)

Сюды да Пупкіна прыходзяць наведнікі-госці, тутака ладзяцца звады і дзеюцца справы. Тутсама лаюцца й кахаюцца, а калі нявыкрутка і трэба пастанавіць па свайм — адно аднаго ловяць мехам. Як свіней. У найпобытавай сцэне справаздачы перад Пупкіным яго каханкі і кухаркі Марты за выдаткаваныя грошы рэжысёр прыкрывае Марту і Філю чырвоным мехам, і крыўдная для кабеты справаздача выдае на адмысловую гульню каханкаў. Альбо раз’ятраны журналістамі Філя кідаецца да такога меху здрадліву сабою калоць, а пад мехам — Любачка... Альбо вагі ператвараюцца ў каруселю, якая зносіць закаханых Міколу і Любачку да мройнай будучыні: кахаць дзяўчыне беднага беларускага настаўніка і самой зрабіцца... беднай беларускай настаўніцай. Спектакль поўніцца нечаканасцямі, бо рэжысёр не спавядае чысціні фарсавага жанру і пэўныя эпізоды вырашае як фантастычныя, трагікамічныя, іранічныя і нават узнёсла-лірычныя. Жанр відовішча прыблізна можна вызначыць як фарс-фантасмагорыю, але ён абяцае развіццё з неспадзяўкамі, бо замяшана густа, утворана стромка, забудавана шчыльна.

Філімон Пупкін вымагае павагі да свайго фінансавага таленту: ён здолеў так абысці “дзіравы” закон, што ў стане аплаціць хоць уласную выбарчую кампанію, хоць якое іншае пасоўванне па сацыяльнай лесвіцы. Філімон прагне зрабіцца міністрам — для пачатку. Перадусім каб падвысіць самаацэнку. Каб распачаць новы бізнес, варты ягоных магчымасцей, і зарабіць яшчэ больш. Ну і каб... на ўсіх зайздроснікаў і недарэкаў — каб! Не дужа адукаваны, не надта выхаваны, не зусім прыстойны і зусім не сумленны (“добры чалавек, хоць і вялікі паскуднік”), Філя — таленавіты, здольны, здатны! А душэўная нявыхаванасць нічую кар’еру яшчэ не псавала — бяру ў сведкі жыццё. Ды і хто ж яе заўважыць, акрамя Міколы ды Любачкі, хто яе зразумее (і даруе), акрамя Марты? А талент вымагае дзеяння.

Дыхтоўная акцёрская работа Аляксандра Палазкова не пакідае сумневу, што Філя свайго даможацца... насуперак самому драматургу, а рэжысёр дапамагае фарсаваму Філю ўзору 1922-га (альбо 1923-га — крыніцы датуюць п’есу па-рознаму) творча асвойтацца з днём сённяшнім.

Асаблівае ўвагі вымагае рэжысёрскае стаўленне да драматургіі. Зварот да “Барыса Гадунова” абумовіў сам Ф. Аляхновіч. Савіцкі пашырыў ужыванне тэксту А. Пушкіна і надаў яму сцэнічнага аб’ёму: у першы выхад Пупкін хараша цытуе летапісца Пімена і сваю справу параўноўвае з ягонай; перачакаўшы фінальныя апладысменты публікі, Філімон на авансцэне завяршае: “Што ж вы маўчыцця? Крычыцця! Слаўцця!” Народ-публіка — рыхтык паводле паэта — не ведае, што адказаць, бо што ж на такое насланнё адкажаш?! Крычыць... певень. І насланнё... знікае? Альбо не знікае? Бо Чорт, адпрацаваўшы сваё на працягу дзеяння, шнуруе навыперадкі з усімі астатнімі персанажамі!

Рэжысёр абвастрыў інтрыгу, узяўшы колькі тэксту з іншага твора Ф. Аляхновіча — “Няскончанай драмы”; ён зрабіў невялікія гратэскавыя дадаткі ў сцэны Пупкіна з Кукішам і Пупкіна з Міколам Светляком (чаго варты іспыт на веданне беларускай мовы, калі для Пупкіна “перакладаюць” — ператлумачваюць словы “тэатр” альбо “маці”!); там, дзе за сцэнай паводле рэмаркі Ф. Аляхновіча з’яўляецца славуты народ, спявае “Мы выйдзем шчыльнымі радамі...” і змятае пупкіных як сухое непатрэбнае лісце, закулісны народ рэжысёра дзейнічае проста супрацьлегла: спачувае абсмяянаму ў прэсе кандыдату і патрабуе Пупкіна ў міністры, Пупкіна ва ўрад. Гучны псеўданім “Філіп Македонскі” нікога з тропу не збівае, македонскі — ўсё адно што мінскі ці гомельскі (Марта гэта адзначыла першаю), а газетнае выкрыццё ў вачах народа ўздымае Філю толькі што не да пакутніка. Фарсавы закулісны народ для сваіх пупкіных гэтыя самыя вочы альбо пазычыць, альбо залье, але свету за імі не ўбачыць...

Адметнымі, каларытнымі партнёрамі Аляксандра Палазкова выступаюць Леанід Улашчанка ў ролі апівохі і круцяля Арцімона Кукіша, уладарнага генерала ад журналістыкі, — дзе ступае, там, напэўна, трава не расце; Наталля Гарбаценка ў ролі Марты, чыйго кахання-спачування ў свой час дамогся Пупкін; Васіль Казлоў — беларускі настаўнік Мікола Святляк, закаханы ў наіўную Любачку, нібыта пляменніцу Пупкіна (яе падкрэслена лірычна сыгралі Таццяна Сардыцкая і Юлія Смірнова); Мікалай Лявончык — журналіст Скакун ды Людміла Асмалоўская ў ролі каларытнага памагаты Чорта. Акцёры ўніклі карыкатурнасці і прасталінейнасці, але развіццё персанажаў і абраны спосаб існавання ў спектаклі вымагаюць большай нязмушанасці, адцягненасці, лёгкасці...

Ажно да невыноснай лёгкасці быцця, якую памераюць і ўзважаць, а рады не дадуць.

Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ

# Індыйскі дзённік

**1974 г. 2 жніўня.** Э.С. пазваніў і сказаў, што фарміруецца група для турпаездкі ў Індыю і ёсць магчымасць з'ездзіць, пакаштаваць экзотыкі. А было б няблага. Індыя ўвайшла ў маё жыццё яшчэ ў дзяцінстве, у школьныя гады, у дзявятым класе. Выпадкова трапіла мне ў рукі кніга ў прыгожым цвёрдым пераплёце пад назвай “Раджа-йога”. Выдавецтва братоў Сабашнікавых. 1909 год. Аўтар, як сёння помню, нейкі Свамі Вівекананда. Магчыма, нейкая містыфікацыя, але кнігу я прачытаў і пільна прыслухаўся да яе парад, захапіўся імі. З раніцы купаўся ў нашай рацэ Лясной, піў праз нос рачную ваду, на беразе рабіў гімнастыку, асвоіў позу лотаса. І гэтак цягнулася доўга, але да медытацый я не дайшоў.

Сёння я разумею, што ёга — гэта ірацыянальны падыход да жыцця, што гэта духоўнасць іншага тыпу, не пад нашы абставіны.

Індыя — не Балгарыя і не ГДР. Капкраіна. Для паездкі туды патрэбна не абы-якая праверка ў ідэалагічнай надзейнасці і высокі дазвол.

**2 лістапада.** Маю ўжо білет на цягнік да Масквы. Ад'язджаю заўтра вечарам. Адпраўленне самалётам з Масквы.

**3-20 лістапада**. Нарэшце вярнуўся. Тыдзень у Шры-Ланцы і тыдзень у Індыі. Але запішу ўсё па парадку. На вакзале ў Мінску праводзілі Тамара і Коля Заранок са сваёй дзяўчынай. На раніцу быў ужо ў Маскве. Група сабралася ў Політэхнічным музеі, дзе месціцца праўленне ўсесаюзнага таварыства “Веды”, якое і пасылае нашу групу за мяжу. Пара чалавек з Масквы, адзін з Арэнбурга, адзін з Новасібірска, грузін, эстонец, казах, узбек і інш. У асноўным вучоныя, выкладчыкі. Прайшлі пільны інструктаж: не піць вады з водаправода, часцей мыць рукі, не ездзіць на рыкшы, бо гэта не да твару савецкаму чалавеку, не адлучацца ад групы і да т.п.

Выляталі вечарам, з аэрапорта “Шарамецьева”. Ляцелі ў сталіцу Шры-Ланкі Каломба праз Тэгеран і Карачы. Вялікі ІЛ-62 патрабаваў дазапраўкі. Да Каломба падляталі раніцай, у ілюмінатары білі зыркія промні ўзыходзячага сонца, а знізу шырока разлёгся Індыйскі акіян. Прызямліліся, пачуўшы, як шасі грузна ткнулася аб бетонную паверхню аэрадромнай паласы.

Па абедзе да мяне падышоў работнік пасольства і адначасова дырэктар Дома савецкай культуры ў Каломба і нечакана для мяне папрасіў прачытаць лекцыю пра А. П. Чэхава. Адзначалася, аказваецца, 84-ая гадавіна наведвання гэтым пісьменнікам вострава Цэйлон. Прызнаюся, хваляваўся, не ўпэўнены, што скажу нешта новае для слухачоў, але потым супакоіўся. Мяне перакладалі двайным перакладам: з рускай мовы на англійскую, а з англійскай — на мясцовую, сенегальскую. Атрымлівалася няблага. Раптам устае малады чалавек, па-цэйлонску загарэлы, са стогам чорных валасоў на галаве ды кажа:

— Чэхаў устарэў, і мне не зразумела, чаму савецкі прафесар вядзе размову пра яго, а не пра актуальнага сёння Горкага, які стварыў вобразы рэвалюцыянераў.

Я, як умеў, яму адказаў, што, маўляў, не варта супрацьпастаўляць гэтых пісьменнікаў, што яны, адзін і другі, пісалі праўду, аднак малады чалавек застаўся, мяркуючы па яго выглядзе, не згодзен і незадаволены.

Пасля лекцыі ў кабінеце дырэктара выпілі кавы і кока-колы (мне спадабаўся гэты напой — столькі пра яго чуў, але ніколі не каштаваў), і ён патлумачыў, што мой апанент — адзін з так званай групоўкі “Тамільскія тыгры”...

І пачалося наша жыццё на Цэйлоне. Паказалі нам краіну. Пальмы, какосавыя арэхі, раскошныя паўднёвыя кветкі. І на схілах пагоркаў, вялікімі тэрасамі, плантацыі чаю. Экзотыка: малпы, чорныя сланы, “райскія птушкі” ў стракатым апярэнні. Падарожнічалі мы ў тым жа невялічкім аўтобусе з гідам, што сустрэў нас у аэрапорце. Дабраліся да Кандзі — старажытнай сталіцы вострава, якая нагадвае жывапісны парк — столькі тут вады, дрэў і зеляніны. Тут, у “Каралеўскім гатэлі”, паводле сцвярджэння нашага гіда, начаваў у свой прыезд А. П. Чэхаў, любаваўся з яго вокан прыгожым возерам, якое на Цэйлоне лічыцца сакральным. Каля возера адбываюцца нацыянальныя святкаванні, карнавалы са сланамі. Тут расце аграмаднае дрэва — магнолія, пасаджаная калісьці рускім царом Аляксандрам ІІІ, яшчэ калі ён быў маладым прынцам.

У 1815 годзе Кандзі была абрабавана англічанамі, сярэбраных і залатых вырабаў у кандзійскіх храмах захавалася мала.

Нанач нам прызначылі “Каралеўскі гатэль”, у якім начаваў А.П.Чэхаў.

Купілі падарункі дадому — цэйлонскія маскі. Гэта — розныя гратэскныя выявы напаўбоскіх істот і людзей. Маскі тут вельмі папулярныя, асабліва ў вёсках.

Настаў час перабірацца ў Індыю. Тут ужо карысталіся “боінгам”. Сцюардэса тлумачыла, па-англійску, і паказвала, як трэба карыстацца выратавальным жылетам. Адлегласць паміж востравам і мацерыком невялікая. Пакуль яна тлумачыла, ляцелі ўжо над Індыяй і неўзабаве прызямліліся ў Мадрасе. Сустракалі супрацоўнікі турфірмы, усім нам павесілі на грудзі вянкі з нейкіх жоўтых духмяных кветак. Потым даведаліся: лотас.

Пасяліліся ў гасцініцы, і пачаліся вандроўкі па горадзе. Вось тут, на адной з плошчаў Мадраса, я і ўбачыў вялікую пазелянелую ад вільготнага паветра з акіяна скульптуру. На цокалі па-англійску было напісана, што перада мной Свамі Вівекананда. Мне ажно ўваччу завярнула! Той самы, чыю кнігу “Раджа-йога” я прачытаў у далёкія школьныя гады! Прачытаў і спрабаваў карыстацца яе парадамі. Стаялі даты жыцця: “1863 — 1902”. Сустрэча мяне ўсхвалявала, у такім выпадку паэты адгукаюцца вершамі, але я не паэт. Выходзіць, што праз маё жыццё прайшоў яшчэ адзін лёс.

У Мадрасе — гэта самая паўднёвая кропка Індыі — я няўдала купаўся ў акіяне. Горш, чым Пячорын у Лермантава ў “Тамані”. Згодна праграме, завезлі нас на пляж адпачыць, размясцілі ў кемпінгу, у сплеценых з лазы хатках. З хатак усе мы рушылі на пляж. Пляж — пусты. Мусіць, ніхто тут не купаецца. У белым пяску сям-там віднеюцца не то конскія, не то кароўі чарапы, абмытыя акіянскай вадой. Я паазіраўся навокал. На ўсім узбярэжжы аніякай выратавальнай службы. А што, калі каму-небудзь яна спатрэбіцца? Разам з іншымі распрануўся і я (плаваю няблага) і смела паплыў ад берага. Насустрач дзьмуў паўднёвы вецер, гнаў да берагу хвалі з белымі грабеньчыкамі. Калі так, разважыў я, то лёгка будзе вяртацца назад, і прыпусціў тэмп. Радаваўся: купаюся ў Індыйскім акіяне! Калі пра гэта марыў! Нарэшце, задыханы, спыніўся, азірнуўся назад. Бераг застаўся ўжо даволі далёка. Калегі на пляжы паменелі ў памерах, здаваліся дробнымі казюркамі. Можна было вяртацца, і я тым жа “кролем” паплыў назад. Праз некаторы час заўважыў, што плыву, працую і рукамі, і нагамі, а бераг не набліжаецца і “казюркі” не павялічваюцца. Больш таго, мяне як бы нават адносіць назад, на поўдзень. Утварылася плынь ад берага (пра такое я і не ведаў): вецер дзьмуў у бок берага, а плынь гнала ваду назад, а з вадою і мяне. Пачуў, як ад страху закалацілася сэрца, і вырашыў узяць крыху ўбок, як бы наперарэз плыні, аднак бераг не набліжаўся і намаганні мае засталіся марнымі. Тады мне прыйшло ў галаву даць нырца і паспрабаваць плысць пад вадой. Замітусіліся, здалося мне, “казюркі” на беразе. Заўважылі, відаць, што таплюся. У галаву палезлі дурныя думкі: “Гэта ж трэба было ажно сюды ехаць, каб утапіцца. Ужо лепш было б утапіцца недзе дома, чым у Індыйскім акіяне. Столькі будзе клопатаў для ўсіх, столькі пытанняў…”

Нырну, падплыву і вынырну. Аддыхаюся і зноў ныраю. Трымаю сябе пад кантролем. Заўважыў, што гэта дало вынік: бераг стаў набліжацца, і ў мяне прыбавіліся сілы. Нарэшце, нырнуўшы, убачыў дно, бледнае, з чорнымі пісягамі. Дадаў намаганняў і ўжо паблізу берага паплыў без ныранняў. Урэшце дастаў нагою дна і яшчэ праз некалькі метраў стаў на ногі. Страшэнна змарыўся, змагаючыся з акіянам. І вады наглытаўся. Абэссілены, пастаяў. Потым пакрысе падаўся да берага. Крыху адпачыў, аддыхаўся.

Плыў наўскасяк і значна аддаліўся ад таго месца, дзе знаходзілася група. Ну, думаю, пачнуць на мяне сварыцца, дастанецца мне за маё “плаванне”. Яны ж перажывалі. Падышоў да іх і зразумеў, што ніхто нічога не заўважыў. Мне нават крыўдна стала. “Куды гэта вы хадзілі?” — спакойна спытаў старшы. — “Купаўся”. — “Бярыце сваю долю!” — І працягнуў мне паўшклянкі каньяку. — “Замерз?” — “Не”. Але каньяк быў дарэчы, каб зняць стрэс.

Пасля Мадраса быў Бамбей. Пасялілі ў пяцізорачным дваццаціпавярховым гатэлі “Прэзідэнт”, які, як шмат яшчэ па ўсяму свету, належыць Хілтану, яго фірме. Тут можна жыць, ніколі не выходзячы з памяшкання. У гатэлі ёсць усё, усе службы харчавання і побыту, магазіны, басейн, спартыўныя залы, вялікія залы, якія можна арэндаваць для ўрачыстасцей, канферэнцый і ўсяго іншага. Ёсць тэлетайп. Мясцовая кінастудыя здымала тут, у файе, нейкі фільм з музыкай і танцамі. Па прыступках бегалі, мітусіліся акцёры.

У Бамбеі жывуць парсы — па веры вогнепаклоннікі. Гэта — рэлігійная абшчына зораастрыйцаў. У храмах у парсаў ніякіх абразоў няма, сцены голыя — толькі ў алтары гарыць агонь. Шлюбам заручаюцца парсы яшчэ ў дзяцінстве. Жаніх мае нявесту, а нявеста — жаніха. Прыйдзе час, падрастуць, — жэняцца.

Але самае, пэўна, цікавае ў іх — абрад паховінаў. У зямлю яны, як хрысціяне, не закопваюць, але і не спальваюць, як індусы. У амерыканскіх індзейцаў існаваў звычай хаваць нябожчыкаў на дрэвах. Парсы і гэтага не робяць. Нябожчыкаў кладуць на дахі высокіх вежаў, пад адкрытым небам. Мы бачылі такія вежы ў адным з паркаў Бамбея. На гэтых вежах і на навакольных усохлых дрэвах стаяць магутныя арлы — грыфы, якія і зжыраюць гэтых нябожчыкаў. Косці праз рашотку ападаюць уніз.

Спаткалі ў Бамбеі людзей, на маё здзіўленне, абсалютна голых. Яны трымаліся неяк адасоблена, не разумеючы, чаму на іх звяртаюць увагу. Гэта, растлумачыў нам гід, індусы-дзігамберы, “апранутыя паветрам”, як іх называюць. Жывуць яны ў гарах, але вырашылі, відаць, наведаць горад. Зрэдзьчасу гэтак робяць.

Што кідаецца ў вочы, дык гэта рэзкія сацыяльныя кантрасты: багацце і галеча, раскоша і лахманы. Шмат народу пабіраюцца, просяць, часам нахабна. Асабліва дзеці, падлеткі. Літаральна выцягваюць з кішэняў. Цікава, што да англічан (якіх сярод турыстаў тут шмат) яны не чапляюцца, а нас, савецкіх, проста за гузікі хапаюць. У мяне выцягнулі з кішэні расчоску.

Супрацоўнікі савецкага консульства ў Бамбеі, даведаўшыся, што я з Беларусі, папрасілі прачытаць лекцыю пра творчасць Івана Мележа, пра яго раманы, за якія ён адзначаны Ленінскай прэміяй. Мележ — лаўрэат Ленінскай прэміі, і гэта ўзвышае пісьменніка ў вачах маіх слухачоў. Лекцыя адбылася ў рэзідэнцыі консула, у садзе, пад адкрытым небам. Раней гэта быў маёнтак нейкага раджы. Цяпер наш консулят, ахоўваецца непальцамі.

Індыйская кухня такая ж экзатычна-вострая і своеасаблівая, як і на Цэйлоне, дзе нас частавалі пякучым мясным блюдам кары. Пасля адпіваліся чаем. Тут таксама пякучасці хапае. Да мясных блюдаў абавязкова падаюць прыправу — чатні. Нешта падобнае на кампот, але іншае на смак, бо адначасова і салодкае, і горкае, і кіслае, і палкае (у роце гарыць!). Гід тлумачыў, што тут ёсць усё: і памідоры, і яблыкі, і манга, і цыбуля, і перац, і сельдэрэй, і лімон, і цукар, і соль, і шмат што яшчэ. Чатні ёсць, а хрэну і гарчыцы, вядома, няма. А некаторыя па роднай гарчыцы ўжо і засумавалі.

Пасля Бамбея апынуліся ў Дэлі. Сталіца — на закуску. Як звычайна, уладкаваліся ў гатэлі, і адразу ж нас запрасілі ў савецкае пасольства. Я разлічваў на нейкага высокага чыноўніка, але да нас выйшаў усяго толькі саветнік па сельскай гаспадарцы — паўнаваты мужчына з прымятым тварам. Гаварыў пра сельскую гаспадарку ў Індыі.

Скончыўшы, саветнік нечакана спытаў:

— А ці няма ў вас з сабой сала?

Саветнік аказаўся ўкраінцам. Гарачыня, а яму хочацца сала. У некага знайшоўся кавалак ужо з'ёлкага сала, і яно стала ганарарам яму за інфармацыю.

У мяне ўсталяваліся сяброўскія адносіны з Пацхішвілі — такім жа, як і я, членам групы. Ён мне прызнаўся, што вельмі хацеў бы праехацца на рыкшы, але адзін баіцца ды і грошай няма. У мяне таксама не было грошай, але была прыгожая аўтаручка. Такія рэчы тут у ходу. Вяртаючыся з пасольства, мы адарваліся ад групы і нанялі рыкшу. Ён ажно загарэўся, убачыўшы аўтаручку. Пёр да гасцініцы без перадыху. Спынілі яго недзе за квартал, бо баяліся, каб не ўгледзеў хто з нашых, але ўсё абышлося.

Назаўтра павезлі ў Агру — горад непадалёку ад Дэлі. Самае галоўнае — маўзалей султана Шах-Джахана і яго жонкі Мумтаз-Махал. Цяжка, немагчыма перадаць гэтую прыгажосць. Тадж-Махал трэба бачыць.

Дужа здзівілі мяне адносіны да сферы сексу. У грамадскіх месцах, у храмах нярэдка можна сустрэць выявы інтымных момантаў і поз у палавых стасунках паміж мужчынамі і жанчынамі. Адчуваюцца нацыянальны стыль і традыцыі.

Тэрмін нашай паездкі заканчваўся, і пара было вяртацца дадому. Былі ўжо куплены і падарункі: цэйлонскія маскі і дзясятак-паўтара дробных пакецікаў чаю. Дома чай — дэфіцыт, а тут танны. Захацелася купіць нешта для Тамары. Наткнуўся на пярсцёнак з чырвоным каменьчыкам — александрытам. Не хапала грошай, дык я прадаў сваю электрабрытву і гадзіннік, але пярсцёнак купіў. Сабе хацеў купіць пярсцёнак з агатам, але не было за што. Шкада, агат носяць філосафы.

Назад ляцелі тым жа маршрутам. З Масквы — поездам.

**21 лістапада.** Я дома, з сям'ёй. Абняла мяне маленькая наша Волечка. Расказваю, што бачыў і што перажыў “у далёкім краю” (М. Багдановіч), але пра тое, як тапіўся ў Індыйскім акіяне, каб не напалохаць, не кажу.

**22 лістапада.** Выйшаў на работу. Раздаў чай. Пакецікі маленькія, але ўспрынята добра.



***На здымку:*** савецкія турысты ў Нью-Дэлі (Індыя). Другі справа — Уладзімір Гніламёдаў.

# Дзівоснае спраўджанне мары



**Сёння ўвазе чытачоў мы прапануем не гутарку з асобным мастаком, артыкул пра персанальную або зборную выстаўку, а знаёмства з цэлай установай, з адным з вядучых асяродкаў мастацтва Магілёва — Магілёўскім абласным мастацкім музеем імя Паўла Масленікава. Хоць у абласным цэнтры маецца некалькі адметных музеяў, але, са слоў некаторых членаў Магілёўскай абласной арганізацыі Беларускага саюза мастакоў, на жаль, у горадзе няма ніводнай (!) галерэі. Да слова, гэтая рэгіянальная арганізацыя, нягледзячы на тое, што Магілёў не самы маленькі абласны цэнтр Беларусі, з’яўляецца найменшай па колькасці членаў, бо апошні заезд сюды моладзі меў месца аж у 1981 годзе. І цяпер сярэдні ўзрост тамтэйшых творцаў складае каля 60 год. Ды і плата за майстэрні, якіх у горадзе ўсяго 10, амаль непад’ёмная.**

**Віктар КАВАЛЁЎ,**
**фота аўтара**

Але ж вернемся да спраў музея. Як паведаміла намеснік дырэктара па навуковай рабоце гэтай установы культуры Святлана Строгіна, музей сам па сабе даволі малады: споўнілася 20 год з дня яго заснавання і 15 год з надання яму імя Паўла Масленікава. Раней, калі ўтвараўся новы музей, існавала добрая традыцыя: усе музеі пакрыху дарылі сёе-тое са сваіх фондаў, каб калекцыя развівалася, пашыралася, была цікавай. А тут давялося пачынаць з нуля, бо быў складаны час ва ўсіх сферах нашага жыцця. Фарміраванне калекцыі пачалося з перадачы Магілёўскім абласным краязнаўчым музеем 83 твораў жывапісу, графікі, прадметаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. З таго часу фонды вельмі ўзбуйніліся: абразы, старасвецкае адзенне, рукапісы, кнігі, жывапіс, графіка, скульптура… На сёння ў фондах музея каля чатырох тысяч адзінак разнастайных работ і каля тысячы дапаможнага фонду: эцюды, малюнкі, замалёўкі, падрыхтоўчыя работы для этапных твораў. Самая буйная з калекцый — сучаснае мастацтва: жывапіс, графіка, скульптура, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. Аднак паралельна збіраюцца творы старажытнага мастацтва, што датычаць Магілёўшчыны, а таксама калекцыя фотамастацтва і фатаграфіі.

Святлана Вікенцьеўна зазначае, што музей месціцца ў будынку, які з’яўляецца помнікам архітэктуры пачатку XX стагоддзя (будаўніцтва завершана ў 1914 годзе). Гэта двухпавярховае асіметрычнае ў плане збудаванне з цэглы мае рысы стылю “мадэрн”, псеўдарускага і позняга класіцызму. Планіроўка калідорная і галерэйная з лесвіцамі ў тарцах. Аўтар праекта і архітэктар — Пётр Камбураў. Да слова, сярод шматлікіх іншых будынкаў па праекце П. Камбурава пабудаваны і Магілёўскі абласны драматычны тэатр.

Гэтае збудаванне мае багатую гісторыю. Першапачаткова тут размяшчаўся сялянска-зямельны банк. Пасля захопу чырвонаармейцамі ў лістападзе 1917 года царскай стаўкі тут выдавалася бальшавіцкая газета “Рэвалюцыйная стаўка”. Праз два гады будынак перадалі аддзелу народнай адукацыі для адкрыцця ў ім музея пралетарскай культуры. Да 1932-га тут знаходзіўся Магілёўскі дзяржаўны гістарычны музей.

Адметнасцю будыніны быў, і існуе па сёння, браніраваны пакой-сейф, дзе захоўваліся музейныя рэліквіі. Сярод іх — Крыж Еўфрасінні Полацкай, выраблены Лазарам Богшам у 1161 годзе. Пасля тут месціліся абкам і гаркам камуністычнай партыі, рэдакцыя газеты “Магілёўская праўда”, пакуль будынак не адвялі пад музей…



*З. Шкляр “Мая мара”.*

Яшчэ пры жыцці Паўла Масленікава тут створана карцінная галерэя яго імя. Гэта стала магчымым пасля таго, як Павел Васільевіч падарыў музею 125 жывапісных твораў са сваёй персанальнай выстаўкі, прысвечанай 80-годдзю з дня яго нараджэння. Таксама існуе мемарыяльная зала скульптуры Уладзіміра Летуна. 62 яго аўтарскія работы перадалі ў дарунак музею яго сямейнікі. З Магілёўшчынай скульптара звязваюць яго манументальныя праекты, работа над помнікамі П. Масленікаву, В. Бялыніцкаму-Бірулю, а таксама — над памятным знакам на радзіме апошняга ў вёсцы Крынкі Бялыніцкага раёна.

У 2007 годзе ў мансардзе створана новая пастаянная экспазіцыя “Захаваная спадчына”. Адна з яе адметнасцей — фрэска “Пераўтварэнне Гасподне” (1761) мастака-манаха Іосіфа: кампазіцыя насценнага жывапісу лесвічнай клеткі заходняй сцяны Бялыніцкага манастыра кармелітаў, знятая пры канцы 1978-га, перад тым, як храм узарвалі. Пачэснае месца займае абраз “Маці Божай Бялыніцкай”, на набыццё якога збіралі грошы ўсім светам. Побач прадстаўлены іканапіс новага часу, выявы знаных гістарычных асоб Магілёўшчыны. Яркая з’ява і кірунак у выяўленчым мастацтве — іканастас XVII стагоддзя Мікалаеўскай царквы. Кніга “Неба новае” (1699) Іаанікія Галятоўскага, выдадзеная ў Магілёўскай друкарні Максіма Вашчанкі, адмысловыя гравюры да якой выканаў яго сын Васіль Вашчанка. Навуковец, археолаг Зміцер Яцкевіч падарыў музею набор кафлі, датаванай ад XVI стагоддзя: мураваная, геральдычная, анімалістычная, з раслінным арнаментам…

Да 20-годдзя музея адкрылі новую экспазіцыю “Выяўленчае мастацтва Магілёўшчыны XX стагоддзя”. Яна месціцца ў анфіладзе на другім паверсе ў пяці залах. Гэта экспазіцыя не застыглая, яна рухомая: работы праз пэўны час ідуць на рэстаўрацыю і замяняюцца іншымі з фондаў, бо і пяці залаў вельмі мала для ўсіх твораў. Тут прадстаўлены работы 66 мастакоў, якія нарадзіліся, жылі або пэўным чынам звязаны з магілёўскай зямлёй: з Беларусі, Расіі, Прыбалтыкі, Аргенціны... Бо адна з канцэпцый развіцця музея — збіраць імёны і творчасць людзей, якія ў розныя часы мелі дачыненне да Магілёўшчыны. У экспазіцыйных залах — жывапіс: сюжэтна-тэматычныя карціны, пейзажы, партрэты, нацюрморты, графіка, скульптура, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. У самай вялікай з пяці залаў праходзяць камерныя канцэрты класічнай музыкі, якія маюць сваю сталую публіку.

Сярод работ — этапныя творы Паўла Масленікава, прысвечаныя Беларусі і з вандровак па Прыбалтыцы, Каўказе, Крыме; карціна Вітольда Бялыніцкага-Бірулі “Месяцовая ноч”, напісаная ў 1937 годзе. Іншыя работы прадстаўленыя такімі аўтарамі, як Антон Бархаткоў, Мікалай Федарэнка, Віктар Грамыка, Мікалай Ткачоў, Анатоль Концуб, Антон Ясюкайць, Леанід Гоманаў, Ларыса Журавовіч, Уладзімір Напрэенка, Вера Юркова, Марына Несцярук, Фёдар Кісялёў, Мікалай Ліханенка, Леанід Марчанка, Уладзімір Панамароў, Уладзімір Дамарад, Уладзімір Каралькоў, Барыс Первунінскіх, Галіна і Уладзімір Конанавы, Рыгор Таболіч, Аляксандр Суvotароў… У экспазіцыі знаходзіцца цікавая карціна мастака З. Шкляра “Мая мара”. І сваёй марай ён прадказаў гісторыю будынка. На час напісання работы ў ім былі абкам, гаркам, рэдакцыя газеты. На палатне на даху збудавання аўтар змясціў шыльду з вялікіх літар “Магілёўская карцінная галерэя”, на тратуары паставіў афішу выстаўкі “Шэдэўры Эрмітажа” і выпісаў даўжэзную чаргу наведвальнікаў, жадаючых патрапіць у галерэю. Літаральна праз тры гады мара майстра здзейснілася — у гэтым будынку быў заснаваны Магілёўскі абласны мастацкі музей, якому пасля надалі імя Паўла Масленікава.

Акрамя пастаянных экспазіцый першы паверх адведзены пад зменныя выстаўкі, якіх штомесяц адкрываецца па 2 — 3. Прычым не толькі знакамітых мастакоў, а і маладых творцаў. Увазе разнастайнага густу наведвальнікаў — усе віды мастацтва: ад жывапісу, батыка да фатаграфіі.

Музей з’яўляецца навукова-даследчым, метадычным і выхавацельным цэнтрам вобласці, асноўным калекцыянерам і захавальнікам помнікаў матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага этнасу ды іншых народаў, якія пражываюць на тэрыторыі нашай краіны, рухомых гісторыка-культурных каштоўнасцей, а таксама твораў мастацтва, якія ўваходзяць у склад музейнага фонду Беларусі.

## Аматарам жывапісу

**Віктар ЗАЯЦ**

**Як** паведамілі з навукова-экспазіцыйнага аддзела Музея сучаснага выяўленчага мастацтва, гэтымі днямі там працуе выстаўка жывапісу і графікі Аляксандра Ісачова з прыватнай калекцыі Алега Арлова. Работы мастака носяць рэлігійна-філасофскі характар, ён імкнецца стварыць своеасаблівую карціну-абраз як прадмет медытацыі, праз які магчымыя прамыя зносіны з Боскім. А. Ісачоў свядома запазычыў тэхніку класічнага гладкага пісьма старых майстроў, здзяйсняючы пошук у галіне ідэі, але не формы (паводле яго меркавання, сусветны жывапіс гэты шлях прайшоў ужо). Спалучэнне рэалістычнага фігуратыўнага жывапісу з падвышаным градусам каларыту з’яўляецца нейкім балансам паміж класічным і авангардным мастацтвам і стварае дзіўнае адчуванне ірэальнасці. Усе творы люструюць містыцызм, а апошнія работы — цяжкую энергетыку. Першапачаткова Ісачоў піша біблейскія сюжэты і рэлігійных персанажаў, партрэты, пейзажы. Важкае месца займае вобраз Хрыста, які малюецца дзясяткі разоў і праходзіць праз усю творчасць. Партрэт у мастака перастае быць чыстым жанрам — персанажы паўстаюць на фоне касмічных бездaней, рэнесансанай прыроды або сюррэалістычнага антуражу.

**У чора** ў Гарадской мастацкай галерэі твораў Леаніда Шчамялёва адбылося адкрыццё праекта мастака Васіля Зянько “Драпежнік і ахвяра”. Са слоў аўтара, у дадзены праект увайшлі жывапісныя кампазіцыі, якія ўвасабляюць прадстаўнікоў фаўны, адны з якіх выступаюць у ролі паляўнічых, а іншыя — у ролі патэнцыяльнай здабычы. Ідэя выстаўкі не абмяжоўваецца толькі паказам сістэмы “драпежнік — ахвяра” ў вечна эвалюцыйным свеце біясферы. Хоць ужо адно толькі гэта заслугоўвае пільнай увагі мастака, бо ўсё ў прыродзе мае непаўторную прыгажосць, разнастайнасць і мудрасць светабудовы.

Васіль Зянько спадзяецца, што, магчыма, спанатраны глядач прасочыць у прадстаўленых кампазіцыях пэўную ўзаемасувязь агульных законаў прыроды з грамадствам. Таму што ў свеце людзей таксама ёсць свае “драпежнікі” ды “ахвяры”. Такі “падзел” адбываецца ў адпаведнасці з псіхалагічным складам кожнага чалавека. Дуальнасць свету вымагае, што ў нашым Сусвеце ўсё імкнецца да пэўнага балансу: права заўсёды ўраўнаважвае лева, верх — ніз, добра — дрэнна, ахвяра — гвалтаўніка, драпежнік — здабычу і г.д. Зыходзячы з адпаведнасці такога роду раўнавагі, псіхалогія “ахвяры” і “драпежніка” не можа быць аднолькавай з усімі вынікаючымі адсюль наступствамі. Але, у адрозненне ад свету прыроды, у грамадстве магчыма існаванне і трэцяга шляху — так званага пасярэдняга. Можна быць ні тым і ні іншым або тым і іншым адначасова. І менавіта на гэтым стыку з’яўляецца свабода, бо, знаходзячыся ў адной з крайнасцей, чалавек застаецца залежным ад уласнай мадэлі паводзін. І тады ў яго ёсць толькі шлях на супрацьлеглы бок. Для тых, хто абраў пасярэднюю пазіцыю, ёсць два шляхі, якія аднолькава добра бачныя. І з гэтай пазіцыі можна больш аб’ектыўна ацаніць рэчаіснасць.

У той жа час пабудова падобнага роду паралелей паміж светам прыроды і соцыумам з’яўляецца толькі суб’ектыўным пунктам погляду аўтара праекта. Кожны з гледачоў мае права на сваю асацыятыўнасць пры праглядзе выстаўкі “Драпежнік і ахвяра”.



# Прафесійная еднасць творчасці

**“Я, каторы сатварыў цябе без цябе <…> не магу выратаваць цябе без цябе”. Сцвярджаюць, так блажэнны Аўгусцін вуснамі Госпада звярнуўся да чалавека. Таго, каму наканавана было стаць у гэтым жыцці творцам: свайго лёсу, лёсу краіны і грамадства і — творцам па прафесіі. Што да апошняга, то прынятае як крылаты выраз правіла ўносіць і іншы акцэнт: прыгажосць выратуе свет.**

**Ірына ТУЛУПАВА**

Так бывае, што паклікання да творчасці, той самай, што нясе людзям святло і дабрыню, адчуваюць плячо адно аднаго — якім бы розным ні падаваўся іх занятак. Вось і ў Гомельскай цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя А. І. Герцэна ладзілася выстаўка твораў адразу некалькіх відаў мастацтва: выкананыя ў тэхніцы батык, габелен і ткацтва. Гэта работы Ірыны Данілавай, Таццяны Ананьевай, Веры Вараб’ёвай, Кацярыны Шаўчук, Наталлі Суворавай, Веранікі Петрачэнкі і Наталлі Блоцкай. З адмысловымі карцінамі і прадметамі побыту выдатна суседнічае кераміка Тамары Дзмітрыевай. Пачынаючы расповед пра сваю працу, спадарыня Тамара зазвычай бярэ ў рукі керамічны, а гледачы “прачытваюць” зямны, шар. На ім майстар намаляваў цёмным колерам лініі, на першы погляд, хаатычныя, якія вельмі нагадваюць шляхі-дарогі або рэкі і рэчачкі, што густа апаясалі нашу зямельку: вось такая міні-мадэль свету. І не ўзнікае сумненняў, што гэта таямнічы, загадкавы, але сапраўдны твор мастацтва. Як у прызнаным шэдэўры, у ім зашыфравана абавязковая мастацкая праграма, запавет майстру, кім ён павінен быць сярод людзей. Прэзентацыя твораў пры такім зачыне адразу набывае высокае гучанне, бо ў кожнага з’яўляецца перакананне: пакуль жанчына-майстра трымае ў руках Сусвет, можна быць спакойным за жыццё на планеце.

Кераміка — заўважана многімі — нясе ў сабе цяпло. Таму так вабіць вока кожны выраб: мікракарціна ў сціснутай прасторы выставачнай залы альбо керамічны посуд у хаце дбайнай гаспадыні, у якім надзіва смачнымі падаюцца прыгатаваныя стравы. Зазвычай чалавек, хто спрычыніўся да працы з такім прыдатным матэрыялам, мае вялікі жыццёвы досвед. Тамара Дзмітрыева скончыла архітэктурны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута ў Мінску, пасля працавала шмат і плённа: архітэктарам у Іркуцку, дзе займалася праектаваннем дамоў; асістэнтам у Іркуцкім політэхнічным інстытуце на кафедры тэорыі і гісторыі архітэктуры; настаўнікам малявання, чарчэння і сусветнай мастацкай культуры; дырэктарам выставачнай залы г. Саянска. А пасля вярнулася ў Беларусь. Па яе эскізах у Гомелі створаны захапляльныя ландшафтныя скульптуры і дэкаратыўныя кампазіцыі “Яшчарка”, “Рысь”, “Краты”, “Яблыкі”, сяміметровы “Гулівер” — яны ўпрыгожваюць вуліцы, паркі і скверы горада над Сожам. Тамара займаецца ландшафтным дызайнам, скульптурай і керамікай. На выстаўцы яе светапогляд люструецца ў філасофскіх кампазіцыях: анёлаў, позірк якіх скіраваны ў неба, іх трымае на сабе зямная (ды водная) істота — чарапаха; прыязнае сонца, што як быццам прасвятляе ўзоры нашага жыцця…

Габелены члена Беларускага саюза мастакоў Ірыны Данілавай і мастака Арсена Дваронiна знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, у Францыі і Бельгіі. Мастачка прапанавала для экспазіцыі ў бібліятэцы некалькі сваіх работ. Ірына Данілава выкладае ў Гомельскім дзяржаўным мастацкім вучылішчы якраз дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, вучыць выхаванцаў роспісу па тканіне, далучае да мастацтва вырабу габеленаў. Цяпер настаўніца ставіць задачу пераканаць сваіх навучэнцаў, што любоў выказваецца з дапамогай розуму, але зыходзіць ад сэрца, і толькі тады ўнутраная гармонія майстра ўвасабляецца ў палотнах карцінамі рэальнага свету.

“Раніца. Дзень. Вечар”, “Сланечнікі”, “Вясеннія плыні”, “Палескія сірэны”, “Летняя замалёўка” — назвы дыпломных работ выпускніц і цяперашніх навучэнцаў мастацкай вучэльні яскрава сведчаць пра цікавасць да роднага краю, яго прыроды і традыцый. Іх як быццам паглыбляе, нагадвае пра народную традыцыю ўзорны, тканы, арнаментальны ручнік. Яму на выстаўцы адведзена ганаровае месца: ручнік — сакральная рэч у беларускай абраднасці. Гэты таямнічы прадмет нашага побыту заўсёды семантычна насычаны. Сярод іншых на выстаўцы прадстаўлены “Ручнік на народзіны дзіцяці”. А яшчэ на “карцінах” — выявы жанчын у беларускіх строях (“Справа рук чалавечых”), якія ўвасабляюць сабою лепшыя рысы беларусак: іх прагную працавітасць, зямную прыгажосць, невычарпальную пяшчоту, усёдаравальную дабрыню і бясконцую любоў, калі нават на карцінах ад напоўненасці сэрцаў як быццам гаворaць іх вусны.

Усе майстры, якія прадставілі ў кніжнай скарбніцы свае работы, з’яўляюцца ўдзельнікамі штогадовых абласных і рэспубліканскіх выставак дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

***На здымку: кампазіцыя “Тры анёлы”.***

## Сталічны вернісаж

**Наталля КУПРЭВІЧ, фота аўтара**

Вясновым падарункам — выстаўкай прыгажосці, якая адкрылася ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, павіншавалі мінчукоў са Стрэчаннем майстры дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Беларускага саюза мастакоў.



Тамара Васюк “Знак чалавека”

Кампазіцыйныя вырашэнні экспазіцыі выстаўкі ствараюць творы з керамікі, габелены і ўзоры мастацкага ткацтва, якія аб’яднаны ідэяй захаплення прыгажосцю прыроды і навакольнага свету. Таму, як паведаміла на адкрыцці выстаўкі яе куратар Ала Непачаловіч, праект атрымаў назву “Цаца ёсць цаца”. Бо Цаца з’яўляецца беларускім правобразам багіні прыгажосці. Прыгажосць керамікі Тамары Васюк, Максіма Калтыгіна і Алега Ткачова, габеленаў Наталлі Сухаверхавай, Уладзіміра Лісавенкі і Вольгі Рэднікінай, мастацкага ткацтва Алы Непачаловіч будуецца на спалучэнні пластычнага вырашэння ідэі праекта з цеплынёй і прыгажосцю натуральных якасцей прыродных матэрыялаў — воўны і гліны. Прадстаўлены таксама і сумесныя кампазіцыі. Гэта — вельмі змястоўныя інсталяцыі Алы Непачаловіч і Тамары Васюк, якія створаны на аснове вынікаў даследчай працы ў галіне славянскай старажытнай міфалогіі і з’яўляюцца спробай вяртання да вытокаў увасаблення цеаснай жыццёвай народнай філасофіі і філасофіі сусвету. Разам з творамі мастакоў на выстаўцы экспануецца сама ідэя харавства, якая адпавядае адчуванню гармоніі з прыродай і выклікае ўздым чалавечых пачуццяў. Праект “Цаца ёсць цаца” не абмежаваны рамкамі адной выставы, а будзе працягнуты і надалей.

Сёлета споўнілася 55 гадоў з дня народзінаў мастака і педагога Юрыя Макарава, які кіраваў мастацкай студыяй студэнцкага гарадка БДУ. Так, у фае будынка рэктарата БДУ адкрылася выстаўка жывапісу, графікі і скульптуры “Дотык да палітры” памяці Юрыя Георгіевіча. Выстаўка арганізавана Саюзам жанчын БДУ сумесна з Беларускім саюзам мастакоў.



Юрый Макараў “Ціхая флейта”

Юрый Макараў — выпускнік (1981 г.) і выкладчык Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Яго настаўнікамі былі Х. Ліўшыц, М. Залозны, М. Данцыг. Асноўныя жывапісныя работы мастака: “У майстэрні. Партрэт маладых беларускіх мастакоў”, “Імкненне”, “Пагроза”, “Чорны лес”, “Чырвоная ралля”, “Абраза дзеяннем. Гмах”. “Атракцыёны. Карусель”, “Партрэт Тамары”, “Ціхая флейта”, “Чорны анёл”, “Ціхая флейта ў начы”, “Ідучы са свечкай”, серыі “Бэз”, “Untitled”.

Творы Юрыя Макарава знаходзяцца ў музеях Мінска, Полацкім гісторыка-культурным музеі-запаведніку, карцінных галерэях Валгаграда і Пскова, фондах Беларускага саюза мастакоў і Міністэрства культуры Расіі.

У экспазіцыі выстаўкі прадстаўлены работы калег і сяброў Юрыя Макарава: партрэтны жывапіс Уладзіміра Кожуха, Аляксандра Ксяндзова, Сяргея Лагуновіча-Чарэпкі, пейзажы Сяргея Балянка, нацюрморты Марыі Ісаёнак і Надзеі Ліўенцавай, графіка Уладзіміра Мехавіча і Сяргея Балянка, скульптура ў бронзе Уладзіміра Слабодчыкава і дрэве Аляксандра Фінскага.

Цэнтральнае месца ў экспазіцыі займаюць пяць работ Юрыя Макарава. Адзін з апошніх няскончаных твораў, на якім спынілася яго рука, быў дамаляваны Канстанцінам Шаранговічам і названы “Кветкі для Вольгі”. У сваёй прадмове да карціны, якая прысвечана Юрыю Макараву, ён адзначыў, што жыццё мастака мае працяг у палотнах, якія ён пакінуў. І таму Канстанцін Шаранговіч узяў на сябе адказнасць працягнуць яго намер і жаданне.

# Як зацвітае саломка?

**Спытайцеся пра гэта ў Тарэсы Худзяковай — народнага майстра Беларусі з Новалукомля. Сярод тых, хто займаецца саломапляценнем, яна вядомая менавіта як стваральнік найпрыгажэйшых саламяных кветак у нашай краіне.**



**Ірына ТОРБІНА, фота аўтара**

Хай за вокнамі кружыцца мяцеліца ці спявае песню вясенні шпак, хай радуе пяшчотай цёплы летні дожджык ці сцеле дыван восеньскі лістапад — у рабочым кабінеце выкладчыка школы мастацтваў горада энергетыкаў — пара цвіцення. Валошкі, рамонкі, ружы Тарэсы Альфонсаўны ніколі не адцвітаюць. З гадамі дзівоснае царства Флоры робіцца толькі больш вытанчаным, далікатным. Сакрэт вельмі просты: рукі таленавітай новалукамчанкі вымушаюць цвісці саломку. “Кветкі, — лічыць майстрыха, — сімвалізуюць Беларусь”.

Нядаўна ў раённым Доме рамёстваў адкрылася выстаўка Т. Худзяковай і яе вучняў. Каму давялося бачыць, былі вельмі ўражаны і захавалі самыя цёплыя ўспаміны. Пагладзець ёсць на што. Майстар здолела зачараваць старадаўнім рамяством і зусім юных гаражан, і равеснікаў, і тых, хто нашмат сталейшы за яе. Першыя ўрокі гэтага захаплення сама атрымала ад маці.

…Вячэрні прыцемак даўно ахутаў вёску. А ў хаце Тарасевічаў святло будзе гарэць яшчэ доўга. Управіўшыся з гаспадарскімі справамі, Вільгельміна Адольфаўна бярэцца за любімую работу. Суседзі, родныя, знаёмыя ідуць і ідуць з просьбамі. Некаму патрэбна бялізна на вяселле для маладых, іншым — убор, сурвэтка, рукавіцы, хустка… Не было лепшай майстрыхі ў акрузе, чым мама маленькай Тарэсы. Рышэльe, вышыўка, вязанне, шыццё — чаго толькі не ўмела! З іголкай, кручком ці пруткамі ў руках яна магла сядзець да світання, выконваючы чарговы заказ. З цяжкасцю ўдавалася адправіць спаць дачку: тая, нібы зачараваная, сачыла за мамінымі пальцамі. Ішлі гады. Дарослыя рана заўважылі талент дзяўчынкі. З прафесійным выбарам Тарэса не вагалася: вядома, мастацка-графічны факультэт. Шчаслівымі былі студэнцкія гады ў Віцебску, а працоўны шлях яна пачынала ў Новалукомлі. Спачатку — выкладчык спецыяльных дысцыплін у агульнаадукацыйнай школе, крыху пазней — у школе мастацтваў. Стаўшы гараджанкай, ніколі не парывала сувязі з вёскай. Яе работы — сведкі таго, наколькі блізкі майстру вясковы лад жыцця, народныя промыслы.

Ідэя сур’ёзна займацца саломапляценнем прыйшла ў 1990-я гады. Яшчэ ў дзяцінстве маці навучыла плесці простыя рагожкі. Тарэса Альфонсаўна вельмі любіць кветкі і не магла забыць, якімі прыгожымі яны атрымліваліся ў Вільгельміны Адольфаўны. Тая рабіла іх са стружкі. Як жа будзе выглядаць флора з саломкі? Гэтая думка не давала спакою. Першую і вельмі простую кветку зрабіла гадоў дваццаць назад. Потым спыніцца ўжо не магла, асвойвала тэхніку рамяства, стварала новыя і новыя вобразы. За гэты час назапасілася найбагацейшая калекцыя саламяных вырабаў. Ёсць там цукерніцы, вазы, капелюшы, але больш за ўсё — кветак. Апошнія маюць надзвычай шыкоўны выгляд. Для іх характэрныя вялікія памеры і складаныя кампазіцыі. На адной сцябліне размешчаны суквецці, галінкі, бутоны і лісце. Дзякуючы аўтарскай фантазіі яны разнастайныя па форме і дэкаратыўных упрыгожваннях. Майстар пляце мноства асобных непаўторных кветак і разнастайных букетаў, карыстаецца ўсімі вядомымі пляцёнкамі, а таксама сваімі аўтарскімі. Некаторым з іх яна дала назвы: зорачка, вяровачка, дэкаратыўны лісцік. Усяго — каля трыццаці.



Аглядаючы залу, убраную далікатнымі жоўтымі букетамі, адчуваеш нешта незвычайнае. За акном сакавік, а здаецца, танюткія сцяблінкі саломы, ператварыўшыся ў пялёсткі кветак, маюць водар шчодрага лета. Кожны вазон — нібы сонечны прамень. Чым больш углядаешся, тым больш разумееш: такая справа па плячы толькі сапраўднаму майстру. Колькі кветак зрабіла Тарэса Альфонсаўна за гэты час? У саломапляцельшчыцы свая сістэма падліку. Яна прыгадвае выдатныя водгукі пра свае вырабы, якія даваліся чуць падчас не аднаго “Славянскага базару”, розных іншых свят, шматлікіх конкурсаў, выставак. Я слухаю і думаю: каб сабраць усё, зробленае гэтай таленавітай жанчынай, дываном з кветак можна было б упрыгожыць усе вуліцы горада энергетыкаў. А калі дадаць яшчэ работы вучняў? У Тарэсы Альфонсаўны ёсць усе падставы ганарыцца сваімі паслядоўнікамі, сярод якіх Дзяніс Міжуй — добра вядомы саломапляцельшчык у Беларусі. Яго саломка пабывала нават за акіянам.

Сёння народны майстар Тарэса Худзякова шкадуе толькі пра адно: не хапае часу. Сваімі ідэямі дзеліцца з вучнямі і дапамагае іх увасабляць. Каму каркас зробіць, каму эскіз, каму проста добрую параду дасць. Вось і рухаецца справа. Сама ж марыць зрабіць з саломкі дрэва жыцця — аб’ёмную кампазіцыю ў памяць пра сваіх продкаў, сваё карані.

***На здымках: народны майстар Беларусі Тарэса Худзякова; работа Алы Барадаўкі, вучаніцы майстрыхі.***

**Дарадцам і кансультантам рубрыкі “Дзівасвет” выступае старшыня БСМНТ Яўген Сахута.**

**Водгукі і матэрыялы дасылайце на e-mail: lim_new@mail.ru з пазнакай “Дзівасвет”.**

Імпрэзы

# Вілейка: падарожжа ў часе

**Максім ЛАДЫМЕРАЎ**

**Знаны філакартыст, лаўрэат прэміі “За духоўнае адраджэнне” Уладзімір Ліхадзедаў парадніўся з Вілейкай.**

Пра гэта гаварылі многія ўдзельнікі святочнага адкрыцця фотавыставы “Вілейка: падарожжа ў часе” ў Вілейскім краязнаўчым музеі. Увазе гледачоў прадстаўлены рэпрадукцыі і арыгінальныя выявы старых паштовак з калекцыі У. Ліхадзедава і фонду музея. Варта згадаць, што старадаўняе мястэчка неаднойчы на пачатку XX стагоддзя прыцягвала ўвагу фотамайстроў і шараговых фатографаў. А ў даваенныя дзесяцігоддзі ў Вілейцы працавала фотаатэлье Б. Бермана.

— Вілейскі край, жыхары нашага раёна, горада, — зазначыла старшыня Вілейскага раённага савета дэпутатаў Наталля Радзевіч, — дастаткова ўважлівыя да гісторыі, культуры роднай старонкі. І прыемна, што да асветніцкай работы краязнаўчага музея, руплівых збіральнікаў памятак мінуўшчыны Вілейшчыны далучаецца Уладзімір Аляксеевіч Ліхадзедаў. Мы спадзяёмся, што гэтая выстава — толькі пачатак многіх яго гісторыка-краязнаўчых праектаў, зарыентаваных на вывучэнне, даследаванне Вілейскага краю.

Вілейка краязнаўчая — гэта і шматабсяжная дзейнасць Анатоля Рогача, які, на вялікі жаль, нядаўна пайшоў з жыцця, і грамадская ініцыятыва Барыса Цітовіча па фарміраванні мемарыяльнай прасторы ў памяць пра Першую сусветную, і музейныя праекты Вольгі Коласавай, і мастацкае ўзнаўленне памяці пра родны горад жывапісцам Эдуардам Мацюшонкам… Рэпрадукцыі старых паштовак настроілі ўдзельнікаў прэзентацыі выставы на роздум. Нельга не адзначыць, што выставачная зала музея — па адрасе плошча Свабоды, 1, была перапоўненая… Відавочнай з’яўляецца зацікаўленасць жыхароў горада ў спасціжэнні гістарычнага партрэта Вілейкі мінулых часоў.

— Углядаючыся ў старыя вуліцы, адкрываючы іх даўнія назвы, — падзяліўся сваімі развагамі мастак і краязнаўца Барыс Цітовіч, які ўжо некалькі дзесяцігоддзяў жыве ў вілейскай вёсачцы Заброддзе, — мы не толькі адкрываем для сябе даўнія гістарычныя ландшафты, а яшчэ і ствараем вакол пэўны культурны, духоўны ландшафт. Новае веданне пра мінуўшчыну, чым і апякуецца Уладзімір Аляксеевіч Ліхадзедаў, выхоўвае чалавека, развівае мысленне, падштурхоўвае да разумнага пераабсталявання свету, рэчаіснасці.

Вілейка — бязмежная прастора для тых, хто хацеў бы асэнсаваць лёс нашай Айчыны. У шэрагі такіх настойлівых вілейскіх шукальнікаў ісціны дастойна ўваходзіць і Уладзімір Ліхадзедаў. Варта, між іншым, адзначыць, што літаральна за некалькі апошніх гадоў ён арганізаваў каля трыццаці філакартычных выстаў па ўсёй краіне. А яшчэ аўтарытэтным даследчыкам і збіральнікам выдадзена 10 (!) філакартычных альбомаў. Рэпрадукцыі паштовак з калекцыі У. Ліхадзедава надрукаваныя ў многіх іншых выданнях.

Афарызм

*Дзеці – усмешка Божая.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

Творцы

# Адданы слову

**Тамара КРАСНОВА-ГУСАЧЭНКА**

**Гэтая сустрэча паэта Алеся Жыгунова з моладдзю ў Віцебску была незвычайнай. Гэта быў фактычна майстар-клас. Сустрэча прайшла ў межах Тыдня беларускай філалогіі і культуры ў Віцебскім дзяржаўным універсітэце імя П. М. Машэрава. Падрыхтавала яе загадчык кафедры беларускай літаратуры, паэтка Вольга Русілка.**

Алесь Жыгуноў — асоба вядомая, лаўрэат Віцебскай абласной літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Караткевіча, таленавіты чалавек, што праявіў сябе не толькі ў паэзіі, але і ў настаўніцкай справе, і ў журналістыцы (ён супрацоўнік газеты “Веснік Глыбоччыны”). Творчасць літаратара прывабіла студэнтаў тым, што ён прадстаўляе традыцыйную беларускую лірыку, якая наследуе маладычнасць і пачуццёвасць вершаў М. Багдановіча і Янкі Купалы. Алесь Жыгуноў піша пра Радзіму, бацькоў, каханне — а гэта вечныя тэмы.

Сустрэча праходзіла ў некалькі этапаў: на першым з іх прысутныя атрымалі магчымасць бліжэй пазнаёміцца з творчасцю паэта (ён з захапленнем чытаў свае вершы, гучалі песні, словамі якіх сталі яго радкі), на другім адбылося ўзнагароджанне пераможцаў конкурсу студэнцкіх публікацый у СМІ. А пасля паэт раскрыў некаторыя сакрэты вершаскладання членам літаратуразнаўчага гуртка, што дзейнічае пры факультэце. Расказаў пра свой паэтычны шлях, самага любімага з паэтаў — Сяргея Ясеніна, падзяліўся думкамі наконт паэтычнага таленту.

— Ён — як крынічка, — выказаўся Алесь Міхайлавіч, — калі ёсць, то рана ці позна праб’ецца, нягледзячы на ўсе цяжкасці і перашкоды. Усё ж такі пісаць вершы навучыць нельга — можна толькі выкласці асновы вершатворчасці. А вось падтрымка, цёплае слова маладому паэту вельмі патрэбныя. Калі мае вершы прагучалі на з’ездзе пісьменнікаў, дзе іх прачытаў вядомы паэт Анатоль Вярцінскі, падкрэсліўшы пры гэтым, што такіх правінцыйных паэтаў трэба прымаць у творчы саюз нават без кніжкі, гэта надта дапамагло мне і ў творчасці, і ў жыцці. Урэшце, я — член Саюза пісьменнікаў Беларусі.

А яшчэ Алесь Жыгуноў сказаў, што паэзія — гэта прызванне, гэта такая ўлюблёнасць у роднае слова, адданасць яму такая, што без яго ты проста не ўяўляеш сябе ў гэтым свеце. І ты не проста прамаўляеш штосьці, ты выяўляеш сябе, выказваеш сваё стаўленне да людзей, прыроды, спавядаешся душой. І робіш гэта прыгожа: вобразна, у рыфму. Зрэшты, пра рыфмы ты не надта і думаеш: яны самі прыходзяць да цябе.

А наогул, каб пісаць самому, трэба цікавіцца тым, што напісалі да цябе. І шмат-шмат вершаў ведаць на памяць. Гэта дапаможа не паўтарыць кагосьці, а абраць сваю уласную паэтычную сцяжынку.

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА “Саюз пісьменнікаў Беларусі”, РВУ “Літаратура і Мастацтва”
Галоўны рэдактар Алесь КАРЛЮКЕВІЧ



Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04,
дадатак “Кніжны свет” — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73

E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп’ютарнага цэнтра РВУ “Літаратура і Мастацтва”.
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва”.
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства “Выдавецтва “Беларускі Дом друку”
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856

Наклад — 3113
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 24.03.2011 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 1346
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686